УДК 821.161.3.09"19/20"-4
ББК 83.3(4Беи)
Т83

Рэкамендавана вучоным саветам
Інстытута журналістыкі БДУ
14 верасня 2010 г., пратакол № 2

Р э ц э н з е н т ы:
доктар філалагічных навук, прафесар *Т. М. Дасаева*;
кандыдат філалагічных навук, дацэнт *А. М. Елавік*

**Туміловіч, Н. В.**
Т83 Выпрабаванне часам : публіцыстычнае асэнсаванне рэчаіснасці / Н. В. Туміловіч. – Мінск : БДУ, 2012. – 104 с.
ISBN 978-985-518-613-8.

У выданні разглядаюцца эвалюцыя і тэматычныя кірункі беларускай публіцыстыкі другой паловы XX – пачатку XXI ст.; аналізуецца асэнсаванне галоўных праблем рэчаіснасці ў нарысах вядомых айчынных журналістаў; даследуецца публіцыстычная творчасць У. Караткевіча, Я. Сіпакова, А. Адамовіча ў адпаведнасці з галоўным шляхам развіцця беларускай публіцыстыкі. Асаблівая ўвага надаецца вывучэнню ролі і запатрабаванасці публіцыстыкі ў сучасным грамадстве.

Выданне разлічана на студэнтаў і выкладчыкаў журналісцкіх спецыяльнасцей, супрацоўнікаў рэдакцый СМІ і выдавецтваў.

**УДК 821.161.3.09"19/20"-4**
**ББК 83.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-518-613-8**

# УВОДЗІНЫ

Публіцыстычныя творы займаюць адметнае месца ў журналісцкім і літаратурным працэсе. Публіцыстыка актуалізуе ў соцыуме пэўныя ідэалагічныя ўстаноўкі, маральныя каштоўнасці, дапамагае ўключэнню асобнага чалавека ў структуру сацыяльных адносін, вызначэнню асабістага меркавання і выяўленню агульных тэндэнцый, характэрных для грамадскага настрою пэўнай эпохі. У адрозненне ад іншых відаў літаратуры, якія апасродкавана ўплываюць на фарміраванне чалавечай свядомасці (уплыў гэты мае пераважна індывідуальны характар), публіцыстыка непасрэдна спрыяе вызначэнню грамадзянскай пазіцыі асобы.

Знаходзячыся на мяжы розных відаў літаратуры, гэта галіна сінтэзуе прыкметы, уласцівыя мастацкай прозе, дакументалістыцы, навукова-папулярнай літаратуры, журналісцкім тэкстам. Публіцыстыка характарызуецца дакладным абазначэннем тэмы, увагай да актуальных пытанняў, строгай дакументальнасцю фактаў. Менавіта ў апошнім яе адрозненне ад прозы, дзе могуць быць выкарыстаны мастацкія абагульненні, лірычныя і філасофскія адступленні, сімвалічныя вобразы, прыём тыпізацыі з'яў рэчаіснасці на падставе назіранняў аўтара за жыццём з дапамогай творчага ўяўлення. У публіцыстыцы тыпізацыя заснавана на знаходжанні ў рэальным жыцці найбольш тыповых, сацыяльна значных фактаў. Праблематыка публіцыстыкі часта хуткаплынная, аднак лепшыя яе творы не страчваюць актуальнасці і праз дзесяцігоддзі, вымалёўваючы панараму мінулага і выяўляючы сувязі, асацыяцыі з надзённым жыццём.

Мастацкая публіцыстыка спалучае дакументальную аснову журналісцкага твора і вобразныя сродкі, уласцівыя мастацкай прозе, што дазваляе казаць пра ператварэнне рэчаіснасці (вобраз часу), а не проста яе фактычнае адлюстраванне, характэрнае, напрыклад,

для дакументалістыкі. Чалавек у публіцыстычным творы адлюстроўваецца як сапраўдная, нявыдуманая асоба, што дзейнічае ў рэальных абставінах. Тут аўтар, нават дазваляючы тыпізацыю і абагульненне, не адступае ад факта, не здольны на такую свабоду творчага ўяўлення, як пісьменнік. Аналізуючы і інтэрпрэтуючы з'явы навакольнага асяроддзя, актуальныя праблемы рэчаіснасці, публіцыст не мае права на выдумку. Разам з тым адметнасцю публіцыстычнага тэксту з'яўляецца менавіта пераасэнсаванне гістарычных падзей, узнаўленне іх у творы праз прызму аўтарскага ўспрыняцця, што дазваляе казаць пра пэўную суб'ектыўнасць публіцыстыкі.

Менавіта публіцыстыка як від грамадска актуальнай літаратуры вылучае на першы план асобу аўтара, устаноўкі і арыенціры якой выяўляюцца ў тэксце. Журналіст выступае непасрэдна ад імя самога сябе, з'яўляецца актыўным суб'ектам твора, адкрыта ўздзейнічае на чытача. Публіцыстычныя творы характарызуюцца асабліва моцнай аўтарскай выяўленасцю ў параўнанні з мастацкімі, дзе асоба аўтара можа знаходзіць адлюстраванне не ў прамым, акцэнтаваным і сканцэнтраваным выглядзе, а ў вобразах герояў, персанажаў, лірычных і філасофскіх адступленнях.

Яскрава вызначаная актыўнасць пазіцыі аўтара – адна са спецыфічных рыс публіцыстычнай творчасці. Наяўнасць ацэнкі аналізуемых падзей і праблем з'яўляецца неабходнай характарыстыкай якаснага твора. На фарміраванне вобраза часу, выяўленага ў тэматычна-ідэйных адметнасцях публіцыстычнага тэксту, аказваюць уздзеянне таксама псіхалагічныя рысы аўтара, непасрэдна перажытыя падзеі асабістага і грамадскага жыцця, узровень адукаванасці, ступень ідэалагічнай свабоды ў грамадстве. Аўтарытэт асобы аўтара з'яўляецца тым фактарам, які ўплывае і на чытацкую свядомасць, карэкціруючы, змяняючы светаўспрыманне асобнага прадстаўніка аўдыторыі і грамадскую думку ў цэлым. У моманты разгубленасці, няўпэўненасці ў будучыні і ў набытках мінулага зноў узнікае асаблівая запатрабаванасць у слове пісьменніка і журналіста, якое выступае ў пэўным сэнсе камертонам духоўнасці соцыуму.

У публіцыстычным творы прысутнасць аўтарскага «я», выяўленне поглядаў на праблему пазначана больш рэльефна і адкрыта, чым у мастацкім. Калі ў мастацкім творы вобразы аўтара і героя могуць супадаць у той ці іншай ступені, а могуць і адрознівацца, то ў публіцыстыцы адсутнічае сама неабходнасць супастаўлення

гэтых паняццяў. Ад асобы аўтара залежыць выяўленне вобраза часу ў канкрэтным творы і публіцыстыцы ў цэлым.

Узаемасувязь паміж фарміраваннем аўтарскай пазіцыі і сацыяльна-палітычнай сітуацыі ў грамадстве з'яўляецца двухбаковай і вызначае вобраз часу, які стварае ў сваіх тэкстах публіцыст. Найбольш выразна такое асэнсаванне рэальнасці адбываецца ў тых творах, дзе аўтар даследуе актуальныя грамадска-палітычныя, сацыяльна значныя тэмы. У дадзенай манаграфіі паняцце часу выступае як вобраз тых падзей, што адбываліся ў грамадстве, і ідэй, дамінуючых у канкрэтны перыяд, як сінонім словам «вобраз эпохі, падзей». Гэта карціна, створаная аўтарам у публіцыстычным творы, можа не заўсёды аб'ектыўна адлюстроўваць рэчаіснасць з улікам ідэалагічных і палітычных установак у грамадстве, забароны на раскрыццё і абмеркаванне пэўных сацыяльна вострых тэм. Варта таксама адзначыць, што вобраз часу выяўляецца як у асобным творы публіцыста, так і – значна больш дакладна – ва ўсёй яго творчасці ў цэлым і сукупнасці матэрыялаў перыядычнага друку і асобных выданняў розных аўтараў. Шэраг твораў пісьменнікаў і журналістаў пэўнага перыяду складае абагульненую публіцыстычную карціну аб'ектыўнага свету.

У савецкі час гісторыя айчыннай публіцыстыкі даследавалася навукоўцамі А. Лысенка, Б. Стральцовым, В. Пыжковым, агляды нарыса рабілі крытыкі Р. Шкраба, У. Юрэвіч, М. Лобан, А. Сямёнава, В. Бечык і інш. На пэўныя пытанні тэорыі і практыкі беларускай публіцыстыкі звярталі ўвагу і пісьменнікі: І. Шамякін, Н. Гілевіч, І. Мележ, Б. Сачанка, А. Адамовіч. З артыкуламі па праблемах развіцця беларускай публіцыстыкі ў перыядычным друку (пераважна ў газеце «Літаратура і мастацтва») выступалі журналісты-практыкі і пісьменнікі, якія плённа працавалі ў гэтай галіне, – І. Дуброўскі, В. Якавенка, У. Глушакоў, А. Казловіч.

Аднак амаль ніхто з сённяшніх навукоўцаў не звяртаўся да праблем эвалюцыі беларускай публіцыстыкі, асэнсавання яе недахопаў і пераваг на сучасным этапе, выяўлення пераемнасці традыцый савецкага часу і ўплыву заходняй практыкі.

У дадзенай манаграфіі зроблена спроба адлюстраваць галоўныя сацыяльныя і палітычныя падзеі другой паловы XX – пачатку XXI ст. і прааналізаваць іх асэнсаванне ў беларускай мастацкай публіцыстыцы як на прыкладзе асобных часопісных публікацый, так і ў разглядзе сукупнасці публіцыстычных твораў канкрэтных

аўтараў з улікам сучаснай вартасці твораў і дадзенай у іх ацэнкі тагачаснай савецкай рэчаіснасці.

Для даследавання выбраны, на наш погляд, самыя цікавыя імёны з улікам магчымасці прасачыць творчы шлях аўтара на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў, эвалюцыю яго свядомасці, новыя тэмы, якія з’яўляліся ў творчасці пад уплывам сацыяльных перамен у грамадстве. Манаграфія ўяўляе даследаванне ўзаемасувязі падзей і ўстановак пэўнай эпохі і свядомасці аўтара, які асэнсоўвае праблемы часу ў сваіх творах, уплыву ступені свабоды грамадства на фарміраванне грамадзянскай пазіцыі публіцыста і адваротнага працэсу.

# АДЛЮСТРАВАННЕ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫХ ПРАЦЭСАЎ У БЕЛАРУСКАЙ ПУБЛІЦЫСТЫЦЫ ДРУГОЙ ПАЛОВЫ XX – ПАЧАТКУ XXI ст.

Айчынная публіцыстыка не мае багатых традыцый, назапашаных за некалькі стагоддзяў функцыянавання перыядычнага друку. Беларускамоўная прэса як падмурак для з'яўлення прафесійнай публіцыстыкі пачала дзейнічаць на пачатку 1900-х гг. Актыўнае развіццё айчыннай журналістыкі, такім чынам, прыпадае на XX ст., у прыватнасці на яго другую палову.

Беларуская публіцыстыка 1950–1990-х гг. развівалася па-рознаму. У гэты перыяд былі і часы ўздыму, росту папулярнасці публіцыстычнай думкі, творчасці нарысістаў (другая палова 1970 – пачатак 1990-х гг.), і моманты інертнасці, калі грамадскія падзеі не знаходзілі глыбокага адлюстравання ў перыядычным друку (пасляваенныя дзесяцігоддзі).

Такія асноўныя тэматычныя кірункі, як антываенная публіцыстыка, вясковая нарысістыка, праблемы экалогіі (у прыватнасці, чарнобыльская трагедыя) і нацыянальна-адраджэнцкая тэма, абумоўліваюць выяўленне вобраза часу ў беларускай публіцыстыцы з улікам індывідуальнага аўтарскага асэнсавання праблем рэчаіснасці, акцэнтаў на тых ці іншых падзеях, мастацкага перастварэння панарамнай карціны грамадскага жыцця. На пэўным этапе развіцця грамадства адбываецца актуалізацыя адной з вядучых тэм: для першых пасляваенных гадоў характэрны прыярытэт антываенных артыкулаў і нарысаў, вясковая тэма атрымлівае найбольшае развіццё ў 1970-я гг., што адпавядае агульным тэндэнцыям у развіцці савецкай журналістыкі і літаратуры. У перабудовачны перыяд на першы план выходзіць публіцыстыка, прысвечаная Чарнобылю, а таксама нацыянальна-культурным праблемам, што важна і на пачатку XXI ст. ва ўмовах фарміравання нацыянальнай ідэалогіі. Варта

адзначыць, што тэма вайны, вельмі распаўсюджаная ў айчыннай мастацкай літаратуры, была не так пашырана ў нарысістыцы, як у паэзіі і прозе. Магчыма, гэта звязана з галоўнай адметнасцю публіцыстыкі – імкненнем адлюстроўваць перш за ўсё падзеі сучаснасці, менш звяртаючыся да мінулага.

Развіццё беларускай публіцыстыкі другой паловы XX ст., выяўленне асобы аўтара з улікам яго творчых і маральных установак было абумоўлена ў першую чаргу палітычнымі фактарамі. Адсутнасць апазіцыйнай ці хаця б палітычна незалежнай ад уплыву камуністычнай ідэалогіі прэсы прыводзіла да аднабокавасці ў ацэнцы як падзей унутранага жыцця рэспублікі, так і знешнепалітычнай абстаноўкі часоў халоднай вайны і ядзернага супрацьстаяння дзяржаў – сусветных лідараў. Фактычна ў друку адсутнічалі дыскусійныя погляды па абмеркаванні важных тэм, а многія з іх увогуле замоўчваліся да лепшых часоў (афганская вайна, чарнобыльская трагедыя, праблемы нацыянальнага самавызначэння савецкіх рэспублік).

Адной з галоўных каштоўнасцей публіцыстыкі гэтага перыяду стала яе скіраванасць і цікаўнасць да простага чалавека, імкненне да практычнай дапамогі пры вырашэнні яго складанасцей, здольнасць да мастацкай тыпізацыі вобразаў, што дапамагала стварыць цэласную карціну тагачаснай рэчаіснасці праз канкрэтныя жыццёвыя гісторыі.

Дэмакратычныя змены ў савецкім грамадстве ў канцы 1980 – пачатку 1990-х гг. шмат у чым былі абумоўлены ўплывам СМІ, а таксама ўздзеяннем на грамадскую думку публіцыстыкі вядомых журналістаў і пісьменнікаў. У параўнанні з папярэднімі дзесяцігоддзямі публіцыстыка набыла большую глыбіню. У перыёдыцы нарэшце былі абнародаваны забароненыя да гэтага моманту тэмы: сталінскія рэпрэсіі і ахвяры таталітарнага рэжыму, афганская вайна, Чарнобыль, пытанні рэлігіі, пагроза ядзернай вайны. Менавіта публіцыстыка, як і мастацкая літаратура, наблізіла абвяшчэнне галоснасці ў краіне і аказвала значны ўплыў на вырашэнне пытанняў, звязаных з нацыянальным адраджэннем Беларусі.

У перыяд перабудовы, падчас кардынальных сацыяльна-палітычных пераўтварэнняў, адбываліся змены ідэалагічных, маральна-этычных прынцыпаў, але разам з тым менавіта гэты пераходны этап выявіў запатрабаванасць публіцыстычнага слова, яго дзейснасць, эфектыўнасць, уплыў на фарміраванне грамадскай свядомасці. На пачатку 1990-х гг. з набыццём Рэспублікай Беларусь палітычнай самастойнасці і статусу суверэннай дзяржавы перад

нашым грамадствам непазбежна паўсталі праблемы эканамічнага, палітычнага, культурнага развіцця маладой еўрапейскай краіны. Так побач з традыцыйнымі ў беларускай публіцыстыцы з'явіліся новыя тэмы: шляхі выйсця з эканамічнага крызісу, пераадоленне наступстваў чарнобыльскай трагедыі, стварэнне дзяржаўнай ідэалогіі і пошук нацыянальнай ідэі, недапушчальнасць з'яўлення ў дзяржаве пагрозы глабальнага тэрарызму.

На сучасным этапе ў публіцыстыцы адбываецца тэматычная і жанравая трансфармацыя, што абумоўлена зменамі ў развіцці самога грамадства і СМІ, уплывам інтэрнэту як новага сродку камунікацыі на грамадскую свядомасць, фарміраваннем новай сістэмы маральных і грамадскіх прынцыпаў і ідэалаў.

Праблема суіснавання творчых традыцый і наватарства ў айчыннай журналістыцы набывае асаблівую актуальнасць на пачатку XXI ст., калі адбываюцца карэнныя змены ў грамадскім, ідэалагічным, духоўным жыцці краіны. Сёння беларускія і расійскія вучоныя (М. Кім, А. Цяртычны, М. Лукіна, Б. Стральцоў, Т. Арлова, Е. Бондарава, Л. Белякова, Т. Дасаева, С. Дубовік, Т. Падаляк, Н. Фральцова і інш.) у навуковых артыкулах, манаграфіях разважаюць пра неабходнасць аднаўлення менавіта мастацкай публіцыстыкі, вяртання да маштабнага, сістэмнага асэнсавання падзей у грамадстве, да чалавека як галоўнага аб'екта пільнай увагі публіцыста.

Ва ўмовах змены каштоўнасных арыенціраў соцыуму ў апошнія дзесяцігоддзі функцыі і задачы публіцыстыкі па кансалідацыі грамадства, захаванні тыповых рыс беларускага менталітэту праз журналісцкі і літаратурны вопыт, выхаванні новых пакаленняў грамадзян незалежнай Беларусі і фарміраванні нацыянальнай ідэі становяцца вызначальнымі.

Паток інфармацыі, якая сёння даступна звычайнаму спажыўцу, неверагодна вялікі. Чытач не заўсёды паспявае яго асэнсаваць. Менавіта ў такой сітуацыі і павінна ўзрасці роля публіцыстыкі, якая дапаможа расставіць акцэнты і звярнуць увагу, акрэсліць дыскусійнае поле вырашэння галоўных праблем сучаснага грамадства, разам з тым не маніпулюючы масавай свядомасцю.

## Станаўленне і развіццё беларускай публіцыстыкі

Гісторыя беларускай публіцыстыкі бярэ свой пачатак у прадмовах Ф. Скарыны да кніг Бібліі. Першым прафесійным публіцыстам можна назваць Кастуся Каліноўскага. Яго выступленні ў газеце «Мужыцкая праўда», а таксама «Лісты з-пад шыбеніцы» ўяўляюць

эмацыянальны зварот да чытачоў, прыклад выражэння аўтарскай пазіцыі і асэнсавання тагачаснай грамадска-палітычнай сітуацыі.

Забарона царскім урадам беларускай мовы з'явілася прычынай адсутнасці беларускамоўнай прэсы да пачатку XX ст. Фактычна айчынная публіцыстыка пачынае сваё развіццё ў 1910–1920-я гг., і яе з'яўленне звязана з карэннымі зрухамі ў грамадскім жыцці, абвастрэннем сацыяльных супярэчнасцей, уздымам нацыянальна-патрыятычнага руху, неабходнасцю асэнсавання падзей і праблем эпохі. Значнасць публіцыстычнага слова павялічваецца, як у любы пераходны перыяд развіцця грамадства. Першымі беларускімі газетамі сталі «Наша доля» і «Наша ніва», дзе друкаваліся Я. Купала, В. Ластоўскі, М. Багдановіч, Цётка, М. Гарэцкі і іншыя пісьменнікі. Іх артыкулы і нарысы складаюць адметную старонку ў гісторыі беларускай публіцыстыкі, ідэі нашаніўскай публіцыстыкі, у сваю чаргу, аказалі ўплыў не толькі на непасрэдных паслядоўнікаў – публіцыстаў 1920-х гг., але перш за ўсё на фарміраванне эстэтычных і ідэалагічных поглядаў дзеячаў другой хвалі беларускага нацыянальнага адраджэння ў 1990-я гг. У «Нашай ніве» і іншых перыядычных выданнях, якія выдаваліся напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Вільні, асвятляліся разнапланавыя тэмы, прыкладам чаго могуць служыць падарожны нарыс Я. Купалы «З Фінляндыі», цыкл гісторыка-культуралагічных артыкулаў В. Ластоўскага «З нашай мінуўшчыны», палітычна скіраваныя творы А. Уласава, прысвечаныя выбарам у Дзяржаўную думу Расійскай імперыі, артыкул Я. Коласа пра праблемы адукацыі «Беларуская мова ў казённай школе», гісторыка-этнаграфічны нарыс Цёткі «Успаміны з паездкі ў Фінляндыю», яе сацыяльна-бытавыя абразкі і замалёўкі, публіцыстыка, адрасаваная маладому пакаленню («Як нам вучыцца», «Шануйце роднае слова», «Да вясковай моладзі»). У зборніках нарысаў Ядвігіна Ш. «Лісты з дарогі» (1910) і «Думкі ў шляху» (1910) адлюстравана сацыяльнае становішча беларускага сялянства, па сутнасці, уздымаюцца праблемы, якія значна пазней, у 1970–1980-я гг., даследуюць публіцысты «вясковай» тэматыкі: заняпад дробных гаспадарак, міграцыя моладзі ў горад.

У канцы 1920 – пачатку 1930-х гг. у публіцыстычных жанрах плённа працуюць М. Зарэцкі, Я. Скрыган, Ц. Гартны, М. Гарэцкі. На жаль, унутраныя палітычныя падзеі напярэдадні 1940-х гг. садзейнічалі падзенню якаснага ўзроўню публіцыстыкі. Дзейнасць шматлікіх майстроў слова была перарвана і забаронена ў выніку абвінавачанняў у нацыяналізме і далейшых рэпрэсій. Сур'ёзныя, каштоўныя творы былі заменены ўрачыстымі лозунгамі ў падтрым-

ку сацыялістычнай справядлівасці і ганьбаваннем «ворагаў» народа, сярод іх аказалася шмат аўтараў, якія складалі гонар нашаніўскага перыяду.

Публіцыстычны талент беларускіх літаратараў яскрава праявіўся ў друку перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Творы антыфашысцкай публіцыстыкі – прыклад мабілізацыі творчых намаганняў пісьменнікаў. Нягледзячы на страты, якія панесла беларуская літаратура ў папярэдні перыяд у выніку масавых рэпрэсій, з першых дзён вайны з артыкуламі, фельетонамі, памфлетамі, заклікамі і карэспандэнцыямі ў падпольным, партызанскім, партыйным друку выступалі Я. Купала, К. Крапіва, Я. Колас, К. Чорны, М. Лынькоў, М. Танк, А. Куляшоў. Творы айчыннай антываеннай публіцыстыкі – гэта не толькі гістарычныя дакументы, якія адлюстравалі геразім савецкага народа ў барацьбе з фашызмам, але і ўзоры мастацка-публіцыстычнага асэнсавання рэчаіснасці ваеннага часу.

Першае пасляваеннае дзесяцігоддзе нельга ахарактарызаваць як перыяд актыўнага развіцця беларускай публіцыстыкі. У гэты час творцы не адразу выйшлі на той узровень мастацкай вартасці, якім характарызавалася журналістыка ваенных гадоў. У другой палове 1940 – пачатку 1950-х гг. назіраецца спад публіцыстычнай актыўнасці пісьменнікаў. Творы публіцыстыкі 1941–1945 гг. адрозніваліся шчырасцю, эмацыянальнай напоўненасцю, палымянасцю. Публіцыстыка не страціла гэтых рыс і пазней, аднак пасля заканчэння вайны адбываюцца змены ў грамадскай свядомасці: разам з радасцю перамогі асэнсоўваюцца чалавечыя і эканамічныя страты краіны. Яскрава і відавочна ў жыцці праяўляліся праблемы, неўладкаванасць пасляваеннага быту, псіхалагічныя і маральныя пакуты народа. Але адмоўныя моманты замоўчваліся як у мастацкай літаратуры, дзе крытыка рэзка ставілася да паказу цяжкасцей і супярэчнасцей сучаснасці, так і ў публіцыстыцы, дзе дакументальнасць асновы твора не дазваляла дадумваць вобразы, хавацца за абагульненнямі і сімвалічным паказам рэчаіснасці. Вобраз часу акрэсліваўся ў публіцыстыцы не аб’ёмна, а вузкаскіравана, увага засяроджвалася толькі на станоўчых з’явах рэчаіснасці. Пануючая тэорыя бесканфліктнасці не давала журналістам магчымасці пазбегнуць штучнага адлюстравання і лакіроўкі рэчаіснасці, звужала тэматычны абсяг публіцыстычных твораў. Творы гэтага часу былі пазбаўлены праблематычнага, востраканфліктнага зместу, мастацкай выразнасці і эмацыянальнасці. Публіцыстыка пачатку 1950-х гг. галоўным чынам была засяроджана на ўсхваленні савецкай рэчаіснасці.

Галоўнымі тэмамі публіцыстычных твораў былі дасягненні беларускіх калгаснікаў і рабочых. Амаль усе нарысы ўсхвалялі перадавікоў вытворчасці, стаханаўцаў і наватараў, мары пра светлую будучыню камуністычнага грамадства. Затое амаль не было публіцыстычных твораў, прысвечаных інтэлігенцыі, дзеячам навукі і культуры. Выданні абмяжоўваліся кароткімі інфармацыямі пра чарговае ўзнагароджанне лаўрэатаў дзяржаўных прэмій. На старонках перыёдыкі адсутнічалі дыскусіі, не абмяркоўваліся сацыяльныя, тым больш эканамічныя і палітычныя праблемы. А. Адамовіч у крытычным артыкуле «Занядбаны жанр», прысвечаным беларускаму нарысу 1955 г., адзначаў, што менавіта гэты жанр, «апраўдваючы назву "разведчыка літаратуры", быў першаадкрывальнікам многіх найбольш вострых жыццёвых канфліктаў, тэм і праблем» [3, с. 31]. На жаль, у тагачаснай беларускай журналістыцы нарыс зусім не адпавядаў падобнаму азначэнню, заставаўся адзіным жанрам, «дзе бесканфліктныя схемы пануюць па-ранейшаму» [3, с. 32]. Вобраз часу, які паўставаў у публіцыстычных творах, характарызаваўся аднабаковасцю ў асэнсаванні рэчаіснасці. Для беларускага нарыса першага пасляваеннага дзесяцігоддзя, як заўважаў крытык У. Юрэвіч, быў «характэрны аднабаковы паказ чалавека толькі як удзельніка пэўнага працоўнага працэсу, як "вінціка", за якога нехта думае і з працы якога робіць адпаведныя высновы. Чалавек як канкрэтная асоба з індывідуальнымі рысамі характару, як асоба, што думае і перажывае, мала цікавіў тых, хто браўся за нарыс» [25, с. 196].

Лозунгі «Па сталінскаму шляху», «Няхай жыве сцяганосец міру Сталін!», «Беларусь – вялікім будоўлям камунізму», «Выдатныя дасягненні, велічныя перспектывы», «Сцяг барацьбы за камунізм», матэрыялы пра бальшавікоў ленінскай гвардыі, фotaздымкі і партрэты І. Сталіна і У. Леніна амаль у кожным нумары часопісаў – неад'емныя атрыбуты беларускіх перыядычных выданняў пачатку 1950-х гг. Так, у нарысе «Заўтрашні дзень» М. Вішнеўскага старшыня вядомага калгаса «Рассвет» К. Арлоўскі дзеліцца перадавым вопытам: «...сваімі поспехамі калгас, як і ўвесь савецкі народ, абавязан перш за ўсё бальшэвіцкай партыі, нашаму савецкаму ўраду і вялікаму Сталіну...» [12, с. 22].

Часта слова пісьменніка і публіцыста, якое павінна быць насычаным інфарматыўна і вобразна, губляла канкрэтыку: «Саюз пісьменнікаў і яго друкаваныя органы зусім слаба расцяць кадры маладых крытыкаў, узброеных веданнем жыцця, перадавым марксісцкаленінскім вучэннем ...перад беларускімі пісьменнікамі паўсталі новыя вельмі адказныя і вельмі пачэсныя задачы. І наш абавязак аддаць усе сілы на выкананне гэтых ганаровых задач» [67, с. 110].

Адзінай тэмай, якая не зжыла сябе ў пазнейшыя гады, а, наадварот, атрымала далейшы працяг у публіцыстыцы і шырокі рэзананс грамадскай думкі, стала асушэнне Палесся. На пачатку 1950-х гг. з'явіліся нарысы і артыкулы, прысвечаныя беларускай меліярацыі (А. Зарыцкі «Пераўтваральнікі прыроды», І. Дуброўскі «Над Ясельдай»).

З прозвішчаў, якія сустракаліся ў перыёдыцы гэтага перыяду, вядомым сёння застаецца, бадай, толькі імя Ігната Дуброўскага. Магчыма, астатнія аўтары-публіцысты пазначанага перыяду забыты сучаснымі даследчыкамі і тым больш чытацкай аўдыторыяй менавіта з прычыны аднолькавасці іх творчай манеры. Змяніўшы прозвішча аўтара пад тым ці іншым творам, чытач амаль не заўважыць розніцы: усюды аднолькавыя тэмы, стылёвыя прыёмы і кампазіцыйныя канструкцыі. Вінаваціць у гэтым толькі саміх пісьменнікаў нельга. Грамадска-палітычная сітуацыя ў краіне была не надта спрыяльнай для развіцця аўтарскага патэнцыялу, з'яўлення альтэрнатыўных пунктаў гледжання і індывідуальнай творчай манеры.

Змены ў палітычным кірунку, якія адбыліся ў краіне пасля XX з'езда КПСС, дэмакратызацыя дзейнасці партыі і лібералізацыя грамадскага жыцця паступова ўплывалі і на перыядычны друк, развіццё літаратурнага працэсу. У другой палове 1950 – пачатку 1960-х гг. пачынаецца абмеркаванне ў друку тэндэнцый развіцця айчыннай публіцыстыкі (крытыкі У. Юрэвіч, М. Лобан, Я. Герцовіч, А. Лысенка і інш.).

Зменшылася колькасць прапагандысцкіх твораў, накіраваных на развенчванне каштоўнасцей буржуазнага жыцця. Пісьменнікі і публіцысты звярталіся не толькі да нядаўняга мінулага, але і да момантаў гісторыі, якія немагчыма было абмяркоўваць раней. Перыядычна з'яўляліся перадавыя артыкулы, прысвечаныя падзеям палітычнага жыцця краіны, нарысы і ўспаміны пра рэпрэсіраваных грамадскіх і культурных дзеячаў 1920–1930-х гг., творы М. Гарэцкага, Ц. Гартнага, П. Галавача.

У 1957 г. Белдзяржвыдавецтва ўпершыню пачало выпускаць серыю «Бібліятэчка беларускага нарыса і апавядання», што ў пэўным сэнсе спрыяла з'яўленню новых публіцыстычных твораў. Сярод найбольш адметных з іх трэба адзначыць партрэтныя нарысы «Сэрца камуніста» Я. Брыля і «Светлы шлях» І. Дуброўскага. На жаль, для іх яшчэ характэрна ў вялікай ступені спрошчанае, схематычнае адлюстраванне герояў толькі праз тыповыя станоўчыя рысы, скіраванасць да паказу выключна пазітыўных момантаў у пасляваеннай рэчаіснасці.

І. Дуброўскі ў нарысе «Светлы шлях» апісвае тры гады з жыцця старшыні аднайменнага калгаса Пінскага раёна Паўла Шаманскага. Звяртаючыся да гісторыі дарэвалюцыйнай вёскі, біяграфій Шаманскага і яго паплечнікаў, аўтар не толькі робіць экскурс у мінулае, але і акрэслівае новыя мэты і дасягненні савецкага калгаса. І. Дуброўскі не баіцца паказаць тыя цяжкасці, з якімі сутыкнуўся напачатку камуніст Шаманскі і яго аднадумцы, выкарыстоўвае прыём успамінаў, пачынаючы свой аповед з моманту, калі асноўныя складанасці ўжо пераадолены (кампазіцыйны прыём, уласцівы нарысам 1950–1960-х гг.). Аднак характары герояў «Светлага шляху» падаюцца неаб'ектыўнымі і прамалінейнымі, партрэт галоўнай асобы нарыса схематызаваны, адсутнічае глыбокі сацыяльны аналіз падзей, характэрны для больш позніх твораў І. Дуброўскага.

Галоўны герой нарыса «Сэрца камуніста» Я. Брыля – Павел Жалезняковіч, які адным з першых у Заходняй Беларусі стаў членам камуністычнай партыі, арганізоўваў падпольную работу, шмат гадоў правёў у турме. Быў вызвалены адтуль Чырвонай арміяй у верасні 1939 г. і зрабіў усё магчымае, каб і далей змагацца разам са сваімі таварышамі ў партызанскіх атрадах Беларусі. Я. Брыль будуе твор у выглядзе ўнутранага маналога свайго героя, яго звароту да сябра, аднак напрыканцы нарыса аўтар уключае ўласныя развагі. Лірызм, характэрны для творчасці Я. Брыля, праяўляецца менавіта ў ацэнцы жыцця героя-камуніста, «...паэтычнага жыцця чалавека, які, нягледзячы на ўсе пакуты, не стаміўся глядзець на свет і народную справу з маладым, нягаснучым захапленнем, з маладой, натхнёнай верай у лепшае» [12, с. 59].

Калі партрэтныя нарысы вызначаюцца канкрэтыкай фактаў, дакладнасцю лічбаў і прозвішчаў, канстатацыяй толькі пазітыўных бакоў жыцця, то плынь падарожных нарысаў, якая развіваецца ў канцы 1950 – пачатку 1960-х гг., характарызуецца лірыка-псіхалагічнай асновай. Сярод яркіх твораў гэтага кірунку варта адзначыць нарыс «Паэма дарог» А. Клышкі і Я. Сіпакова, твор камбінаванай жанравай формы «Казкі Янтарнай краіны» У. Караткевіча, а таксама нарыс Б. Сачанкі «Зямля маіх продкаў», які быў упершыню надрукаваны ў «Полымі» ў 1964 г. Гэты твор стаў своеасаблівым аглядам гісторыі і сучаснасці Беларускага Палесся.

Вандруючы па родным Палессі, Барыс Сачанка пераплятае ў нарысе гісторыю і сучаснасць, непакоіцца за будучыню пасляваеннай беларускай вёскі. Адна з галоўных тэм, што ўздымае публіцыст, – меліярацыя Палесся і яе магчымыя наступствы. Нягледзячы на станоўчыя сцвярджэнні навукоўцаў, аўтар непакоіцца за асушэнне

зямель і магчымыя ў выніку гэтага ў будучым знікненне лясоў і засуху ў родным рэгіёне.

Цэнтральная ідэя твора Б. Сачанкі – трагедыя вайны, неабходнасць мірнага вырашэння любых канфліктаў. Сканцэнтраванасць творчай і асабістай увагі на тэме Вялікай Айчыннай вайны характэрна для ўсёй публіцыстыкі гэтага аўтара. Успамінаючы пра жудасную вайну на сваёй радзіме і тое гора, якое прынесла яна ў яго ўласную сям'ю, ён сцвярджае: «Міру прагнуць людзі, прагне ўся зямля. Міру прагне і зямля маіх продкаў, бо толькі ў мірныя дні яна па-сапраўднаму маладзее, квітнее» [12, с. 205].

Гэтыя словы можна лічыць лейтматывам большасці падарожных нарысаў пазначанага перыяду іншых аўтараў. Значнае месца сярод публікацый займалі таксама рэпартажы і нататкі публіцыстаў з галоўных беларускіх новабудоўляў – Салігорска, полацкага Нафтабуда, Бярозаўскай і Лукомскай ДРЭС, заводаў-гігантаў Светлагорска, Гродна, Гомеля: Т. Хадкевіч «Шуміць Дзвіна», С. Грахоўскі «Горад маладосці», А. Кулакоўскі «На Случчыне гарэць капры», У. Бяляеў «Шахтабудаўнікі», П. Валкадаеў «Шахцёрская раніца», П. Прыходзька «Зоры Светлагорска», У. Новік «Шахцёрская лямпа», С. Кухараў «Агні Белазёрска». А. Кулакоўскі, ураджэнец Случчыны, прысвяціў новабудоўлям сваёй «малой радзімы» некалькі асобных кніг нарысаў: «Зоркі салігорскія» (1960), «Салігорцы» (1964), нізку «Салігорскія эцюды» ў кнізе «Першае чаканне» (1965).

Пісьменнікі дзяліліся ўражаннямі ад паездак па Савецкім Саюзе (А. Рылько «Тыдзень на Віцебшчыне», У. Караткевіч «Казкі Янтарнай краіны», М. Калачынскі «Праз кедравы пояс») і замежжы (К. Губарэвіч «Паўсвета пад крыламі», Я. Брыль «Слова па шчырасці», У. Стэльмах «Па Чэхаславакіі»). У гэты час усталяваліся міжнародныя сувязі не толькі з краінамі сацыялістычнага блока, але і з заходнімі капіталістычнымі дзяржавамі. Пра тое сведчылі творы журналіста І. Новікава «Дзесяць тыдняў у Злучаных Штатах Амерыкі», В. Гаўрылюка «Трохі пра Нью-Йорк», М. Танка «Недыпламатычныя нататкі». Безумоўна, факты ў іх падаваліся з улікам савецкай ідэалогіі, з крытыкай заходняга палітычнага і сацыяльнага ладу, але трэба адзначыць карысць самога з'яўлення падобных твораў.

Адметнасцю публіцыстыкі і ўвогуле літаратуры перыяду 1956–1964 гг., з'яўлялася адсутнасць творчай спецыялізацыі аўтараў. Нарысы і артыкулы стваралі найчасцей тыя пісьменнікі, якія ўжо былі вядомымі празаікамі і паэтамі. Уласна публіцыстаў, якія, напрыклад, з'явяцца пазней (А. Казловіч, В. Палтаран, В. Мыслівец

і інш.), у той час вылучыць было цяжка. Нават вядомы нарысіст І. Дуброўскі спалучаў публіцыстыку з мастацкай літаратурай. Гэта можна было патлумачыць тым, што доўгі час нарыс лічыўся менавіта мастацкім, а не публіцыстычным жанрам.

Аналіз беларускай публіцыстыкі першых пасляваенных дзесяцігоддзяў (другая палова 1940 – пачатак 1960-х гг.) паказвае што:

1) лакіроўка рэчаіснасці, тэматычная аднастайнасць твораў пасляваеннай публіцыстыкі была прычынай нізкай дзейснасці публіцыстычнага слова. З сярэдзіны 1950-х гг. у публіцыстыцы назіраецца імкненне да больш аб'ектыўнага адлюстравання рэчаіснасці, пераадоленне тэорыі бесканфліктнасці;

2) як сталая тэндэнцыя ўпершыню акрэслілася менавіта ў 1950 – першай палове 1960-х гг. вывучэнне тэарэтычных праблем айчыннай нарысістыкі, што адсутнічала ў перадваенны перыяд;

3) развіццё падарожнага нарыса стала асновай для далейшага фарміравання лірыка-псіхалагічнага кірунку ў беларускай мастацкай публіцыстыцы, у рэчышчы якога працавалі пазней Я. Сіпакоў, В. Палтаран, В. Праскураў, М. Вайцяшонак і інш.;

4) адкрытае выяўленне асобы аўтара не заўсёды аказвалася магчымым у публіцыстычных творах пасляваеннага перыяду з улікам ідэйна-эстэтычных абмежаванняў у мастацтве і літаратуры. Галоўная задача публіцыстыкі 1950–1960-х гг. – прапаганда дасягненняў савецкага грамадства ў вытворчай і сацыяльнай сферах. Вобраз часу з пункту гледжання сучаснага навуковага даследавання падаецца спрошчаным і не адлюстроўвае ўсіх аспектаў грамадскага жыцця краіны.

## Тэматычная і жанрава-стылёвая разнастайнасць публіцыстыкі як вынік дэмакратызацыі грамадства

Плённы перыяд у развіцці айчыннай журналістыкі прыпадае на 1970–1980-я гг. У гэты час публіцыстыка пачала ўспрымацца як самастойная і адметная галіна літаратуры. Пашырылася жанравая палітра журналісцкіх твораў, аўтары працавалі не толькі з нарысам, але выкарыстоўвалі ў сваёй творчасці перадавы артыкул, памфлет, эсэ, фельетон. Акрэсліліся галоўныя тэмы, характэрныя для беларускай публіцыстыкі і ў больш познія перыяды існавання. На першы план выходзіць паняцце асобы аўтара як вызначальнай катэгорыі публіцыстычнага твора. Новым кірункам

у антываеннай публіцыстыцы стала «магнітафонная» літаратура А. Адамовіча, якая была працягнута пазней творамі С. Алексіевіч. З'явіліся аўтары, што скіроўвалі свае творчыя погляды менавіта на публіцыстычнае, актыўнае, праблемнае асэнсаванне рэчаіснасці: В. Мысlівец, М. Вайцяшонак, В. Якавенка, В. Праскураў. Напрыканцы 1970-х гг. пачалося выданне серыі кніг нарысістыкі «Рэспубліка. Час. Людзі» і публіцыстычнага альманаха «Сучаснік».

Здабыткі беларускай публіцыстыкі XX ст. знайшлі адлюстраванне ў выдадзеным у 1977 г. двухтомніку «Беларускі савецкі нарыс». У гэты ж перыяд крытыкамі і даследчыкамі былі створаны грунтоўныя навуковыя працы, дзе разглядаліся пытанні тэорыі і гісторыі беларускай публіцыстыкі ў яе ўзаемадзеянні з айчыннай мастацкай літаратурай і рускай савецкай публіцыстыкай: «Ад партрэта сучасніка да гісторыі сучаснасці» В. Пыжкова (1975), «Сучасны беларускі нарыс» А. Лысенкі (1978), «Дзесятая пяцігодка ў беларускім нарысе» Б. Стральцова (1980).

Сярод магістральных кірункаў, якія вызначылі вобраз часу ў творчасці асобных аўтараў і ў беларускай публіцыстыцы 1960–1980-х гг. у цэлым, варта адзначыць перш за ўсё вясковую і вытворчую тэматыку.

Шырокае адлюстраванне праблем вясковага жыцця ў гэты перыяд было характэрна для савецкай літаратуры; творы, прысвечаныя праблемам калгаснага жыцця, друкавалі як пісьменнікі (В. Бялоў, Ф. Абрамаў і інш.), так і публіцысты (В. Авечкін, Ю. Чарнічэнка). У беларускай прозе тэма вёскі заўсёды была прыярытэтнай (раманы Я. Коласа, К. Чорнага, І. Пташнікава, В. Адамчыка). Развіццё вясковай публіцыстыкі, такім чынам, адпавядала агульным тэндэнцыям у літаратурным працэсе. У гэтым рэчышчы плённа працавалі сталыя аўтары І. Дуброўскі, В. Палтаран, маладыя публіцысты В. Якавенка, В. Праскураў. У сярэдзіне 1970-х гг. у журналістыку прыйшлі М. Вайцяшонак, Я. Будзінас, В. Ягорава, М. Шыманскі. Тэматыка вясковай публіцыстыкі пашырылася, уключыла такія аспекты, як праблемы вясковай інтэлігенцыі, міграцыі моладзі, неперспектыўных вёсак, бытавых умоў вёскі і горада. Нарысістыка гэтага перыяду ўжо не засяроджвае ўвагі толькі на асобных рысах лепшых прадстаўнікоў вёскі, але імкнецца да стварэння сацыяльнага партрэта тагачаснага калгасніка. Індывідуальная сутнасць чалавека падаецца скрозь прызму яго сацыяльных і псіхалагічных характарыстык, герой паказваецца не ў адасобленасці ад жыцця, але ў суіснаванні і складанасці калектыўных сувязей. Адметнасцю вясковай публіцыстыкі гэтага перыяду сталі творы «старшынёўскага

цыкла», якія сведчылі аб з'яўленні ў беларускай літаратуры новага жанру – дакументальнай аповесці («Час гаспадароў» М. Герчыка, «Зямныя вузлы» І. Дуброўскага, «Старшынёў хлеб» А. Акуліка і іншыя творы, прысвечаныя кіраўнікам лепшых сельскіх гаспадарак, калгасаў рэспублікі). Агульную танальнасць вясковай публіцыстыкі трапна вызначыў у артыкуле «Дзе канчаецца асфальт...» Л. Леановіч: «Ад культуры, маральнага здароўя вёскі залежыць яе будучыня. Залежыць будучыня горада. Будучыня народа» [66, с. 112].

Выяўленне асобы аўтара з'яўляецца асноўным, стрыжнявым элементам публіцыстычнага твора. Асаблівасці аўтарскага светаўспрыняцця, мастацкія метады, якія выкарыстоўвае публіцыст у стварэнні вобраза часу як пераасэнсавання галоўных тэм рэчаіснасці, вызначаюць і жанрава-стылёвыя адметнасці кожнага з журналістаў. Адным з найбольш яркіх аўтараў, які ў сваёй творчасці распрацоўваў вясковую тэматыку, быў публіцыст Васіль Праскураў, рэдактар ганцавіцкай раённай газеты «Савецкае Палессе». Усе яго нарысы напісаны на багатым фактычным матэрыяле. Адметнасць выяўлення асобы аўтара ў публіцыстычных творах В. Праскурава – непасрэднае і невыпадковае знаёмства журналіста са сваімі героямі, блізкасць да іх паўсядзённага жыцця, дасканалае веданне праблем не з пазіцыі староннягa назіральніка. Асвятляючы надзённыя справы герояў, аўтар знаходзіць месца і для лірычных адступленняў («Рутамята», «Над Шчарай-ракой»), філасофскіх разважанняў, з цікавасцю піша пра мінулае Палескага краю («Надзейка», «Зялёная рапсодыя»). Лірычнасць аўтарскага светаадчування знаходзіць сваё выяўленне ўжо ў самых першых творах В. Праскурава. Герой нарыса «Святая сівізна» Адам Ігнатавіч Кумейша на пачатку свайго прызначэння старшынёй калгаса сутыкаецца не толькі са звычайнымі матэрыяльнымі, побытавымі цяжкасцямі беларускай пасляваеннай вёскі, але і з больш глыбокімі псіхалагічнымі праблемамі: жыхары не давяраюць новаму «начальніку», пішуць ананімкі, пагражаюць сям'і. Але паступова сітуацыя змяняецца: дзякуючы працаздольнасці, упэўненасці, жалезнай вытрымцы старшыні калгас атрымлівае першы мільён прыбытку, наладжваецца мікраклімат у калектыве і становіцца зразумелым, што недарэмным было жаданне Кумейшы, агучанае аўтарам на пачатку твора: «Вялікае шчасце ўмець марыць, але яшчэ лепш – навучыць марыць іншых людзей» [47, с. 14].

В. Праскураў заўсёды адлюстроўвае псіхалагічныя рысы чалавека, пра якога ён піша: заслужаны ветурач Феадосія Мікалаеўна Сідоранка («Высокі поўдзень»), жанчына-суседка Сілівейчыха

(«Людзі-суседзі»), замежная госця Данута, якая прыехала наведаць сястру з далёкай Англіі («Дзве сястры»). Сваімі маналогамі, споведзямі людзі шматгранна раскрываюць праблемы рэчаіснасці: турбуецца пра захаванне роднага лесу, неабыякавасць да наваколля ляснік Емяльян Фёдаравіч Кудравец («Прасека»), непакоіцца аб калгасных справах пенсіянер Іван Паўлавіч Зуйкевіч («Чалом табе, стараполіца») і, безумоўна, сам аўтар («Сцежка ў жыцце»). Для В. Праскурава не існуе дробязей, бо менавіта безуважнасць людзей да народнай справы, «чужога» калгаснага поля прыводзіць да страт у дзяржаўных маштабах і – што яшчэ жахлівей – да маральнай чэрствасці, душэўнай абыякавасці.

В. Праскураў вельмі тонкі, трапны стыліст. Яго загалоўкі вызначаюцца філасофскай абагуленасцю, эмацыянальнасцю, выдатным спасціжэннем і разуменнем унутранага свету сваіх герояў («Аповесць пра шчасце», «Жывыя крыніцы», «Пакажы чалавеку дарогу», «Пакланіся зямлі-карміцельцы»). Апошні найбольш ярка выражае жыццёвае і творчае крэда публіцыста.

Вобраз часу ў творчасці В. Праскурава базіруецца на адлюстраванні праўдзівасці і надзённасці сацыяльна значных праблем вясковага жыцця. Нарысіст паказвае не статычныя вобразы, а псіхалогію чалавека, яго сацыяльную сутнасць, імкнецца намаляваць людскія характары ў сутыкненнях, тым самым ствараючы абагульнены партрэт жыхара беларускай вёскі. «Сацыяльная скіраванасць нарысаў В. Праскурава дапаўняецца выразнымі этнаграфічнымі фарбамі. Чалавека В. Праскураў падае на агульным грамадскім фоне. Дзякуючы гэтаму перад чытачом разгортваецца панарама аднаго з куткоў Палесся» [48, с. 203].

Блізкай да творчасці В. Праскурава па эмацыянальнай скіраванасці і псіхалагічнай заглыбленасці з'яўляецца нарысістыка Веры Палтаран. Актыўная публіцыстычная дзейнасць В. Палтаран прыпала на 1960–1970-я гг., яе нарысы «Ключы ад Сезама» і «Дзівасіл», якія далі назвы аднайменным зборнікам (выдадзеныя ў 1967 і 1974 гг.), – выдатныя ўзоры айчыннай вясковай публіцыстыкі.

В. Палтаран амаль заўсёды выкарыстоўвае ў сваіх нарысах форму падарожных нататкаў, падкрэсліваючы асаблівую аўтарскую зацікаўленасць, неабыякавасць да герояў і падзей сваіх твораў: «Хто куды, а я – на Палессе... Чыстая, настроеная на запіс, плёнка памяці і пераключанае на прыём сэрца... Трэба яшчэ не забыцца прыняць на дарогу добрую дозу аб'ектыўнасці» [45, с. 74]. Журналістка ўважліва занатоўвае і ў памяці, і на паперы нават маленькія дэталі, што дапамагаюць стварыць цэласны, запамінальны вобраз, ёй заўсёды

цікавы яе спадарожнік ці суразмоўца, які паўстае ў тыповым вобразе дзеда Кораня, як назвала яна яго ў самым пачатку «Дзівасіла». У аўтара няма дакладна вызначанай праблемы, з якой яна едзе разабрацца. В. Палтаран назірае на месцы, канцэнтруе ўвагу на дэталях. Яна часта звяртаецца да тэмы мінулай вайны, што яшчэ вельмі часта напамінае пра сябе, стварае пераканаўчыя вобразы сялянскіх жанчын-удоў.

В. Палтаран не засяроджвае ўвагі чытача толькі на вытворча-гаспадарчых праблемах сяла, але глыбока даследуе складанасці чалавечых адносін у вёсцы. Паказ штодзённай працы і побыту канкрэтнага чалавека дапамагае аўтару стварыць лірычны і разам з тым сацыяльна напоўнены, псіхалагічна абумоўлены вобраз часу ў сваіх творах. Маналогі герояў, вясковых інтэлігентаў, як і ўласныя аўтарскія роздумы, прасякнуты развагамі пра суіснаванне ў вёсцы традыцыйнага і новага, пра неабходнасць захавання народнай духоўнай спадчыны і паляпшэння ўмоў працы для жанчын, пра імкненне вясковых жыхароў наблізіцца да гараджан па ўзроўні адукацыі, культуры, быту. Творы В. Палтаран характарызуюцца лірызмам, даверлівай, задушэўнай інтанацыяй і разам з тым уважлівым даследаваннем, дакладнасцю і навуковасцю.

У нарысе «Дзівасіл», адным са сваіх найбольш вядомых твораў, журналіст апісвае ўражанні падчас камандзіроўкі ў вёску Тонеж. Разважлівыя размовы з выпадковымі спадарожнікамі, аўтарскія адступленні-развагі і ўспаміны з уласнага жыцця, але больш за ўсё – маналогі герояў, дзе яны знаёмяць чытача з уласнымі жыццёвымі гісторыямі, пераплятаюцца на старонках нарыса з гумарыстычнымі замалёўкамі, трапнымі псіхалагічнымі характарыстыкамі і жаданнем журналіста разабрацца ў праблемах асобнага калгаса, за якімі вымалёўваюцца агульныя рысы часу.

В. Палтаран і В. Праскураў плённа распрацоўвалі лірычны кірунак у асвятленні праблем вёскі. У іх творчасці выразна выяўлены вобраз часу як адлюстраванне актуальных падзей грамадскага жыцця, шляхоў развіцця пасляваеннага беларускага калгаса.

Іншым па сваёй аўтарскай пазіцыі выступае Васіль Якавенка. У цэнтры ўвагі нарысіста амаль заўсёды так званы «чалавек улады», перадавік з актыўнай жыццёвай пазіцыяй, звычайна старшыня калгаса («Аснежжа»), сакратар райкама («Над Жыжмай-ракой», «Гарачае лета») або камсамольскі лідар («Дарога цераз гаць»). Творы В. Якавенкі блізкія да дакументальных аповесцей і нарысаў «старшынёўскага цыкла». Свае нарысы-партрэты ён амаль заўсёды стварае, улічваючы такую сацыяльную характарыстыку герояў, як спалучэнне творцы і выканаўцы ў адміністрацыйнай асобе.

Творы, якія склалі дакументальную аповесць «Пакуль сонца ў зеніце», прысвечаны Герою Сацыялістычнай Працы Ульяне Феакцістаўне Крышталевіч. Аўтар прасочвае яе лёс амаль з маленства. Засяроджваючы ўвагу на яе біяграфіі, В. Якавенка тым не менш паказвае жыццё жанчыны ў суаднесенасці з іншымі людзьмі. Аднак асабістае жыццё сваіх герояў аўтар амаль заўсёды перамяшчае на другі план, паказваючы каханне, сямейныя адносіны выключна на фоне грамадскага жыцця, праз прызму прафесійных клопатаў. Спецыфіка вобраза часу, адлюстраванага ў нарысах В. Якавенкі, – у акцэнце на сацыяльных характарыстыках герояў твора, што таксама з'яўляецца прыкметай савецкай эпохі. Разам з тым сярод праблем, якія хвалююць аўтара, не толькі цяжкасці арганізацыі вытворчага працэсу на вёсцы, пытанні партыйных сходаў і пасяджэнні выканкамаў. Ён піша і пра ўрбанізацыю вёскі, праблему меліярацыі на Палессі, уздымае маральна-этычныя пытанні, не абмінае ўвагай праявы фармалізму і бюракратыі, так званых сілавых метадаў адміністравання.

Стыль В. Якавенкі можна ахарактарызаваць як лаканічны, дакладны, нават калі-нікалі сухаваты. Ён выкарыстоўвае лічбы і статыстычныя даныя, звяртаецца да гісторыі, у яго творах заўсёды прысутнічае багаты фактычны матэрыял. Тэксты гэтага аўтара вылучаюцца дынамізмам, ён часцей піша ад трэцяй асобы, выкарыстоўвае жывую мову герояў, дыялогі, зрэдку даючы волю аўтарскім адступленням.

Цікавы падыход публіцыста да ўласнай творчасці выяўляецца ў знітаванасці нарысаў, «пераплеценасці» герояў і падзей, і часта ў новых публікацыях В. Якавенка звяртаецца да праблем мінулых твораў, асабліва яскрава гэта сувязь адчуваецца ў кнізе «Дайсці да ладу».

Значны ўклад В. Якавенка зрабіў і ў развіццё навуковага нарыса. Уплыў папярэдняй прафесіі геолага яскрава адчуваецца ў цыкле «Пробны камень» (1974). У цікавай форме, не загрувашчваючы твор лішнімі лічбамі, журналіст распавядае пра гісторыю беларускай геалагічнай навукі, узгадвае вядомых вучоных, якія займаліся пасля вайны даследаваннямі карысных выкапняў у розных рэгіёнах Беларусі, разважае над перспектывамі развіцця айчыннай геалогіі. Нарысы характарызуюцца дынамізмам, аўтар спалучае энцыклапедычныя звесткі і ўласны вопыт, што, несумненна, узбагачае навуковы нарыс, звычайна пазбаўлены эмацыянальнай афарбоўкі.

Творам В. Якавенкі ўласцівы наяўнасць даследчыцкага пачатку, дакументальнасць асновы пры адлюстраванні жыцця і абмалёўцы персанажаў, псіхалагічная і эмацыянальная заглыбленасць,

удумлівы аналіз маральных якасцей і ўчынкаў герояў, выразная акрэсленасць характараў.

Адной з галоўных каштоўнасцей публіцыстыкі 1960–1980-х гг. стала яе скіраванасць і цікавасць да простага чалавека, імкненне да практычнай дапамогі пры вырашэнні складанасцей, здольнасць да мастацкай тыпізацыі вобразаў. Вобразы сялянскіх жанчын з нарысаў В. Палтаран, кіраўнікоў калгасаў з дакументальных аповесцей «старшынёўскага цыкла», герояў твораў В. Якавенкі і В. Праскурава – гэта абагульнены партрэт савецкага чалавека.

У асобную тэматычную групу неабходна вылучыць творы публіцыстыкі, у якіх адлюстроўваліся працэсы меліярацыі ў Беларусі. Праўда, у гэты час аўтары звярталі ўвагу часцей на станоўчыя вынікі, чым на негатыўныя з'явы, аднак пазней менавіта гэта тэма нарадзіла вельмі значную для беларускай літаратуры экалагічную праблематыку ў публіцыстыцы. Прыкладам глыбокай распрацоўкі і ўдумлівага асэнсавання тэмы можа служыць творчасць Ігната Дуброўскага.

Біяграфічны вопыт І. Дуброўскага аказаў непасрэдны ўплыў на тэматыку яго твораў. Як і В. Якавенка, ён прыйшоў у нарысістыку пасля шматгадовай працы ў іншай сферы: І. Дуброўскі – кандыдат сельскагаспадарчых навук, працаваў у Інстытуце эканомікі АН БССР, займаўся праблемамі беларускай меліярацыі. Характэрнае для творчасці І. Дуброўскага асэнсаванне ўзаемасувязі праблем вёскі і экалогіі ў Беларусі абумоўлівае індывідуальнае аўтарскае бачанне вобраза часу ў яго творах. Гэтыя тэматычныя кірункі суадносяцца з агульным рэчышчам развіцця айчыннага нарыса другой паловы XX ст.

Калі першыя кнігі былі прысвечаны ў асноўным перадавым калгасам, працэсу ўзбуйнення пасляваенных вясковых гаспадарак, вопыту кіраўнікоў, праблеме стылю кіравання сельскай гаспадаркай («Зямныя вузлы», «Да долі чалавечай»), то ў канцы 1970 – пачатку 1980-х гг. цэнтральнай тэмай у творчасці публіцыста становіцца асушэнне балот Палесся. Аўтар глыбока, комплексна даследуе асаблівасці меліярацыйнага працэсу ў Беларусі. Для І. Дуброўскага характэрна неаператыўнае напісанне твораў. Разам з тым ён імкнецца апярэдзіць падзеі, інтуітыўна адчуваючы, абмеркаванне якіх праблем і з'яў жыцця можа выклікаць грамадскі рэзананс. Дуброўскі-вучоны дакладна ведае навуковую тэрміналогію, шмат гадоў сустракаецца са спецыялістамі і вывучае меліярацыю з самых яе вытокаў на беларускай зямлі. Кніга «Гамоніць Палессе» – гэта абагульненне амаль пяці дзясяткаў гадоў даследчай працы Дуброўскага-вучонага і Дуброўскага-публіцыста.

І. Дуброўскі выступае не толькі як уласна публіцыст, але і як крытык. Напрыканцы 1970-х гадоў І. Дуброўскі аналізуе нарысы, прысвечаныя праблемам аховы прыроды: «Наша дзяржава робіць шмат для захавання ў чысціні прыроднага асяроддзя. Але сёння страшнейшай пагрозай прыродзе выступае не прамысловасць з яе шкоднымі адыходамі, а цывілізаваны абывацель» [26, с. 5]. Дасягнуць гарманічнага суіснавання прагрэсу цывілізацыі і натуральнага асяроддзя, на яго думку, магчыма толькі дзякуючы клапатлівасці і дбайнасці чалавека-гаспадара на зямлі.

Паралельна з тэмай меліярацыі публіцыст аналізуе і сучаснае вясковае жыццё («На новыя кругі», «Час сеяць і час жаць»). Аднак зараз ужо звяртае ўвагу на праблемы, звязаныя з новымі ўмовамі грамадска-эканамічнага жыцця. Сярод іх – кааперацыя працы ў сельскай гаспадарцы, арганізацыя тэрытарыяльна-вытворчых аб'яднанняў і жывёлагадоўчых комплексаў, рэарганізацыя і ўзбуйненне сельскіх гаспадарак, праявы бюракратызму, выкарыстанне механізацыі ў вытворчым працэсе, будаўніцтва пасёлкаў гарадскога тыпу і неперспектыўнасць маленькіх, аддаленых паселішчаў.

Публіцыст І. Дуброўскі спалучае ў сваіх творах пытанні развіцця навукова-тэхнічнай рэвалюцыі і захавання прыроды. Сам аўтар глядзіць на вёску вачыма таго селяніна, для якога праца на зямлі – аснова і эканамічнага, і духоўнага жыцця.

Нарысы І. Дуброўскага хранікальныя не толькі па форме, але і па змесце, аўтар імкнецца як мага больш аб'ёмна адлюстраваць набыткі і супярэчлівасці сваёй эпохі праз партрэт асобнага чалавека і вобраз беларускай вёскі другой паловы XX ст. Разам з тым вялікі аб'ём матэрыялу часам залішне расцягвае яго творы, пераўтвараючы іх з нарысаў амаль у дакументальныя аповесці, у выніку чытач не заўсёды здольны прасачыць раскрыццё галоўнай ідэі твора, увага адцягваецца на менш значныя падрабязнасці.

Калі вясковая тэма заўсёды была магістральнай у айчыннай публіцыстыцы, то вытворчая, або, як яшчэ яе называюць крытыкі, рабочая, індустрыяльная, гарадская, тэма выходзіць на першы план толькі ў 1970 – пачатку 1980-х гг. (кнігі нарысаў В. Мысліўца, творы М. Шыманскага). Цяжка сцвярджаць, што вытворчы нарыс у беларускай мастацкай публіцыстыцы атрымаў такое шырокае распаўсюджванне, як у расійскай, тэматычныя кірункі развіцця якой, у прыватнасці, даследавала Т. Беняволенская.

Вытворчая тэма знаходзіла адлюстраванне перш за ўсё ў газетных публікацыях. Так, рэспубліканскія і рэгіянальныя выданні праводзілі штогадовыя конкурсы на лепшыя нарысы, прысвечаныя

жыццю рабочых, стваралі пастаянныя рубрыкі («Сельская газета» – «Их жизнь, их труд – пример для всех», «Советская Белоруссия» – «Рабочий: социальный портрет», абласная брэсцкая «Заря» – «Портрет коллектива»). Творчыя конкурсы падштурхоўвалі актыўнасць журналістаў і пісьменнікаў у асваенні фактычна новай для беларускай публіцыстыкі тэматыкі.

Калектыўны зборнік «Рабочий: социальный портрет» (1974), аўтарамі якога сталі Н. Конанава, М. Кернога, А. Сафроненка, аб'яднаў нарысы, што друкаваліся ў «Советской Белоруссии». Вобраз часу ў творах журналістаў, якія сталі першымі лаўрэатамі Дзяржаўнай прэміі рэспублікі ў 1975 г., выяўляецца праз стварэнне «абагульненага, зборнага сацыяльнага партрэта чалавека працы, стваральніка матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізму» [37, с. 4].

Н. Конанава ў нарысе «Ум и руки» звяртаецца да гісторыі, паказваючы цяжкасці дарэвалюцыйнай працы, і параўноўвае качагараў з рамана «Молох» А. Купрына з сённяшнімі прадстаўнікамі рабочай інтэлігенцыі, у якой сціраюцца межы паміж разумовай і фізічнай працай: «...вырашальную ролю ў матэрыяльнай вытворчасці пачала граць не фізічная праца, а здольнасць рабочага вырашаць складаныя тэхнічныя задачы, умець шукаць і знаходзіць аптымальныя варыянты вядзення працэсу, кіраваць ім» [37, с. 12].

Аўтары зборніка імкнуліся ў творах адлюстраваць розныя бакі вытворчага працэсу, перш за ўсё звяртаючы ўвагу на псіхалагічныя моманты ў даследаванні працоўных калектываў і іх асобных прадстаўнікоў. Так, М. Кернога ў нарысе «От отца к сыну» закранае тэму сувязі пакаленняў, неабходнасць перадачы педагагічнага таленту і прафесійнага майстэрства. Не абмінулі журналісты і такія аспекты вытворчай тэматыкі, як сацыялістычнае спаборніцтва на прадпрыемствах, вучоба працоўнай моладзі, суадносіны асабістых і калектыўных інтарэсаў у агульнай працы, будаўніцтва новых аб'ектаў, якое ў поўнай ступені выявіла сяброўства народаў, удзел і дапамогу савецкіх рэспублік, напрыклад, пры ўзвядзенні наваполацкага Нафтаграда, наватарскія дасягненні ў тэхналагічным працэсе і комплекснасць працы ў брыгадах.

У творах Валянціна Мысліўца, які шэсць гадоў працаваў на Мінскім аўтамабільным заводзе і першую сваю кнігу «Мае заводчыкі» прысвяціў былым калегам, відавочны ўплыў асабістай біяграфіі. Пазнейшыя яго нарысы таксама адлюстроўваюць жыццё вялікіх заводаў. Аўтар імкнецца ўнікнуць у клопаты рабочых і недахопы арганізацыі вытворчага працэсу. Адчуваецца, што яны блізкія яму самому. В. Мыслівец стараецца не абыходзіць увагай ні дырэкта-

ра, ні простага токара або фрэзероўшчыка, яму аднолькава цікавы погляд на праблему «зверху» і з глыбіні.

Публіцыст перакрыжоўвае ў нарысах мінулыя падзеі і сучаснасць, асабістае і калектыўнае жыццё сваіх герояў, аднак гэта строкатасць не заўсёды на карысць чытацкаму ўспрыманню. Аўтар часта імкнецца выхапіць пэўны момант у жыцці чалавека, не клапоцячыся пра тое, каб паказаць праблему ў развіцці. Героі нарысаў не вельмі звязаны паміж сабой, іх жыццёвыя гісторыі падаюцца паасобку. Назіранні самога аўтара таксама даволі разрозненыя. Стыль яго твораў больш падобны на рэпартажны, партрэты герояў хутчэй нагадваюць толькі замалёўкі, якія не вельмі стасуюцца з агульнай ідэяй твора.

На гэтую акалічнасць творчасці В. Мысліўца ўказвала і А. Лысенка: «Галоўнымі ж недахопамі гэтых твораў з'яўляецца выпадковасць і разрозненасць асобных фактаў, не знітаваных у цэласны малюнак жыцця, схематызм сітуацый, бясстраснасць і невыразнасць мовы» [11, с. 308].

Магчыма, гэта звязана са спецыфікай самой тэмы, якую адлюстроўвае публіцыст. Аднак яго падарожныя нататкі («Ля дукорскіх муроў», «У стэпе пад Херсонам»), партрэтныя нарысы, прысвечаныя вяскоўцам («Лёс Ганны Пінчук», «Давыдаўна»), праблемныя творы («Расплата за хціваець») вельмі вобразныя і яркія. У творах, прысвечаных пчалярству, В. Мыслівец паўстае зусім іншым аўтарам. Дэталёвае веданне працэсу і праблем гэтай галіны, імкненне да ўдасканалення як на ўласным падворку, так і ў межах усёй рэспублікі, выкарыстанне спецыяльнай літаратуры і статыстыкі тут дапаўняюцца цікавымі партрэтамі герояў – аднавяскоўцаў аўтара, уласнымі ўспамінамі пра ваеннае дзяцінства, асабістай зацікаўленасцю (кнігі «Крылаты канвеер» і «Скрыль мёду» і нарадзіліся менавіта таму, што сам В. Мыслівец усур'ёз займаўся пчалярствам). Вывучаючы вопыт калег з усёй рэспублікі і нават Савецкага Саюза, публіцыст вызначае і праблемы, характэрныя для пчалярства ўвогуле: няўважлівасць да лекавых магчымасцей пропалісу, атручванне пчол раслiннымі ядахімікатамі. Тут аўтар знаходзіцца ў сваёй стыхіі, і таму старонкі нарысаў чытаюцца з цікавасцю і захапленнем.

Публіцыстычныя творы беларускіх аўтараў не толькі друкаваліся ў перыёдыцы і выдаваліся асобнымі кнігамі. Па рашэнні камісіі па публіцыстыцы, створанай пры праўленні Саюза пісьменнікаў Беларусі ў 1973 г., з 1977 г. пачалі выходзіць дзве кніжныя серыі, у якіх друкаваліся публіцыстычныя творы: штогадовы альманах

«Сучаснік» (праіснаваў да 1991 г.) і двухмоўная серыя «Рэспубліка. Час. Людзі» (таксама выходзіла да пачатку 1990-х гг.). Гэта дало магчымасць вылучаць лепшыя творы сярод тых, што з'яўляліся на старонках перыядычных выданняў, стварыць панараму грамадскага жыцця рэспублікі на працягу больш за дзесяцігоддзе, перадаць характарыстыкі эпохі праз вобразы сучаснікаў. Менавіта гэтыя кнігі (пазней да іх далучылася серыя «Плошча свабоды»), у якіх адлюстраваны галоўныя тэматычныя кірункі беларускай публіцыстыкі – вясковы, экалагічны, антываенны і нацыянальна-адраджэнцкі, даюць магчымасць стварыць аб'ёмны, усебаковы, абагульнены вобраз часу.

Адным з найбольш яркіх публіцыстаў перыяду 1970–1980-х гг. стаў Анатоль Казловіч, які працаваў у «Сельской газете», а пазней быў сабкорам «Литературной газеты» па Беларусі. Праблематыка яго твораў сканцэнтравана вакол беларускай вёскі, аднак аўтар разглядае вельмі шматлікія аспекты яе існавання ў сучаснасці: узаемадзеянне прыроды і чалавека ў эпоху НТР, «неперспектыўнасць» і выміранне вёскі ў ракурсе перасячэння пераваг і недахопаў навукова-тэхнічнага прагрэсу, праблема ўзаемаадносін вёскі і горада, пагубныя наступствы меліярацыі, пытанні экалогіі, якія пазней трансфармуюцца ў праблемы Чарнобыльскай катастрофы, неабходнасць аховы прыроды і росту экалагічнай свядомасці і культуры грамадства. Для твораў А. Казловіча характэрна таксама перапляценне вытворчых і маральна-этычных праблем.

Ужо ў сваім першым зборніку нарысаў «Дыхание» (кнігі А. Казловіча выдаваліся ў большасці на рускай мове), які выйшаў у 1977 г., ён заявіў пра сябе як журналіст, што імкнецца дакапацца да сутнасці праблемы. Для публіцыста характэрна ўстаноўка на комплекснае даследаванне з'явы ў яе прычынна-выніковых сувязях. Усім яго нарысам уласціва такая рыса, як падсумоўванне – часта ў выглядзе меркавання кампетэнтных спецыялістаў, афіцыйных дакументаў, чытацкіх лістоў. А. Казловіч нярэдка звяртаецца да праблемы праз некалькі гадоў пасля выхаду першага твора, асэнсоўваючы больш поўна і глыбока вынікі сваёй працы з тэмай.

Публіцыст звяртаецца да аўтабіяграфічных успамінаў («Як упершыню ўбачыў», «Брыгадзірскі сынок»), повадам для з'яўлення нарыса можа стаць ліст, дасланы ў рэдакцыю («Сон у Валеўшчыне», «Закон слова»), або жыццёвы факт, з якім сутыкнуўся сам публіцыст («Тэлефонны званок прафесара», «Смейтесь почаще, министры!»). Аднак у цэнтры яго твораў заўсёды знаходзіцца не толькі канкрэтны чалавек, але і складаная сацыяльная з'ява, праблемная сітуацыя.

Яго творы адрозніваюцца ярка выражаным аўтарскім «я» на працягу ўсяго нарыса. А. Казловіч амаль заўсёды піша ад першай асобы, знаёміць чытача з паслядоўнасцю збору і аналізу фактаў. Такім чынам, аўтар пазбягае магчымасці прыўкрасу рэчаіснасці. Гэта характэрна нават для ранніх яго нарысаў. За прыгожым фасадам перадавога верцялішкаўскага калгаса «Прагрэс» ён бачыць сур'ёзную праблему: адчужэнне вясковых жыхароў ад зямлі, пагоню за бытавымі перавагамі горада, сціранне меж паміж вёскай і горадам («Верцялішкі»).

Часам ствараецца ўражанне, што публіцыст не адразу дакладна вызначае ўласную пазіцыю, аднак тым самым дае героям магчымасць выказацца, выслухоўвае і супастаўляе думкі розных, часта канфліктуючых бакоў, паказвае складанасць сітуацыі («Вясковыя вятры»). Разам з чытачом і героем ён стараецца асэнсаваць праблему, кіруючыся прынцыпам: «Ідзі і глядзі – і факты адкрыюць логіку жыцця». Паступова, аналізуючы сабраны матэрыял, ён прыходзіць да канкрэтных вынікаў, сцвярджэння першапачатковых мэт, якія і вызначылі выбар і тэму нарыса або эсэ. Часам гэтыя вынікі бываюць нават залішне катэгарычнымі, А. Казловіч адмаўляе існаванне альтэрнатыўных поглядаў на праблему. Гэта абумоўлена глыбокім пранікненнем публіцыста ў праблему, імкненнем зразумець яе сутнасць і прапанаваць канкрэтныя рашэнні, болем аўтара за сваіх герояў і спачуваннем ім («Вясковыя жанчыны», «Вясковыя мужчыны»).

Сярод аўтараў, якія праз асабісты вопыт асэнсоўвалі праблемы айчыннай вёскі, вылучаецца жанравай спецыфікай сваёй творчасці Анатоль Сілянкоў, адзін з нешматлікіх журналістаў, які актыўна працаваў у галіне навукова-папулярнага нарыса. Карыстаючыся спасылкамі на меркаванні вучоных-эканамістаў, лічбамі статыстыкі, параўноўваючы савецкую сельскую гаспадарку з нямецкай, японскай і інш., на аснове карпатлівага аналізу эканомікі і псіхалогіі сялянскага жыцця А. Сілянкоў выводзіць формулу зацікаўленасці калгасніка ў выніках працы на ўласным прысядзібным надзеле, дзе ён «сам сабе гаспадар», адстойвае неабходнасць захавання прыватных гаспадарак і разам з тым адзначае непазбежнасць індывідуалізацыі, адчужэння ад калектыву ў выніку павышэння ўзроўню асабістага дабрабыту жыхароў вёскі. Разважаючы над неабходнасцю зацікавіць селяніна ў агульнай працы і заахвоціць да ўдзелу ў павышэнні эфектыўнасці сельскагаспадарчай вытворчасці, А. Сілянкоў бачыць выйсце не толькі ў выключна эканамічных рычагах, але паглыбляецца ў даследаванне псіхалогіі вясковых працаўнікоў.

Праблемы сельскагаспадарчай вытворчасці А. Сілянкоў разглядае ў нарысе «Каравай на покуці», прысвечаным дасягненням беларускай селекцыйнай навукі ў тэхналогіях адбору і вырошчвання збожжавых культур. Аўтар прыводзіць прыклады з гаспадарак розных рэгіёнаў рэспублікі, параўноўвае ўраджайнасць розных відаў раслін, даследуе перавагу некаторых культур перад астатнімі, ускосна закранае і пытанні іншых галін сельскагаспадарчай дзейнасці – жывёлагадоўлі, пчалярства, садаводства.

Індывідуалізм і калектывізацыя, спецыялізацыя працы і прапарцыянальнасць аплаты за яе, неабходнасць механізацыі вытворчых працэсаў у сельскай гаспадарцы, праблемы асабістых гаспадарак і дапамогі калгаснікам з боку кіраўніцтва, лёс маленькіх неперспектыўных паселішчаў – усё гэта хвалюе публіцыста, неабыякавага да жыцця беларускай вёскі. Закранае А. Сілянкоў і такі аспект вясковага жыцця, як працоўнае выхаванне падрастаючага пакалення. Падыход да праблемы ў публіцыста неадназначны: з аднаго боку, ён паказвае перавагі таго, што сялянскія дзеці з маленства прывучаюцца да працы, паважаюць бацькоў, імкнуцца дапамагаць у гаспадарцы, з другога – у выніку атрымліваюць больш слабую вучэбную падрыхтоўку, не заўсёды маюць магчымасць у параўнанні з гарадскімі школьнікамі паступіць у ВНУ. Актыўная прафарыентацыйная дзейнасць старшакласнікаў дапамагае дзецям вызначыцца з далейшай працай у сельскай гаспадарцы, аднак амаль не выключае праблемы цякучасці кадраў у вёсцы, недахопу такіх спецыялістаў, як аграномы, механізатары, заатэхнікі, інжынеры. Асаблівы акцэнт А. Сілянкоў робіць на перадавых, эксперыментальных гаспадарках (вёскі Верцялішкі, Сноў), дзе таксама назіраецца недахоп працоўнай моладзі. Блізкасць прыгарадных гаспадарак да буйных цэнтраў прамысловай вытворчасці, а таксама адсутнасць перспектыў прафесійнага росту становяцца прычынай міграцыі вясковых жыхароў.

Бытавыя праблемы сялянскага жыцця журналіст разглядае праз канкрэтныя чалавечыя лёсы, гісторыі суседскіх сем'яў, шмат увагі надзяляе дробязям, як станоўчым, так і адмоўным, праз публіцыстычныя дэталі падкрэсліваючы ўласную аўтарскую пазіцыю. У выніку з адзінкавага прыкладу нярэдка вымалёўваецца праблема, агульная для вясковых гаспадарак. Так, апісваючы канфлікт паміж маладымі суседзямі, якія распачаўся ў выніку дзялення гарода і амаль не прывёў да змены жыхарства абедзвюма сем'ямі, А. Сілянкоў уздымае тэму будаўніцтва на сяле, немэтазгоднасці сляпога капіравання архітэктурных планаў гарадской забудовы ў вёсках.

Шматлікія пытанні, якія публіцыст уздымаў у нарысах два дзясяткі гадоў таму, з'яўляюцца актуальнымі і ў сённяшняй Беларусі. Так, увага да «чалавечага фактару» нярэдка выводзіць публіцыстычныя развагі А. Сілянкова на больш агульны ўзровень, закранаючы балючыя сацыяльныя праблемы, характэрныя не толькі для вясковага жыцця.

Праблема п'янства раскрываецца аўтарам на прыкладзе асобных герояў Ляксея («Ластаўкі над дахам») і Філіпа («Хілька з паляўнічай базы»). Апошні падчас вайны страціў родных, застаўся адзін на свеце васямнаццацігадовым хлопцам. «Што ён ведаў пра жыццё... Як мог знайсці адказы на балючыя пытанні, з якімі не заўсёды спраўляюцца сталасць і вялікі жыццёвы вопыт? Пытанні адвечныя, абстрактныя, але заўсёды надзённыя для людзей – пра жыццё і смерць, дабро і зло. Мінулая вайна абвастрыла гэтыя пытанні дарэшты, даўшы ў рукі насіллю і злу такія сродкі знішчэння жыцця, аб якіх яшчэ нядаўна людзі нават і не здагадваліся. Злая разбуральная сіла павялічвалася ў многа разоў, а ці атрымала стваральная сіла дабра і справядлівасці адпаведна магутныя сродкі? І перш за ўсё тыя сродкі, што ўзнаўляюць і павялічваюць духоўныя сілы чалавека... Для Хількі, як і для многіх людзей, ад вырашэння гэтых абстрактных пытанняў, іншы раз нават ясна неакрэсленых, залежалі ў многім інтарэсы яго жыцця, паўсядзённых паводзін, адносін да людзей.

Спагадлівасць сяльчан і ўвагу да сябе Хілька больш усяго адчуў праз шклянку гарэлкі. Як сабяруцца за сталом дзе-небудзь, успомняць і пра яго гора...» [54, с. 49].

Аўтар не адкрыта асуджае суседзяў-аднавяскоўцаў, а спрабуе разабрацца, чаму ж так адбылося ў іх жыцці, у пэўным сэнсе нават спачувае ім, і разам з тым задумваецца аб неабходнасці вырашэння праблемы спажывання алкаголю на агульнадзяржаўным узроўні, магчыма, праз заканадаўчыя змены ў гандлі спіртнымі напоямі, ад продажу якіх прадпрыемствы атрымліваюць вялікія прыбыткі.

Маральна-этычныя ідэі нарыса «Кукульчыны дзеці» таксама шмат у чым пераклікаюцца з сённяшнім духоўным станам грамадства. Вуснамі адной з гераінь аўтар акрэслівае тэму твора:

«Мала што старыя кажуць. З дзецьмі столькі турботы! Будзеш імі займацца – маладосць пройдзе. А мы ж усяго толькі адзін раз жывём, Наста!» [54, с. 7].

Праблему кінутых дзяцей, нежадання выхоўваць малых і іх «падкідванне» ў вёску, састарэлым бацькам А. Сілянкоў разглядае праз прызму ўспамінаў пра пасляваенную пару, калі сялянскія ўдовы бралі прыёмных дзяцей у свае сем'і. Пазіцыя аўтара відавочна

акрэсліваецца праз словы галоўнай гераіні твора, адзінокай пажылой Веры Украінкі, якая разважае аб любові да дзіцяці, узгадваючы шматлікія народныя традыцыі, абрады, звязаныя з неабходнасцю з'яўлення ў сям'і маладога пакалення.

У творы няма маралізатарства, аўтар не навязвае сваю думку чытачу, але супастаўленне думак і меркаванняў яскрава вымалёўвае падыход публіцыста: «Укласці душу ў выхаванне дзіцяці – гэта і азначае навучыць яго самаму галоўнаму ў жыцці – чалавечнасці. А выхаванне чалавечнасці і ёсць маральнае выхаванне, якое, уласна кажучы, з'яўляецца сапраўдным выхаваннем, асновай развіцця ўсіх іншых задаткаў чалавека» [54, с. 25].

Кнігі «Родная ваколіца» і «Яблыня пад акном» – вынік назіранняў аўтара за жыццём роднай вёскі Ніканавічы на Магілёўшчыне, куды ён прыязджае наведаць бацькоўскі куток. Лірычныя адступленні, успаміны пра ўласнае дзяцінства, апісанне падзей мінулага і гісторыі вёскі, рэпартажныя элементы ў кампазіцыі нарысаў яднаюць творы А. Сілянкова з публіцыстыкай Я. Сіпакова.

Святлана Алексіевіч, сусветна вядомы сваімі дакументальнымі аповесцямі публіцыст, таксама пачынала творчасць з вясковай тэмы, аднак дакладней было б вызначыць праблематыку яе першых нарысаў як працэсы міграцыі і псіхалагічнай адаптацыі жыхароў вёскі і горада. Яна закранае праблему бацькоў і дзяцей, але не ў звычайным ракурсе адчайных падлеткаў і бездапаможных бацькоў. Нарыс «Як Кацярына ў горад ездзіла» адлюстроўвае тыповую сітуацыю, калі гарадскія дзеці імкнуцца забраць састарэлых маці да сябе ў горад. Добрае веданне сялянскай душы, лірызм і любоў аўтара да сваіх гераінь дапамагаюць С. Алексіевіч стварыць пераканаўчыя вобразы сялянскіх жанчын (Кацярына, Паўлючыха, баба Стася).

Трапна заўважаючы вуснамі Паўлючыхі: «Якая жаба ні вырасце, а ў горад пойдзе... Увесь свет некуды падаўся... Не трэба нікому роднае хаты» [64, с. 121], С. Алексіевіч бачыць не толькі запусценне неперспектыўных сялянскіх гаспадарак, адзіноту заўчасна аўдавелых вясковых жанчын, але і непрыкаянасць «няродных дзяцей горада», іх унутраную душэўную раздвоенасць, нязвыкласць да новых умоў жыцця, прагу да вяртання дамоў, назад у вёску – туды, куды, атрымліваецца, вярнуцца ўжо немагчыма.

Як і ў пазнейшых творах, у артыкуле «На ростанях» С. Алексіевіч вядзе размову з чытачом ад першай асобы, спрабуючы даследаваць міграцыйныя працэсы вёскі і горада не толькі звонку, але і з улікам асабістых фактараў: сама журналістка – адна з герояў публікацыі, што пакінулі вясковую бацькоўскую хату.

Яна задае сабе не адно пытанне: «Яшчэ і яшчэ раз звяртаюся да сябе: што ж прымушае нас, цяпер прыёмных дзяцей горада, увесь час абарочвацца і глядзець туды, акуль мы прыйшлі… Але, назіраючы за жыццём сваёй і суседняй вёсак, міжволі ставіш пытанне: няўжо сам працэс міграцыі некіруемы? Ці ж нармальна, што на вясковай вуліцы ўсё радзей сустрэнеш дзяцей, пустуюць па вечарах сельскія клубы, а праводзяць нас з вясковых скрыжаванняў толькі старыя бацькі?» [64, с. 115].

У пошуках няпростых адказаў С. Алексіевіч накіроўваецца да дырэктара мазырскага саўгаса «Асавец» Валерыя Герасімавіча Дубікоўскага, шукае ў бібліятэцы лічбы сацыялагічных даных («1,6 млн чалавек у нашай краіне кожны год пакідаюць вёску»), збірае выказванні і гарадскіх жыхароў у першым калене, і тых, хто застаўся ў вёсцы. На яе думку, праблема міграцыі закранае перш за ўсё псіхалагічныя змены ў партрэце сельскага жыхара, які пад уплывам росту навукова-тэхнічнага прагрэсу імкнецца наблізіць да сябе бытавыя і культурныя магчымасці горада. Цікавяць журналіста і сітуацыі «выпадковых» гараджан, якія не здолелі знайсці сваё месца ў сталіцы, аднак па розных прычынах не вяртаюцца да бацькоўскіх палеткаў.

Уважліва аналізуючы прычыны апусцення вёскі, С. Алексіевіч звяртае ўвагу на неабходнасць кіравання міграцыйным працэсам дзеля двухбаковай карысці грамадства і самога чалавека, на магчымасць сацыяльнага планавання вёскі і паляпшэння яе ўмоў. І разам з тым вырашэнне пытанняў, зададзеных аўтарам на пачатку свайго артыкула, у сваю чаргу, наводзіць яе на новыя праблемы, звязаныя з адаптацыяй былых сельскіх жыхароў у горадзе.

Абагульненнем пошукаў журналіста гучаць словы адной з гераінь: «Так атрымалася ў нас, у тых, хто прыехаў з вёскі, што бацькі нашы там, у вёсцы, а дзеці тут, у горадзе, горад ім родны. Ну, а мы пасярэдзіне... Баліць душа, і ўсё...» [65, с. 134]. Гэта душа, якая баліць, на думку аўтара, і застаўляе гарадскіх пенсіянераў купляць сельскія хаткі, каб хоць напрыканцы жыцця вярнуцца да сваіх вытокаў, туды, адкуль выраслі і вёска, і горад, і само жыццё.

Менавіта ў публікацыях С. Алексіевіч, М. Вайцяшонак, З. Марозава знайшла адлюстраванне такая з’ява, як зваротная міграцыя – вяртанне пажылых людзей у вёску.

Вясковыя нарысы Марыі Вайцяшонак характарызуюцца сканцэнтраванасцю аўтарскай увагі на ўнутраным жыцці герояў твораў, псіхалагічнай скіраванасцю ў даследаванні рэчаіснасці (што, дарэчы,

характэрна ў цэлым для жаночай публіцыстыкі – твораў А. Васілевіч, С. Алексіевіч, Л. Арабей). Адзін з найбольш выдатных яе твораў – «Аліна» – вызначае агульную ідэю зборніка «Сярод блізкіх людзей» (1988, серыя «Рэспубліка. Час. Людзі»), акрэслівае супрацьстаянне старой вёскі і новага пакалення яе жыхароў. Канфлікт паміж імі застаецца нявырашаным, магчыма, да сённяшняга часу, калі адзіным «выйсцем» застаецца знікненне саміх вёсак або пераўтварэнне іх у раёны «адпачынку» гарадскіх «дачнікаў». Балючы змест нарыса «Бацькава спадчына», прысвечаны непаразуменню паміж старым Мацеем і сынам Славікам, выяўляе рознасць жыццёвых мэт пакаленняў бацькоў і дзяцей, адсутнасць узаемапаразумення не толькі ў асобнай сям'і, але і ў самім грамадстве.

Вобраз часу ў нарысах М. Вайцяшонак мае свае асаблівасці ў параўнанні з творамі папярэдніх дзесяцігоддзяў (В. Палтаран, напрыклад). Аўтар звяртае ўвагу на новыя праблемы вясковага жыцця: з'яўленне неперспектыўных вёсак, нядбайнасць моладзі ў адносінах да зямлі, міграцыя вясковых жыхароў у горад. Журналіст разглядае набалелую праблему ў незвычайным ракурсе: у 1960–1970-я гг. галоўнай мэтай было набліжэнне ўмоў вясковага жыцця да гарадской цывілізацыі, паступовае сціранне меж паміж сялом і горадам. У 1980-я гг. сельскія юнакі і дзяўчаты ўсё часцей імкнуцца ў цэнтр, сталіцу, але не могуць пераадолець сваю нязвыкласць, адчуваюць сябе чужымі ў горадзе. Разам з тым яны не спяшаюцца вяртацца дамоў, забыўшыся на цяжкую сялянскую працу (нарыс «Дзяўчаты з Перахрэсця»), пагарджаюць «малой» радзімай, не разумеючы, што «несвядома здраджана ўсяму вясковаму – самаму лепшаму ў сабе здраджана» [16, с. 183]. Тэму парушанасці генетычных сувязей селяніна з радзімай і зямлёй аўтар працягвае і ў сваёй кнізе «Сад нявіннасці» (2002).

Многія публіцысты, чыя творчасць разглядаецца ў дадзеным даследаванні, актыўна друкаваліся ў альманаху «Сучаснік», першы выпуск якога адносіцца да 1977 г.

У «Сучасніку» канца 1970-х гг. пераважалі нарысы-партрэты, станоўчымі героямі якіх выступалі выключна перадавікі вытворчасці або сельскай гаспадаркі, камуністы: «Яднае ж гэтых людзей самае галоўнае: глыбокае ўсведамленне свайго абавязку як працаўнікоў і камуністаў перад партыяй і народам, калектывам, у якім яны працуюць; катэгарычнае непрыняцце мяшчанскай утульнай заспакоенасці і сытасці...; штодзённае служэнне калектыву, грамадству працай, словам, прыкладам не дзеля ўласнай выгады або карысці, а таму, што ўсё гэта стала патрэбнасцю іх натуры.

Героі Сацыялістычнай Працы – гэта людзі высокай маралі, этыкі і культуры, гэта палымяныя стваральнікі будучыні – камуністычнага грамадства!» [63, с. 36].

Нельга не адзначыць, што значнае месца на старонках беларускай перыёдыкі ў гэты час займалі прапагандысцкія творы (іх колькасць значна павялічылася ў параўнанні з папярэднім перыядам). Накіраваны артыкулы такога кшталту былі часцей за ўсё супраць амерыканскіх спецслужбаў і ўвогуле капіталістычнага ладу жыцця. Яркім палітычным аглядальнікам 1970 – пачатку 1980-х гг. быў Савелій Паўлаў (пісаў аўтар і на экалагічныя тэмы). Яго вострыя, іранічныя памфлеты і артыкулы з'яўляліся ў часопісах «Полымя» і «Беларусь»: «Тарцюф XX стагоддзя» (памфлет на прэзідэнта ЗША Д. Картэра), «Свабода? У публічны дом!» (артыкул пра свабоду заходніх СМІ), «Намібія: край ашуканых надзей», «Крыжовы сверб» (нарыс пра палітычна-ідэалагічную агрэсію ЗША). Кнігі публіцыстыкі С. Паўлава («Імперская паранойя» (1984) і інш.) таксама прысвечаны праблемам знешняй палітыкі СССР, абвастрэнню класавай барацьбы, гонцы ўзбраення і пагрозе тэрмаядзернай катастрофы, імкненню ЗША да сусветнага панавання і ідэалагічнай інтэрвенцыі імперыялізму ў краіны сацыялістычнай садружнасці і трэцяга свету.

Як і на пачатку 1950-х гг., вобраз рэчаіснасці ў публіцыстыцы канца 1970-х гг. набываў пэўную штучнасць, аднабаковасць у выяўленні рыс эпохі. На такія адметнасці беларускай публіцыстыкі, як адсутнасць твораў пра негатыўныя з'явы, завостранасці і канструктыўнасці ў вывадах, недастатковая глыбіня мастацкага і сацыяльнага аналізу рэчаіснасці, перавага станоўчай тэмы ў нарысістыцы, звяртаў увагу на пленуме Саюза пісьменнікаў БССР па праблемах публіцыстыкі ў 1982 г. І. Дуброўскі.

Творы «Сучасніка» толькі з 1985 г. становяцца больш праблемнымі, вызначаюцца палемічнасцю, адкрытым выяўленнем асобы аўтара і акрэсленасцю аўтарскай пазіцыі публіцыста ў адносінах да аналізуемых праблем рэчаіснасці. Альманах друкуе нарысы і артыкулы ўжо не толькі пра «герояў нашага часу». Упершыню публіцысты ўголас загаварылі пра праблемы, якія замоўчваліся ў друку ў папярэднія гады: захаванне сям'і і разводы, пазбаўленне бацькоўскіх правоў, алкагалізм і наркаманію.

Яўген Будзінас, бадай, упершыню ў беларускай публіцыстыцы звярнуў пільную ўвагу не на вопыт перадавых гаспадарак, а на праблемы адстаючых калгасаў, слабых сельскіх гаспадарак у нарысе «Як памагчы слабому?». Твор пачынаецца з размовы аўтара са

старшынёй аднаго з лепшых калгасаў Беларусі Уладзімірам Лявонцьевічам Бядулем, але адразу ж Я. Будзінас спасылаецца і на гутаркі з іншымі кіраўнікамі вядомых гаспадарак рэспублікі. Менавіта з перадавымі, вопытнымі мясцовымі лідарамі аўтар імкнецца вырашыць пытанне, вынесенае ў загаловак, справядліва мяркуючы, што гэтак зрабіць атрымаецца працей і дакладней, чым з дапамогай чарговых артыкулаў і загадаў міністэрстваў і ведамстваў, якія амаль ніколі не ўлічваюць рэальныя абставіны канкрэтнай гаспадаркі.

Журналіст свабодна аперыруе лічбамі-паказальнікамі прыбытковасці калгасаў, разважаючы і пра надоі малака, і пра нарыхтоўкі кармоў, і пра колькасць калгаснай тэхнікі, параўноўвае дасягненні беларускай сельскай гаспадаркі з вопытам суседніх Украіны, Літвы, Латвіі і Эстоніі, а часам нават крытыкуе пастановы зверху, якія падаюцца яму занадта адцягненымі ад рэчаіснасці, як, напрыклад, абавязковае выкананне калгасамі гадавых сацыялістычных абавязацельстваў. Ён назірае за сваім героем на працягу некалькіх тыдняў, накіроўваючыся разам з Бядулем у паездкі па калгасных палях і вёсках. Аўтар распытвае кіраўніка гаспадаркі і часам спрачаецца з ім, так што чытачу зразумела, што гэта не першая іх сустрэча. Я. Будзінас ужо пісаў пра старшыню калгаса «Савецкая Беларусь» раней. І зараз праблему дапамогі адстаючым калгасам, адчуваецца, журналіст і кіраўнік таксама вырашаюць разам, амаль на роўных, з даверам і павагай адзін да аднаго. Дарэчы, аўтару добра вядомы не толькі калгас Бядулі, але і іншыя гаспадаркі рэгіёна, таму абагульненне менавіта тыповых прааналізаваных складанасцей надае нарысу дадатковую грунтоўнасць і важкасць.

У друку перыяду перабудовы з'яўляюцца публікацыі, якія наўрад ці маглі б пабачыць свет раней (як і самі факты, што сталі асновай твораў), – нарысы «Школа гаспадарання» В. Мысліўца (пераход працы завода на брыгадную форму), «Дзяржпрыёмка на трактарным» М. Сердзюкова, «Цана прэстыжу» У. Кажэўнікава (расследаванне прычын з'яўлення няякасных тэлевізараў «Гарызонт»), «Іншароднае цела» В. Жука (будаўніцтва аўстрыйцамі Беларускага металургічнага завода ў Жлобіне), «І ўзялі завод у арэнду» І. Бараноўскага (гаспадарчыя інавацыі на Бабруйскім заводзе буйнапанэльнага домабудавання).

Зварот да тэмы вайны і міру, пагрозы тэрмаядзернай катастрофы на планеце, што развіваецца ў агульнафіласофскую ідэю жыцця і смерці (творы Б. Сачанкі, А. Адамовіча), узбагачае, дапамагае стварыць больш супярэчлівы і адначасова аб'ектыўны вобраз часу ў творах альманаха «Сучаснік» сярэдзіны 1980-х гг.

Пачынаецца шырокае абмеркаванне ў друку праблем экалогіі. Калі раней публіцысты звярталі ўвагу перш за ўсё на станоўчыя эканамічныя вынікі дзейнасці новых прадпрыемстваў рэспублікі, эфектыўнасць меліярацыйных работ на Палессі, то зараз залішняя пафаснасць твораў змяняецца асэнсаваннем сувязей экалогіі і эканомікі, пагрозы прыроднаму асяроддзю Беларусі. Я. Лецка ў нарысе «Плыві, рачулка, вечна!» параўноўвае экалогію прыроды і экалогію душы, сцвярджаючы іх узаемазалежнасць, уплыў экалагічных страт на псіхіку, неабходнасць выхавання моладзі на традыцыях спадчыны і культуры, назапашаных беларускім народам. М. Шыманскі, А. Петрашкевіч, В. Лапцік пішуць пра пагрозу атручвання басейна Прыпяці і Дняпра, якая рэальна можа ўзнікнуць з-за нядбайнасці, бяздумнага выкарыстання і ўтылізацыі солеадвалаў і шламасховішчаў Салігорскага калійнага камбіната. Блізкая да папярэдняй і тэма Чарнобыля, якая напрыканцы 1980-х гг. толькі пачынае з'яўляцца на старонках друку.

Да ліку закрытых раней тэм, што не абмяркоўваліся ў друку, належала і нацыянальнае пытанне рэспублік, што ўваходзілі ў склад Савецкага Саюза. Рубрыка «Памяць» у альманаху «Сучаснік» закранала пытанні адраджэння нацыянальнай свядомасці (пакуль што ў гістарычным і культурным аспектах). Пастаянным яе аўтарам з'яўляўся В. Быкаў, які разважаў пра неабходнасць захавання і развіцця беларускай мовы, выкрыцця «белых плям» гісторыі: «Сёння ўжо становіцца бясспрэчным, што грамадства не ў стане заваяваць поўны давер моладзі і, такім чынам, здзейсніць колькі-небудзь эфектыўную перабудову духоўнага жыцця народа без вычарпальнага асвятлення яго гістарычнага мінулага» [66, с. 266].

Творы, якія друкаваліся ў «Сучасніку» і серыі «Рэспубліка. Час. Людзі», адлюстроўвалі складанасці пераходу грамадства ад каманднa-адміністрацыйнай сістэмы кіраўніцтва ў савецкі час да дэмакратычных змен перыяду перабудовы і абвяшчэння галоснасці ў краіне, з'яўляліся прыкладам публіцыстычнага слова, якое рыхтавала палітычныя і эканамічныя пераўтварэнні другой паловы 1980-х гг.

Такім чынам, у развіцці беларускай публіцыстыкі другой паловы 1960–1980-х гг. можна адзначыць наступныя заканамернасці:

1) вядучая роля вясковай нарысістыкі. Героі і праблемы твораў разглядаюцца аўтарамі не спрошчана, як гэта было характэрна для публіцыстыкі 1950-х гг., а з улікам сацыяльных характарыстык, у кантэксце грамадскіх падзей. Вобраз часу, які вымалёўваецца ў творах публіцыстыкі пазначанага перыяду, дае ўяўленне пра галоўныя тэндэнцыі грамадскага развіцця;

2) паглыбленне лірыка-псіхалагічнага кірунку ў публіцыстыцы (творы Я. Сіпакова, А. Васілевіч, М. Вайцяшонак), вылучэнне асобы аўтара як стрыжнявога элемента публіцыстычнага твора;

3) выданне кніжных серый «Сучаснік» і «Рэспубліка. Час. Людзі» дазваляла чытачу атрымаць панарамную карціну тагачаснай рэчаіснасці, узнавіць у грамадскай свядомасці абагульнены вобраз часу, увасоблены ў распрацоўцы твораў вясковай, вытворчай, антываеннай, экалагічнай публіцыстыкі;

4) з'яўленне манаграфій па тэорыі і гісторыі беларускай публіцыстыкі, дзе даследавалася пераважна тэматыка айчыннага нарыса.

## Дзейснасць публіцыстычнага слова

Карэнныя змены ў палітычным і эканамічным жыцці краіны ў канцы 1980-х гг., абвяшчэнне галоснасці і свабоды слова кардынальна змянілі як цэнтральную ўсесаюзную прэсу, так і беларускія выданні. Актыўны ўдзел асобных журналістаў і пісьменнікаў у падрыхтоўцы дэмакратычных змен у грамадстве ў пачатку перабудовы вылучае на першы план асобу аўтара публіцыстычнага твора.

Разам з тым, як адзначаў нарысіст І. Дуброўскі ў адказе на анкету газеты «Літаратура і мастацтва» (1989), айчынная публіцыстыка не заўсёды аператыўна і аб'ектыўна адлюстроўвае грамадскія падзеі: «Перабудова грамадства – дэмакратызацыя, галоснасць, пашырэнне і ўвядзенне новых форм уласнасці – дае шырокі прастор для публіцыстыкі, як і для мастацкай творчасці наогул. Ніякіх забароненых тэм для публіцыстыкі, калі мець на ўвазе задачы і характар перабудовы, не павінна быць, за выключэннем дзяржаўнай і ваеннай тайны...

У сапраўднасці не ўсё яшчэ адкрыта для публіцыстыкі, нават у тым плане, як гэта афіцыйна дазволена. Далёка не ўсё падае наша статыстыка аб стане вытворчасці, культуры, грамадства наогул. Без патрэбы закрыты многія аддзелы архіваў. Перашкаджаюць часам публіцыстам у доступе да многіх ведамасных матэрыялаў і спраў бюракраты» [27, с. 6].

У друку разгортваецца палеміка аб тэндэнцыях у грамадскім жыцці, метадах паскарэння эканамічных рэформ, актывізуюцца працэсы дэсталінізацыі палітычнай сферы. Нягледзячы на знешнюю вастрыню і палемічнасць публіцыстычных матэрыялаў, большая іх частка вызначаецца павярхоўнасцю. Аўтарам часта не хапае аб'ектыўнага стаўлення да даследуемых праблем і з'яў. Публі-

цыстыка гэтага перыяду страчвае мастацкую вобразнасць і здольнасць да тыпізацыі, глыбіню думкі. Гэта хутчэй назіранні за вірам палітычных і эканамічных падзей у краіне, чым спроба іх аналізу і прагнозаў. Вобраз часу ў публіцыстыцы абумоўлены тэматычнай сканцэнтраванасцю твораў на палітычнай і эканамічнай інфармацыі, хуткаплыннасцю сацыяльных і культурных змен у грамадстве. На змену нарысу прыходзяць інтэрв'ю або маналогі, тэматыка якіх амаль заўсёды абмежавана негатыўнымі з'явамі ў жыцці сучаснага беларускага грамадства, прычым падаюцца яны ў занадта эмацыянальным ракурсе. Як пазначае Д. Клябанаў: «У сённяшняй публіцыстыцы змяненне стаўлення да нарыса, у параўнанні, скажам, з 1950–1960-мі гг., калі адбываўся росквіт гэтага жанру, відавочнае. Часам цяжка вызначыць, якія жанры выкарыстаны публіцыстамі ў матэрыялах, змешчаных на старонках перыядычных выданняў. Культура стварэння нарыса пакідае друк. І гэта праблема не толькі перыёдыкі. Нарыс – люстра жыццёвай філасофіі, адсутнасць жа філасофскай перспектывы адмоўна адбіваецца на сур'ёзных жанрах і прыводзіць да таго, што ў перыядычных выданнях нярэдка пераважае драбнатэмнасць... Цяпер у публіцыстычным і журналісцкім асяроддзі ідзе працэс перагляду спосабаў апрацоўкі і падачы матэрыялаў» [36, с. 36].

Прэса, што можа і павінна выступаць як сродак сацыяльнай кансалідацыі, духоўны арыенцір грамадства, часцей выконвае толькі ўласна інфарматыўную функцыю. Назіраецца адыход і занядбанне ўласна публіцыстычных жанраў. Губляецца адчуванне перспектывы і ўпэўненасці ў заўтрашнім дні, адбываецца кардынальная трансфармацыя ідэалаў і маральных каштоўнасцей.

Напрыклад, стаўленне да падзей Другой сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі становіцца неадназначным, з'яўляюцца матэрыялы ў падтрымку ўдзельнікаў калабарацыяніцкага руху і абвінавачанні партызан. Дыскусію ў перыёдыцы выклікаў артыкул В. Акудовіча («ЛіМ», 26.06.1992) «Вялікая Айчынная ці другая сусветная?», дзе аўтар, даследуючы розніцу паміж стаўленнем беларусаў і расіян да барацьбы з фашызмам, якая, на яго думку, мела месца, выступіў з правакацыйнай заявай аб неўспрынятасці партызанскага руху менталітэтам беларускага народа, мірным насельніцтвам.

Разам з тым з сярэдзіны 1990-х гг. у афіцыйных выданнях паступова зніжаецца колькасць матэрыялаў выкрывальніцкага характару, прысвечаных таямніцам бальшавіцкага рэжыму. Аглядальнік газеты «Літаратура і мастацтва» П. Васілеўскі ў артыкуле «Што скажа

той, хто народзіцца?» (10.11.1995) адзначыў, што ў грамадзянскіх настроях пачынае дамінаваць стомленасць ад палітыкі. Скончылася эйфарыя ад свабоды, як сумна заўважыў пісьменнік В. Казько: «Мы, падобна, ажывёльнены нашым сённяшнім побытам, у якім немагчыма прадбачанне заўтрашняга дня, жыццё з поглядам, што забягае крыху наперад, не толькі сабе пад ногі, але і крыху далей, за далягляд. І ніякага святла ў канцы тунэля. Адны толькі крушэнні і катастрофы. Распад сістэмы, ладу, дзяржаўнасці, асобы. І душа ў пастаяннай збянтэжанасці і спакусе – жыць прасцей, гэта значыць, элементарна прымітыўна, інстынктамі і толькі інстынктамі. А свет няхай сабе разбураецца, коціцца ў апраметную. Мы і ля пякельнага вогнішча пагрэемся.

Эйфарыя першых дзён свабоды, што звалілася быццам з неба, прадпісаная нам, як і ўсё ў ранейшым нашым жыцці, закончылася. Настала непазбежнае і простае – час выбару, асэнсаванне сябе ў часе. І гэты цяжар, цяжар свабоды выбару раздушыў нас, душэўна звіхнуў і вывіхнуў» [30, с. 5].

Мастацкі пачатак у публіцыстыцы фактычна знікае, чалавек перастае быць галоўным героем твораў. «Героя нашага часу» больш няма. Журналіст-практык, карэспандэнт расійскай «Общей газеты» М. Токарава тлумачыць прычыны гэтай тэндэнцыі наступным: «Крызіс нарыса звязаны са становішчам самой прафесіі журналіста. Сёння журналістыка павярнулася зусім у іншы бок. У бок інфармацыі, праблем грамадства, а не ў бок чалавека як такога. Сёння мы проста перанасычаны інфармацыяй, інфармацыя замяняе маральныя рэакцыі, а нарыс прадугледжвае менавіта маральныя ацэнкі, разважанні. Нарыс адродзіцца, калі грамадства вернецца да духоўных, сапраўдных каштоўнасцей» [34, с. 196].

Назіраецца тэндэнцыя да пашырэння эсэістычных традыцыі. Прычынай гэтага з’яўляецца няўпэўненасць у будучыні, трансфармацыя маральна-этычных ідэалаў грамадства. Аналізуючы публіцыстыку гэтага перыяду, Д. Клябанаў адзначае: «...з-за надзвычай хуткіх змяненняў у сацыяльна-эканамічным, палітычным, культурным жыцці і неадназначнасці сацыяльных і культурна-гістарычных працэсаў у нашым грамадстве ў чытацкай аўдыторыі даволі лёгка заўважаецца раздражнёнасць неабходнасцю не толькі асэнсоўваць і шукаць шляхі вырашэння сваіх уласных праблем, але і засяроджвацца на праблемах, што ўздымаюцца на старонках перыядычнага друку, у сродках масавай інфармацыі. Варта адзначыць і тое, што сучасная культура падачы інфармацыі ў пэўнай ступені характарызуецца нейкай нервознасцю, часам нават істэрычнасцю...

Эсэ, дзякуючы сваёй спакойнай танальнасці, няспешнасці аповеду, прыемна кантрастуе з агульным дастаткова агрэсіўным уздзеяннем на аўдыторыю з боку СМІ, звяртае на сябе ўвагу магчымасцю спакойна паразважаць, спыніцца ў імклівым віры сучаснага жыцця, адчуць сваю індывідуальнасць і індывідуальнасць іншага чалавека, зазірнуць у сябе і знайсці водгук сваім хваляванням у душы іншага» [36, с. 62].

Асабліва яскрава гэта адчуваецца ў часопісах новага тыпу, такіх як «Дзеяслоў», «ARCHE» і інш. Іх аўтары, пакаленне літаратараў 1980-х гг., напрыклад, В. Акудовіч, С. Дубавец, а таксама ўжо прызнаныя пісьменнікі У. Арлоў, Л. Галубовіч імкнуцца з дапамогай філасофскіх разважанняў сцвердзіць сапраўдную еўрапейскасць Беларусі, вызначыць яе годнае месца сярод іншых краін свету і пазначыць патэнцыяльныя шляхі развіцця дзяржавы і культуры беларусаў у новым тысячагоддзі. Аднак іх разважанні залішне інтэлектуалізаваныя, а часам палітызаваныя і ангажыраваныя.

Разам з тым суб'ектыўная скіраванасць публіцыстыкі адчуваецца і ў так званых класічных аўтараў. Як ніколі раней, пісьменнікі выкарыстоўваюць мемуары, успаміны, дзённікавыя запісы ў сваёй публіцыстычнай творчасці. Асабліва гэта праявіцца ў публікацыях другой паловы 1990-х гг., калі старонкі часопісаў запоўнены дзённікамі перыяду перабудовы: «Пішу як жыву» Я. Брыля, «Сам перад сабой» В. Адамчыка, «Зацемкі з левай кішэні» Л. Галубовіч, «Па законе прыгажосці» К. Камейшы, запісы М. Танка. Публіцыстыка, скіраваная на асэнсаванне актуальных тэм рэчаіснасці, амаль знікае, саступаючы месца ў друку дакументальнай прозе, успамінам пра асабістыя знаёмствы з мэтрамі айчыннай літаратуры (не заўсёды прымальным нават з этычнага пункту погляду) або бягучай літаратурнай крытыцы.

Блізкая да вышэйпазначанай рысы і такая адметнасць публіцыстыкі канца XX ст., як прытчавасць, філасофская заглыбленасць і абагульненасць. У жанры прытчаў ствараюць свае творы В. Быкаў, Я. Сіпакоў і іншыя пісьменнікі. Увогуле, пісьменніцкая актыўнасць ва ўласна публіцыстыцы рэзка зніжаеццца, асабліва ў другой палове 1990-х гг. Нават прафесійныя журналісты пачынаюць часцей звяртацца да жанраў мастацкай прозы або дакументалістыкі: В. Якавенка, І. Дуброўскі, У. Глушакоў, М. Вайцяшонак. Яны выступаюць у журналістыцы толькі з адзінкавымі публіцыстычнымі матэрыяламі.

На гэтую негатыўную тэндэнцыю звяртаў увагу на XI з'ездзе пісьменнікаў Беларусі (1994) намеснік старшыні У. Паўлаў у сваім дакладзе «Сёння і літаратура»: «...І ўсё ж публіцыстычнае слова

пісьменніка гучыць яшчэ прыглушана. У нас столькі праблем, столькі болю, што іншы раз трэба крычма крычаць, а мы рэдкія госці на старонках газет, на радыё і тэлебачанні» [46, с. 7].

Разам з тым у артыкуле, прысвечаным праблемам сацыяльнай нарысістыкі, даследчык С. Дубовік адзначае: «Для сучаснай мастацкай публіцыстыкі ў лепшых яе ўзорах характэрна паглыбленне аналітычнага ўзроўню, маштабнасць пастаноўкі сацыяльных праблем, актыўнае ўмяшанне ў канфліктныя сітуацыі» [25, с. 224]. Гэтыя рысы, аднак, больш уласцівы газетнай журналістыцы, у якой працуюць такія аўтары, як Л. Юнчык, М. Кернога, А. Акулік, М. Шыманскі, І. Міцкевіч.

У публіцыстыцы названага перыяду ўмоўна можна фіксаваць некалькі тэматычных пластоў:

1) экалагічная тэматыка (у якую можна ўключыць і адлюстраванне Чарнобыльскай катастрофы);

2) пытанні адраджэння нацыянальнай свядомасці (тут разглядаюцца праблемы білінгвізму, захавання гісторыка-культурнай спадчыны і г. д.);

3) сацыяльна-эканамічны пласт перабудовы і наступствы пераходу краіны да рыначнага ладу жыцця (сюды ж можна аднесці і традыцыйную для Беларусі вясковую праблематыку, у асвятленні якой акцэнты таксама змяняюцца).

Экалагічную тэму актыўна распрацоўваюць В. Лапцік, П. Сабіна, Я. Лецка, І. Новікаў, В. Карамазаў, А. Петрашкевіч.

Тэма Чарнобыля і яго наступстваў для Беларусі на працягу 1990-х гг. займала адну з вядучых пазіцый у беларускай літаратуры і, у прыватнасці, у айчыннай публіцыстыцы. Першымі асвятляць праблему забруджвання тэрыторыі рэспублікі радыеактыўнымі рэчывамі ў рэспубліканскай перыёдыцы пачалі пісьменнікі, якія паходзілі родам з найбольш пацярпелых ад катастрофы рэгіёнаў. Актыўна выступалі ў перыядычным друку І. Шамякін, Б. Сачанка, В. Казько, праўду пра Чарнобыль раскрываў у сваіх артыкулах А. Адамовіч, дакументальна-мастацкім падагульненнем жыцця Беларусі пасля выбуху 1986 г. стала «Чарнобыльская малітва» С. Алексіевіч.

Аднак засакрэчанасць многіх звестак і фактычная забарона публікацый, рэзка адмоўныя рэцэнзіі на чарнобыльскую публіцыстыку, гэтак жа, як і неасвядомленасць аўдыторыі, непадрыхтаванасць успрыняцця (за выключэннем жыхароў найбольш пацярпелых раёнаў) шмат у чым спрыялі таму, што ў першыя гады пасля трагедыі ў перыёдыцы замоўчваліся яе вынікі. Так, толькі ў 1989 г. на ста-

ронках публіцыстычнага альманаха «Сучаснік» з’явіўся пераклад успамінаў старшыні Міжнароднай арганізацыі перасадкі касцявога мозга, доктара-анколага Р. П. Гейла «Апошняе папярэджанне». У дакументальным творы медыка ў аварыі адкрыта абвінавачвалася кіраўніцтва АЭС, быў намаляваны маштаб катастрофы і зроблены прагноз яе наступстваў для так званага «чалавечага фактара». Аднак гэта быў адзіны матэрыял на чарнобыльскую тэму, які надрукаваў альманах, таму слушнымі ўяўляюцца крытычныя заўвагі А. Лысенка на пачатку 1989 г. у газеце «Літаратура і мастацтва»: «Экалагічная тэма, напэўна, як ніводная іншая, выявіла сілу і слабасць галоснасці, дакладней, яе неастатковасць. За тры гады на Беларусі не прагучалі на ўсю моц званы Чарнобыля. Не адгукнуліся яны і на старонках “Сучасніка”» [41, с.7].

У 1990 г. быў выдадзены зборнік «Зона бяды», прысвечаны пераадоленню экалагічных праблем Беларусі, у 1996 і 2001 гг. яго своеасаблівым працягам з’явіліся два выданні кнігі «Прайсці праз зону». У адным з іх быў змешчаны арыткул А. Адамовіча «Далібог, больш не выбухне, або Меркаванне неспецыяліста», дзе аўтар адкрыта казаў пра змяншэнне маштабаў катастрофы, называў канкрэтныя прозвішчы і пасады вінаватых у трагедыі, звяртаў увагу на недальнабачнасць дзяржаўнай палітыкі, якая не дазваляла перасяленне з забруджаных тэрыторый, і ўказваў на неабходнасць стварэння цэнтра кантролю за доўгатэрміновымі наступствамі аварыі і медыцынскага абслугоўвання насельніцтва.

«Запіскі аб радыяцыі» і «Паездка ў “зону”» – гэта дзённікавыя запісы Б. Сачанкі першых гадоў пасля аварыі. Тут і ўражанні ад наведвання радзімы – вёскі Вялікі Бор і навакольных паселішчаў, – і запісы гутарак з жыхарамі, і вытрымкі з дакументаў, і меркаванні вядомых вучоных-атамнікаў. Б. Сачанка не хавае балючай праўды, а, наадварот, абвінавачвае кіраўніцтва рэспублікі, сродкі інфармацыі ў замоўчванні праўды адразу пасля аварыі. У «Запісках...» і «Паездцы...» выяўляюцца адметныя рысы публіцыстыкі гэтага перыяду: суб’ектыўнасць, дзённікавая форма запісу, аператыўнасць, адсутнасць глыбіні аналізу і канкрэтных прапаноў па вырашэнні праблемы, немагчымасць стварыць цэласную карціну рэчаіснасці. Гэта, як і ў іншых названых вышэй творах, можна растлумачыць навізной тэмы, а таксама засакрэчанасцю многіх даных і перашкодамі ў падрыхтоўцы матэрыялаў да друку.

Творы «постчарнобыльскай эпохі» абагульніў у кнізе «Крушэнне на ростані» (2002) публіцыст, стваральнік і рэдактар сацыяльна-экалагічнай газеты «Набат» (1991–1996), прэзідэнт Беларускага

саюза «Чарнобыль» В. Якавенка, які адным з першых у Беларусі пачаў актыўна развенчваць міфы аб чарнобыльскай трагедыі. Ён з'яўляецца таксама лаўрэатам Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Ф. Нансена за цыкл нарысаў і артыкулаў, прысвечаных Нагорна-Карабахскаму канфлікту канца 1980-х гг. у Закаўказзі.

У раздзеле «Прыпяцкае веча» В. Якавенка асэнсоўвае вынікі міжрэспубліканскай канферэнцыі 1988 г. «Проблема Припяти – проблема Полесья». Дзякуючы вынікам канферэнцыі, у якой прымалі ўдзел навукоўцы і публіцысты, было спынена спрамленне рэчышча Прыпяці і асушэнне яе поймы, і гэта стала штуршком для перагляду нацыянальнай палітыкі ў галіне меліярацыі вучонымі АН БССР і дзяржаўнымі дзеячамі. У раздзеле «Чарнобыльскі сшытак», узгадваючы падзеі першых гадоў пасля аварыі, аўтар небеспадстаўна сцвярджае, што наша краіна, атрымаўшы асноўны цяжар выбуху на ЧАЭС, тым самым зберагла Расію і дзяржавы Еўропы ад атамнай навалы.

Блізкія да гэтага тэзіса і развагі В. Казько, філасофска-міфалагізаваная скіраванасць мастацкай творчасці якога яскрава відавочна і ў яго публіцыстыцы. Так, у эсэ «Сенакос у канцы красавіка», метафарычна называючы Чарнобыль «полымем планетарнай свечкі», аўтар на аснове гэтага азначэння стварае абагульненую алегорыю мінулага і будучыні чалавецтва: «...тут, пэўна, роўна тысячу гадоў назад хрысцілася вялікая Русь... Продкі прымалі хрысціянства. Бралі крыж і ставілі свечку. І тая, успаленая ў глыбокай старажытнасці свечка, ішла потым па ўсім хрышчоным славянскім свеце, пакуль у канцы першага свайго тысячагоддзя святло яе не шуганула, не запалала планетарна. І забіла святыя воды. Апаганіла зноў лясы. Пакрыла брыдотай жытло чалавека, звера і птушкі, у адно асляпляльна яснае імгненне паказала чалавеку, што ўжо атамнаю рукою трымаў самога бога за бараду, усю марнасць і мітуслівасць яго пыхлівага існавання, паставіўшы на будучае тысячагоддзе крыж на ўсім жывым тут...» [28, с. 66].

Ролю публіцыстыкі ў грамадстве перыяду перабудовы акрэслівае Г. Семянчук у рэцэнзіі на кнігу М. Ткачова «Паходня»: «...публіцыстыка ўплывае таксама на фармаванне нацыянальнай самасвядомасці. Менавіта гэта функцыя публіцыстыкі, неактуальная і таму другасная ў іншых краінах, на Беларусі мае прыярытэтнае значэнне, бо ўзровень нацыянальнага самавызначэння беларускага народа ў канцы XX стагоддзя ганебна нізкі» [53, с. 6]. Адной з вядучых тэм з'яўляюцца пытанні дзяржаўнага суверэнітэту і вяртання культурных традыцый беларускай нацыі, якія актыўна ўздымаюць

у публіцыстыцы Н. Гілевіч, В. Быкаў, В. Казько, Р. Барадулін, Ю. Станкевіч. З краязнаўчымі артыкуламі і нарысамі выступаюць у друку В. Чаропка, А. Марціновіч, М. Багадзяж, І. Масляніцына, А. Мяснікоў, А. Бутэвіч, А. Карлюкевіч.

У 1991 г. пачалося выданне публіцыстычнай серыі «Плошча Свабоды», у якую ўвайшлі кнігі пісьменнікаў А. Вярцінскага «Трывожны досвітак», В. Быкава «На крыжах», Н. Гілевіча «Выбар», А. Адамовіча «Апакаліпсіс па графіку», журналістаў І. Герасюка «Агония номенклатуры», І. Макаловіча «О, як далёка нам яшчэ да Беларусі» і інш. Вобраз часу, створаны ў іх артыкулах, характарызуецца асэнсаваннем ідэй актуальнасці адраджэння нацыянальнай свядомасці беларускага народа на фоне засілля радыяцыйнага і духоўнага Чарнобыля, неабходнасці звароту да гістарычнага вопыту. Аўтары закранаюць праблемы станаўлення дзяржаўнай незалежнасці, шанавання народнай культурнай спадчыны і роднай мовы, пазбаўлення ад нацыянальнага нігілізму, заклікаюць беларусаў да вызначэння актыўнай грамадзянскай пазіцыі, асэнсавання і развіцця патрыятызму, асабістага ўкладу ў будучыню беларускай дзяржаўнасці.

Ніл Гілевіч, вядомы шырокаму колу чытачоў перш за ўсё як паэт і перакладчык, таксама з'яўляецца актыўным публіцыстам і грамадскім дзеячам перыяду перабудовы. Вобраз часу ў творах Н. Гілевіча пабудаваны на ідэі аб вызначальнай ролі беларускай мовы ў захаванні гісторыка-культурнай спадчыны народа. Абагульненнем шматгадовай літаратурнай і грамадскай працы Н. Гілевіча з'яўляюцца публіцыстычныя зборнікі «У гэта веру» (1978), «Покліч жыцця» (1983), «Годнасць, сумленнасць, мужнасць» (1988), палемічныя кнігі апошніх гадоў «Вяртанне і працяг» (1990), «Выбар» (1993), «Талісман» (1994) і літаратурна-публіцыстычная хроніка роздумаў аб роднай мове «Любоў прасветлая» (1996) – зборнік найбольш важкіх публіцыстычных вершаў і артыкулаў, прысвечаных разнастайным аспектам існавання беларускай мовы ў грамадстве, такім як мова і асоба чалавека, мова і гістарычны лёс народа, мова і адукацыя, культура мовы, праблема двухмоўя і інш.

Н. Гілевіч сцвярджае неабходнасць зацікаўленасці моладзі не толькі ў далучэнні да сусветнай культуры і мастацтва, але перш за ўсё ў засваенні здабыткаў уласнага народа. Ідэйнае выхаванне моладзі, заўважае публіцыст у артыкуле «Патрыятычнае выхаванне – наша важнейшая задача», трэба ажыццяўляць перш за ўсё праз усведамленне культурнай народнай спадчыны. А гэта магчыма толькі ва ўмовах любові і пашаны да роднай мовы, бо «мова ёсць душа

народа, і разумець і ведаць мову народа – значыць разумець і ведаць душу народа» [20, с. 178].

Тэмы нацыянальнага нігілізму, сцірання гістарычнай памяці, фальклорных традыцый і распаўсюджвання масавай культуры, неабходнасці ўзнаўлення гістарычнага мінулага і адраджэння нацыянальнай свядомасці арганічна ўваходзяць у публіцыстычную творчасць Н. Гілевіча. На яго думку, нельга разважаць пра вырашэнне эканамічных і сацыяльных праблем, калі адсутнічае клопат пра інтэлектуальны патэнцыял народа, духоўнае здароўе нацыі, паказальнікам якога і выступае нацыянальная культура. Сітуацыю ў Беларусі пасля перабудовы, у віры палітычных і сацыяльных пераўтварэнняў канца 1980-х гг. ён метафарычна называе духоўным Чарнобылем.

Блізкім да Н. Гілевіча аўтарам-публіцыстам па сваёй маральна-этычнай і грамадзянскай пазіцыі выступае В. Быкаў. Важным пластом у яго публіцыстыцы з'яўляюцца творы пра вайну («Званы Хатыні», «Наша трывожная памяць», «Наша сіла і воля», «Вайна і перамога», «Горкі смак перамогі»), у якіх В. Быкаў не толькі з болем узнаўляе суровую праўду мінулага, заклікае да памяці пра ахвяр апошняй вайны, але і катэгарычна сцвярджае: «У наш жорсткі час недастаткова любіць мір – трэба ўмець яго абараняць» [14, с. 380].

У перабудовачны перыяд і пазней В. Быкаў пераключаецца на публіцыстыку, у якой галоўным кірункам для яго становяцца пытанні адраджэння нацыянальнай свядомасці, усталявання суверэнітэту і дэмакратыі, захавання мовы, раскрыцця гістарычнай праўды, схаванай дагэтуль у архівах КДБ (публіцыстычныя зборнікі «На крыжах», 1992; «Крыжовы шлях», 1998). Вобраз часу ў абвостраным аўтарскім светаўспрыманні пасляперабудовачнай рэчаіснасці вымалёўваецца перш за ўсё праз асэнсаванне палітычных падзей савецкай гісторыі. Асоба аўтара В. Быкава выяўлена ў эмацыянальнасці яго публіцыстыкі апошніх гадоў, гіпербалізавана песімістычным поглядзе на будучыню народа. У артыкулах, прысвечаных моўным пытанням («Мэта і сродкі»), аўтар выказвае пазіцыю, блізкую да поглядаў Н. Гілевіча. Мова для яго – гэта «сук, на якім трымаецца ўся нацыянальная культура», галоўны народны набытак і гістарычнае апірышча, дзякуючы якому беларусы пакуль не зніклі. Пісьменнік прасочвае сувязь паміж суверэннасцю мовы і суверэннасцю нацыі, існаванне якіх адно без другога немагчыма.

Агульную ідэю публіцыстычных твораў гэтай тэматыкі можна акрэсліць словамі пісьменніка У. Дамашэвіча з артыкула «Першыя крокі ў незалежнасць»: «І давайце адвыкаць на ўсё глядзець збоку:

хай яны там нешта сабе робяць, а я пагляджу, што выйдзе... Не, трэба рабіць усім, тады нешта зробім. І ўжо сёння мы павінны будаваць сабе новы будынак, па сваім уласным праекце, для сябе, з вокнамі не толькі на Усход, але і на Захад, на Поўнач і Поўдзень. Каб бачыць і разумець увесь свет» [23, с. 147].

Новай з'явай у беларускай публіцыстыцы пачатку 1990-х гг. становіцца культурнае вяртанне айчынных эмігрантаў. Вельмі плённа працаваў у гэтым кірунку і як пісьменнік, і як публіцыст Б. Сачанка. Змяшчаюцца акцэнты ў падарожных нататках публіцыстаў, якія з'яўляюцца пасля паездак у заходнія краіны. Калі раней капіталістычны лад жыцця адназначна і рэзка ганьбаваўся, зараз для публіцыстыкі характэрны больш спакойны эмацыянальны настрой, відавочна бачнае імкненне да наладжвання не толькі спакойных палітычных адносін, але і культурных, незалежных ад ідэалогіі кіраўніцтва сувязей. Больш праўдзіва паказваюцца складанасці міжнароднага жыцця, усведамляецца неабходнасць пошукаў кампрамісу, памягчэння антаганістычных адносін біпалярнага сусвету перад агульнай пагрозай ядзернай вайны. Галоўнай ідэяй падарожных нарысаў С. Грахоўскага, Л. Галубовіча, А. Вярцінскага, А. Кудраўца, В. Карамазава, В. Казько, Б. Сачанкі можа служыць цытата з нататкаў апошняга «У краіне польдэраў і цюльпанаў», прысвечаных Галандыі, дзе аўтар пабываў у складзе Савецкага камітэта абароны міру: «Трэба як мага хутчэй канчаць з атамнай зброяй, наогул з войнамі і думаць, дбаць усім нам зусім пра іншае – як захаваць планету Зямля, жыццё на ёй, тую прыгажосць, хараство і багацце, што стварылі за вякі прырода і людзі...» [51, с. 326].

Гэтыя словы ў чарговы раз падкрэсліваюць моцную антываенную скіраванасць публіцыстыкі пісьменніка.

Вялікі пласт сацыяльнага жыцця атрымаў новае асвятленне ў беларускай публіцыстыцы пасля абвяшчэння галоснасці. Алкагалізм, наркаманія, прастытуцыя, аборты, СНІД, адсутнасць сексуальнай культуры ў грамадстве, злачынствы, бамжы і сіроты, «дзедаўшчына» ў арміі – гэтымі тэмамі напоўнена на пачатку 1990-х гг. большасць друкаваных грамадска-палітычных выданняў. Са старонак часопісаў і газет аўдыторыі падаецца пераважна адмоўная інфармацыя, журналісты часта не прытрымліваюцца маральна-этычных норм.

Адной з найбольш адметных з'яў у публіцыстыцы перыяду перабудовы стала творчасць С. Алексіевіч у так званым жанры «магнітафоннай» літаратуры, распачатым у савецкай літаратуры А. Адамовічам. Публікацыя ўрыўкаў з яе кнігі «Цынкавыя хлопчыкі»

выклікала шырокі і неадназначны грамадскі рэзананс: ад падзяк да пагроз у адрас аўтара, у 1993 г. супраць яе быў нават узбуджаны судовы працэс.

Кніга «У вайны не жаночы твар» (1985) стала першым творам С. Алексіевіч у цыкле, пазней пазначаным ёю як «тэксты ў жанры чалавечых галасоў», дзе звычайныя людзі распавядаюць пра галоўныя падзеі свайго часу і разам ствараюць гісторыю краіны праз асобныя чалавечыя лёсы на фоне сацыяльных катаклізмаў і экзістэнцыяльных сітуацый, якія патрабуюць нялёгкага маральнага выбару.

Унікальнасць публіцыстычных кніг С. Алексіевіч у многім абумоўлена аўтарскім бачаннем масавага (звычайнага, простага) чалавека ва ўмовах ломкі грамадскіх установак і этычных ідэалаў. Для іх характэрна спалучэнне элементаў сацыялагічнага і белетрыстычнага апісання, вялікая ступень эмацыянальнасці і разам з тым насычанасць дакументальнымі фактамі.

Нягледзячы на тое што аўтар даследуе трансфармацыю савецкай эпохі і краіны праз вызначальныя моманты ў яе гісторыі – Вялікую Айчынную вайну, вайну ў Афганістане, чарнобыльскую трагедыю і ўласна распад СССР, – яе вопыт шмат у чым можна ўжыць, спраецыраваць на светапоглядныя, філасофскія ўстаноўкі асобы як такой. Тэмы вайны, любові, смерці, якія разглядаюцца ёю на прыкладзе асобных чалавечых лёсаў, развіваюць і паглыбляюць гуманістычныя каштоўнасці ў новых сацыяльных і псіхалагічных рэаліях сучаснага грамадства.

З'яўляюцца публікацыі, у якіх журналісты спрабуюць даследаваць такія новыя сацыяльна-эканамічныя з'явы, як беспрацоўе, камерцыя, арэнда, гаспадарчы разлік і матэрыяльнае заахвочванне, дэфіцыт, наладжванне эканамічных сувязей з капіталістычнымі дзяржавамі.

Публіцыстычныя творы рэлігійна-філасофскай тэматыкі мяняюць акцэнт на супрацьлеглы ў параўнанні з савецкім часам. Зараз грамадства паступова прыходзіць да прызнання агульначалавечых і хрысціянскіх каштоўнасцей. Блізкія да гэтай тэмы агульнафіласофскія развагі-эсэ Т. Бондар і А. Гібок-Гібкоўскага ў часопісе «Беларусь». Глыбей асэнсоўваецца роля жанчыны ў захаванні набыткаў сучаснай цывілізацыі і ў пошуках новага шляху глабальнага развіцця на прынцыпах мірнага суіснавання, што асабліва актуальна для новага тысячагоддзя з яго пагрозай сусветнага тэрарызму. У сувязі з гэтым актывізуецца жаночая публіцыстыка, у друку выступаюць са сваімі творамі В. Іпатава, Т. Бондар, Р. Баравікова, Л. Рублеўская, Г. Багданава, Т. Мушынская.

Сярод асноўных тэм вясковай публіцыстыкі ў пачатку 1990-х гг. можна вызначыць, акрамя існаваўшых ужо раней праблем міграцыі і вымірання вёскі, эканамічна і псіхалагічна новую для беларускіх сялян з'яву фермерства, прыстасаванне калгасаў да рыначных умоў гаспадарання, пераасэнсаванне ленінскага лозунга «Зямлю – сялянам!» і магчымасць прыватызацыі зямлі. У асобны блок неабходна вылучыць і творы, прысвечаныя наступствам Чарнобыльскай катастрофы, у прыватнасці праблеме псіхалагічнай акліматызацыі перасяленцаў з забруджанай зоны. Сярод аўтараў, якія па-ранейшаму засяроджваюць творчую ўвагу на праблемах сучаснай беларускай вёскі з улікам уласнага аўтарскага вопыту, – У. Глушакоў, З. Марозаў, В. Якавенка, А. Сілянкоў, В. Шырко. Аднак традыцыйная вясковая публіцыстыка ў гэты перыяд характарызуецца неглыбокім аналізам сацыяльна-культурных пераўтварэнняў на сяле.

Кніга падарожных эсэ В. Якавенкі «Вясковыя дыспуты» (1987) была напісана ў выніку паездак аўтара з рускім публіцыстам І. Васільевым па сельскіх гаспадарках рэспублікі. Нягледзячы на знешнюю лёгкасць жанру, нататкі публіцыста адрозніваюцца аналітычнасцю і ўдумлівасцю, аўтар даследуе жыццё сучаснай вёскі з улікам змен перабудовы. Шмат увагі ў сваіх разважаннях В. Якавенка надае вопыту перадавога калгаса «Рассвет». Важна, на думку аўтара, пераадолець інерцыю мыслення ў падыходах да кіраўніцтва калгасамі, знішчыць планава-гаспадарчы вандалізм асобных чыноўнікаў, толькі ў гэтым выпадку магчымы карэнныя змены ў сялянскім асяроддзі. Настойваючы на неабходнасці экалагічнага падыходу да гаспадарчых спраў, аўтар даследуе «вялікі сялянскі Акіян», звяртаючы ўвагу на такія аспекты комплексу праблем вёскі, як адчужэнне селяніна ад зямлі, інфантыльнасць моладзі і яе адасобленасць ад працы, міграцыя сельскіх жыхароў у горад, якая змяніла акцэнты ў поглядах на духоўныя каштоўнасці, урбанізацыя вёскі, культурна-асветніцкая праца на сяле і стварэнне ўласна вясковай эстэтыкі і культуры (прынамсі, пры будаўніцтве жыллёвых і культурных аб'ектаў).

Лірыка-псіхалагічны кірунак у развіцці падарожнага нарыса, характэрны для твораў 1960-х гг., працягвае ў сваіх кнігах «Жаваранак над полем» (1985) і «Зямля бацькоў нашых» (1988) Яраслаў Пархута. Яго творы, прасякнутыя любоўю да роднай зямлі, распавядаюць пра найбольш вядомыя мясціны Беларусі, дзе нарадзіліся знакамітыя людзі, цікавыя сваёй гісторыяй і сучаснасцю гарады і вёскі. Аўтар свядома звяртаецца да шматлікіх паданняў мінулага,

лёгка ўводзіць у сюжэтную канву твораў легенды і паданні, гістарычныя даведкі. Разам з тым адлюстравана ў яго нарысах і трагедыя Вялікай Айчыннай вайны, амаль у кожным творы перад чытачом паўстае ветэран, салдатка, былы партызан, жыхар расстралянай вёскі. Мінулае і сучаснасць пераплецены ў адно, і ў гэтым нарысы Я. Пархуты часта нагадваюць творы У. Караткевіча і больш позні па часе з'яўлення цыкл эсэ Я. Сіпакова «Партрэт Беларусі».

Я. Пархута таксама аналізуе праблемы сучаснасці: Чарнобыльскую катастрофу, страты рэспублікі ў выніку меліярацыйных работ на Палессі, браканьерства на водах і ў лясах, выміранне неперспектыўных вёсак, бяздумнае і бяздушнае стаўленне чалавека да роднай прыроды, уплыў адыходаў вытворчасці прадпрыемстваў на навакольнае асяроддзе, неабходнасць падтрымання раўнавагі ў прыродзе і экалагічнага балансу.

Асоба аўтара ў нарысах Я. Пархуты вызначае стылёвыя адметнасці яго твораў: лірызм, шматлікія адступленні-развагі, асацыятыўная манера выкладання думак. Дапаўненне факталагічнай асновы эмацыянальнымі вобразамі – характэрная рыса мастацкай публіцыстыкі Я. Пархуты. Аўтар часта звяртаецца да мастацкай дэталі як сродку ўзмацнення галоўнай думкі твора, ён выкарыстоўвае дыялагічную мову, словамі сваіх герояў пацвярджаючы ўласныя думкі, што, безумоўна, больш пераканаўча ўздзейнічае на чытача. У яго нарысах знайшлі адлюстраванне як галоўныя тэматычныя кірункі беларускай мастацкай публіцыстыкі (праблемы вёскі, гістарычнае мінулае), так і жанрава-кампазіцыйныя яе рысы (актыўнае ўключэнне ў твор эсэістычных элементаў, працяг традыцый падарожнага нарыса, які мае лірыка-псіхалагічную аснову). Творчасць Я. Пархуты звязвае набыткі беларускай мастацкай публіцыстыкі савецкага часу і ўзоры сённяшняга асэнсавання рэчаіснасці сучаснымі аўтарамі.

Сярод характарыстык беларускай публіцыстыкі перыяду перабудовы (канца 1980 – пачатку 1990-х гг.) можна выдзеліць наступныя:

1) актывізацыя публіцыстыкі пісьменнікаў, вызначэнне асобы аўтара публіцыстычнага твора як найважнейшага фактару ўплыву на грамадскую свядомасць у перабудовачны перыяд;

2) дзейснасць публіцыстычных твораў беларускіх пісьменнікаў у працэсе дэмакратызацыі грамадскай думкі, якая выяўлялася перш за ўсё ў раскрыцці забароненых раней для абмеркавання актуальных сацыяльных тэм;

3) прыярытэт экалагічнай (у прыватнасці, чарнобыльскай) і нацыянальна-адраджэнскай праблематыкі як вынік дэмакратычных змен у жыцці грамадства. Вобраз часу, створаны сукупнасцю публіцыстычных твораў гэтага перыяду, з'яўляецца больш аб'ёмным і праблемным у параўнанні з ранейшымі дзесяцігоддзямі, сканцэнтраваны на асэнсаванні сацыяльных, палітычных, культурных пераўтварэнняў у грамадстве. Знікае замоўчванне, характэрнае для публіцыстыкі папярэдніх дзесяцігоддзяў;

4) дэфармацыя сістэмы маральных ідэалаў грамадства, песімістычнасць публіцыстыкі, адлюстраванне ў творах пераважна негатыўных фактаў сучаснасці, аўтарскае пераасэнсаванне падзей мінулага;

5) страта мастацкай тыпізацыі, вобразнага пачатку ў публіцыстычных творах, фактычнае знікненне нарыса са старонак друку.

## Эвалюцыя беларускай мастацкай публіцыстыкі на мяжы XX і XXI стст.

Сярэдзіна 1990 – пачатак 2000-х гг. характарызуецца шматпалюснасцю ў публіцыстычным асэнсаванні праблем рэчаіснасці. Эканамічная свабода і дэмакратычныя правы, гарантаваныя кожнаму грамадзяніну Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, дазволілі з'явіцца вялікай колькасці самых разнапланавых выданняў, якія не заўсёды адлюстроўваюць пазіцыю ўладных структур. Публіцыстыка, прадстаўленая на старонках прыватных грамадска-палітычных газет і літаратурных часопісаў, развіваецца хутчэй у рэчышчы заходнееўрапейскай эсэістычнай традыцыі.

Першая палова 1990-х гг. характарызуецца наладжваннем кантактаў з беларускай дыяспарай, з'яўляецца шмат твораў эміграцкай літаратуры, назіраецца збліжэнне беларускіх пісьменнікаў і літаратараў замежжа. Аднак паступова айчынныя аўтары засяроджваюцца на ўнутраных канфліктах паміж рознымі групоўкамі творчага саюза.

Матэрыяльныя і ідэйныя непаразуменні ў літаратурных колах прывялі ўрэшце не толькі да шматразовых перавыбараў старшыні і праўлення творчага саюза пісьменнікаў, але і да расколу суполкі, стварэння Мінскай пісьменніцкай арганізацыі (2003), а пазней і Саюза пісьменнікаў Беларусі (2005). Да таго ж, значная колькасць сталых літаратараў уступіла яшчэ на пачатку 1990-х гг. у беларускі ПЭН-клуб. Нягледзячы на ўсе намаганні захаваць цэласнасць творчага саюза, з'явіліся новыя арганізацыі, паміж якімі, па словах А. Аркуша, пралягла ўмоўная літаратурна-нацыянальная мяжа.

Эканамічны крызіс канца 1980 – пачатку 1990-х гг. прывёў да кардынальных змен у выдавецкай палітыцы. Найбольш вострыя праблемы паўсталі перад выдавецкай галіной у сярэдзіне 1990-х гг. Дзяржаўныя выдавецтвы на працягу некалькіх гадоў не друкуюць рукапісы падрыхтаваных кніг, а камерцыйныя праекты скіраваны перш за ўсё на атрыманне прыбытку. У выніку кнігі публіцыстыкі ў 1990-я гг. практычна не выходзяць. Паступовае пераадоленне выдавецкага крызісу, у тым ліку ў галіне публіцыстыкі, назіраецца толькі на пачатку 2000-х гг.

Калі ў 1970-я – пачатку 1980-х гг. праблемы развіцця нарысістыкі ўздымаліся аўтарамі на пленумах Саюза пісьменнікаў, на пасяджэннях секцыі публіцыстыкі і мастацкай нарысістыкі, у артыкулах крытыкаў і даследчыкаў у газеце «Літаратура і мастацтва», то зараз гэтыя пытанні амаль не абмяркоўваюцца ў друку. Сталыя нарысісты-практыкі і крытыкі савецкага часу або, на жаль, ужо пайшлі з жыцця (І. Дуброўскі, У. Юрэвіч), або адышлі ад актыўнага ўдзелу ў літаратурным працэсе. На адсутнасць пераемнасці журналісцкага і літаратурнага вопыту і, як вынік, зніжэнне каштоўнасці твораў звяртае ўвагу С. Дубавец у артыкуле «Апошняе слова Алеся Адамовіча»: «Рэзкі спад інтэлектуальнага ўзроўню беларускай гуманістыкі абумоўлены тым, што многае з зразуметага папярэднікамі пераасэнсоўваецца цяпер наноў і павярхоўна, часта з нуля, без уліку ранейшага досведу» [24, с. 19].

У 1977 г. В. Якавенка, рэцэнзуючы мастацкую публіцыстыку сучаснікаў, адзначыў: «Нарыс, як вядома, ляжыць на стыку літаратуры з жыццём. Ён закліка765ы хутка лавіць і адлюстроўваць найбольш важныя працэсы, што адбываюцца ў грамадстве. Нарыс падобны да пульсу. Адлічваючы ў большай ці меншай меры жыццё, ён, як жанр, выяўляе сацыяльную актыўнасць літаратараў і літаратуры. Гэта якраз тая ніва творчай дзейнасці, на якой аўтар, няхай ён будзе пісьменнік ці журналіст, уступае ў паядынак з часам» [70, с. 6]. Магчыма, гэтыя словы павінны быць улічаны пакаленнем маладых журналістаў як аснова іх творчай дзейнасці на сучасным этапе развіцця грамадства. Новае пакаленне літаратараў 1990-х гг. ахвотней выступае ў ролі літаратурных крытыкаў або эсэістаў. Асоба аўтара ў публіцыстычным творы ў параўнанні з публіцыстыкай папярэдніх дзесяцігоддзяў нівеліруецца, адсутнічаюць новыя імёны, здольныя прыцягнуць увагу чытача.

«Відавочна, што і зараз у грамадства ёсць настальгія па Аўтарах. Журналістаў – многа, Аўтараў – мала, хапае матэрыялаў, але рэдка сустракаюцца Тэксты. Аўтар – чалавек, што прапануе адкрыц-

цё агульначалавечых каштоўнасцей нібыта наноў, калі зашмальцаваныя ісціны зноў набываюць у свядомасці чалавека свой патаемны сэнс» [52, с. 12].

Калі ў 1980-я гг. артыкулы А. Адамовіча, М. Матукоўскага ведалі ўсе, хто далучаў сябе да інтэлігенцыі і выпісваў усесаюзную перыёдыку, то сённяшніх публіцыстаў, якія займаюцца краязнаўчым і гістарычным нарысам (А. Карлюкевіч, А. Марціновіч, І. Масляніцына), экалагічнымі творамі (І. Капыловіч, П. Сабіна, В. Лапцік) ведаюць, хутчэй, ці самі пісьменнікі і журналісты, ці вузкапрофільныя спецыялісты пэўнай сферы. Верагодна, гэта звязана з агульнымі праблемамі інфармацыйнай прасторы, падзеннем узроўню даверу да СМІ. Людзі менш чытаюць газет, часцей звяртаючыся да электронных СМІ, у якіх заўсёды менш аналітыкі і публіцыстыкі. С. Дубовік у даследаваннях газетнай перыёдыкі звяртае ўвагу на такі новы тып, запатрабаваны сучасным грамадствам, як сацыяльны нарыс, які сумяшчае дакументалізм журналісцкага твора і фактуру сацыялагічных даных. Аднак і ў сацыяльным нарысе цяжка заўважыць прысутнасць мастацкага вобраза, характэрнага для класічнай публіцыстыкі.

Не ў апошнюю чаргу змены звязаны з пашырэннем медыйнай прасторы, актыўным развіццём інтэрнэту, які стаў крыніцай самай разнастайнай інфармацыі і разам з тым значна паспрыяў зніжэнню цікавасці патэнцыяльнай аўдыторыі да друку. Ва ўмовах фактычнай адсутнасці электронных масмедыя пісьменніцкі талент меў асаблівы ўплыў на грамадскую думку, вартасць друкаванага слова і слова ўвогуле была большай, чым сёння. Сталыя пісьменнікі амаль не друкуюцца ў інтэрнэце, сусветную глабальную сетку асвойвае ў першую чаргу маладое пакаленне. Магчымасці гэтага новага тыпу камунікацыі могуць быць выкарыстаны як для актыўнага, адкрытага фарміравання грамадскай свядомасці, так і для маніпулятыўнага ўздзеяння на яе.

У сучасных умовах публіцыстыка мае ўсе магчымасці для прыцягнення грамадскай увагі і пошуку адказаў на праблемныя пытанні, агульназначныя для краін Захаду і Усходу: экалогія і пытанні энергазабеспячэння, праблема экспансіі ўсходніх цывілізацый у Еўропе, пошук нацыянальнай ідэі, пагроза тэрарызму і этнарэлігійныя канфлікты. Але пакуль не з’явіліся творы, якія б можна было лічыць знакавымі для беларускай мастацкай публіцыстыкі пачатку XXI ст. (аднак аналітычныя тэксты дастаткова высокага ўзроўню сустрэць можна). Не выключана, аднак, і магчымасць таго, што эпахальныя творы сённяшняй рэчаіснасці – ні

мастацкія, ні публіцыстычныя – так і не з'явяцца. Беларускае грамадства, як і сусветная цывілізацыя, усё больш індывідуалізуецца, чалавек постсавецкага мыслення рэдка адчувае сябе часткай агульнай сацыяльнай суполкі, у лепшым выпадку – прадстаўніком карпаратыўнай культуры.

«Сучасная карціна свету, якая ствараецца публіцыстыкай, фрагментарная, мазаічная. І гэта вынік не толькі тэхналогіі журналісцкай вытворчасці, але і самой прыроды публіцыстыкі, якая імкнецца паспець за падзеямі, адлюстраваць, зафіксаваць і хаця б часткова асэнсаваць той ці іншы фрагмент сацыяльнай рэчаіснасці. Дынамізм, зменлівасць – адна з галоўных уласцівасцей публіцыстычнай карціны свету. ...Як важную рысу варта адзначыць трывожныя ноты ў адносінах да свету, скепсіс, непакой за яго лёсы» [49, с. 23].

Вобраз часу ў публіцыстыцы пачатку XXI ст. вызначаецца перавагай маральна-этычнай праблематыкі ў творах. Страта этычных ідэалаў мінулага, на змену якім павінны былі б прыйсці дакладна акрэсленыя сучасныя маральныя каштоўнасці, адмоўна ўплывае на грамадскую свядомасць. Для большасці чытачоў публіцыстычнага твора характэрна настальгія па лепшых, гуманістычных ідэях савецкага ладу. У той жа час відавочна неабходнасць стварэння ўласцівай любой незалежнай дзяржаве моцнай нацыянальнай ідэі, якая можа стаць стрыжнявым арыенцірам сучаснага грамадства, здолеўшы пераадолець тэндэнцыю негатыўнага ўспрыняцця (перш за ўсё моладдзю) любых ідэалагічных і палітычных установак. Публіцыстыка – адзін з галоўных фактараў, праз якія адбываецца фарміраванне нацыянальных духоўных ідэалаў.

Працягам лепшых традыцый айчыннай публіцыстыкі з'яўляюцца кнігі, выдадзеныя пад эгідай Беларускага саюза журналістаў на пачатку новага стагоддзя – «Публицисты» (2000), «Моя столица» (2004), аднаўленне традыцыі публіцыстычных выступленняў пісьменнікаў па радыё. Саюз журналістаў штогод праводзіць творчы конкурс «Золотое перо» з мэтай папулярызацыі сярод насельніцтва журналісцкіх твораў, росту прэстыжу прафесіі.

«Публицисты» і «Моя столица» – гэта зборнікі лепшых нарысаў апошняга дзесяцігоддзя. Сярод аўтараў кніг сталыя журналісты, якія шмат гадоў аддалі працы ў беларускіх і саюзных выданнях, узначальвалі вядучыя газеты нашай рэспублікі (А. Акулік, М. Шыманскі, Л. Екель, Р. Сакалоўскі). У партрэтных нарысах аўтары адначасова звяртаюцца і да праблем сучаснага грамадства, шукаюць шляхі іх вырашэння ў набытках мінулых гадоў. Для публіцыстаў характэрна паважлівае стаўленне да нядаўняй гісторыі. Разам

з тым прысутнічае і цвярозы погляд на сённяшнія рэаліі. Тыя з аўтараў, якія крытыкуюць савецкую партыйную сістэму, імкнуцца да аб'ектыўнай ацэнкі падзей, звяртаючы ўвагу на неабходнасць пераасэнсавання ідэалаў мінулага з тым, каб захаваць лепшае і не дазволіць узнавіцца недахопам. Напрыклад, А. Акулік у нарысе «Петр Машеров» ацэньвае рэчаіснасць 1990-х гг. так: «А тады... Няпраўда, што нас падманулі. Мы самі хацелі быць падманутымі, мы так імкнуліся ў камунізм, а таксама і ў капіталізм, што і самі не заўважылі, як апынуліся ў багне паміж усялякімі “ізмамі”» [50, с. 38].

Аналізу сучаснай геапалітычнай сітуацыі на постсавецкай прасторы прысвечаны артыкулы У. Вялічкі «Повита ли даль густым туманом?», у якім аўтар разважае над праблемай знішчэння маральных арыенціраў і асноў у грамадстве пасля развалу СССР, А. Гібок-Гібкоўскага «Анатомія пакаленняў», дзе з філасофскіх пазіцый вайна ў Афганістане разглядаецца як кропка, якая дала штуршок падзеям перабудовы. Уздымаюць аўтары-складальнікі кніг і сацыяльныя праблемы. Напрыклад, цыкл твораў Н. Кернogi «Блеск и горечь женских иллюзий» асэнсоўвае такую новую з'яву ў грамадстве, як жанчыны і бізнес.

Цыклы твораў Л. Екеля «Мой храм» і «Личности» – адзін з прыкладаў захавання традыцый савецкай нарысістыкі ў сучаснай публіцыстыцы. Яго мастацкія нарысы характарызуюцца паважлівым стаўленнем аўтара да кожнага са сваіх герояў, глыбокай мудрасцю і светлай дабрынёй чалавека, які шмат чаго ўбачыў у сваім жыцці і не згубіў галоўных душэўных якасцей. «Мой храм» падагульняецца галоўным жыццёвым і творчым прынцыпам Л. Екеля: «В душе каждого человека должен быть Бог. Мой Бог – честность, порядочность, искренность. Нет на свете моих родителей... Но они есть и всегда будут. Пока живет память о них. И слова – как вечный памятник им.

...Моя церковь, мой храм – такие вот люди, как герои моих очерков. Они никогда не отвернутся от чужой беды» [50, с. 483].

Чарнобыльская праблематыка працягвае заставацца адной з вядучых у беларускай публіцыстыцы (творы В. Якавенкі, М. Панковай, В. Гігевіча, Н. Рыбік, зборнікі «Прайсці праз зону», 2001; «Чарнобыльская рана», 2003), аднак зараз яе можна разглядаць ужо як частку глабальнай праблемы захавання навакольнага асяроддзя, што актуальна не толькі для постсавецкага, але і сусветнага грамадства. Вопыт асэнсавання наступстваў Чарнобыльскай катастрофы і прадухілення паўтору падобных сітуацый, нават у значна

меншых маштабах, павінен улічвацца сённяшнімі навукоўцамі, калі ў СМІ актыўна абмяркоўваюцца будаўніцтва радыеактыўнага могільніка ў Латвіі амаль на мяжы з нашай краінай, адкрыццё новай АЭС на ўкраінскай тэрыторыі, недалёка ад Чарнобыля, будаўніцтва беларускай атамнай станцыі. У. Глушакоў у артыкуле «Чарнобыльскі шлях» невыпадкова разглядае балючую тэму экалагічнай трагедыі ва ўзаемасувязі з маральнай праблематыкай, звяртаючы ўвагу на неабходнасць паглыблення ў сябе і ўнутранага, маральнага самаачышчэння як перадумовы выхаду грамадства з сацыяльнага крызісу і далейшага стабільнага развіцця: «...што ж выходзіць? Яшчэ два-тры чарнобылі – і наша спрадвечна зялёная планета мае жахлівую перспектыву ператварыцца ў суцэльна дзікі могільнік?.. Вось такую “светлую будучыню” мы ўгатавалі нашым нашчадкам. Але перш чым загадваць пра лёс нашчадкаў, чаму б сёння не падумаць пра саміх сябе? Чаму б не ўпарадкаваць уласнае жыццё, па-сапраўднаму не ацаніць таго, што маем, чым адарыла нас прырода, каб ставіцца да ўсяго, у тым ліку да саміх сябе, з павагай, беражліва, з любоўю, падпарадкаваўшы свае адносіны і паводзіны тым нормам маралі і этыкі, якія выпрацавала чалавецтва, каючыся ў грахах і творачы выратавальную малітву да Бога, на працягу тысячагоддзяў? Бо якія ёсць мы сёння, такімі ці прыкладна такімі будуць заўтра нашы дзеці і ўнукі» [21, с. 163].

Змяняюцца акцэнты ў асвятленні вясковай тэматыкі. Лёс калгасных пенсіянераў Канстанціна Васільевіча і Ганны Паўлаўны, герояў нарыса В. Казько «Азвярэнне» можа разглядацца як сімвалічны для некалькіх пакаленняў савецкіх людзей. Яны асэнсоўваюць пражытыя гады не з пункту погляду часовых ідэалагічных, палітычных установак, закладзеных у іх свядомасць, а разважаюць над больш складанай, агульнай праблемай сэнсу жыцця. Як і ў іншых творах В. Казько, тут яскрава прасочваецца глыбіня філасофскага падтэксту. Аўтар дае праўдзівую характарыстыку рэчаіснасці, дзе людзі страцілі камуністычныя ідэалы, але не замянілі іх агульначалавечымі, рэлігійнымі каштоўнасцямі, і ў выніку ў культ узведзены толькі ўласны дабрабыт, імкненне да матэрыяльнага дастатку, нават калі ён дасягнуты непрыгожымі, супрацьзаконнымі, а то і адкрыта амаральнымі сродкамі. Героі нарыса нагадваюць быкаўскіх Петрака і Сцепаніду, герояў іншай эпохі, у многім вызначальнай для развіцця беларускай вёскі.

Фактычна новым, не асвоеным раней (спробы пачаліся толькі напрыканцы 1980-х гг.) кірункам з’яўляюцца творы рэлігійна-філасофскай публіцыстыкі. Серыя артыкулаў А. Гібок-Гібкоўскага ў часо-

пісе «Маладосць», газеце «Літаратура і мастацтва» і іншых выданнях была ў свой час адзначана прэміяй у галіне публіцыстыкі. Актыўна распрацоўваюць гэтую ж тэматыку В. Акудовіч і Ю. Залоска.

Маральна-этычныя ідэалы, духоўныя арыенціры грамадства – адна з галоўных тэм, што хвалююць публіцыстаў на мяжы XX і XXI стст. Актыўна працавала ў гэтым кірунку пісьменніца Таіса Бондар. Яе артыкулы ў «Літаратуры і мастацтве», «Полымі», рэдактарскія калонкі ва «Всемирной литературе» скіраваны на аднаўленне духоўнасці, спрадвечных каштоўнасцей дабра і талерантнасці, веры ў Бога, пачуцця гонару не толькі за мінулае, але і за сучаснасць беларускага народа. Разважаючы над шляхамі выйсця з крызісу, характэрнага не толькі для краін постсавецкай прасторы, але і для агульначалавечай цывілізацыі, заснаванай пераважна на прынцыпах спажывецтва, Т. Бондар упэўнена: «...патрэбны якасна новыя, больш дасканалыя і эфектыўныя механізмы арганізацыі сусветнай супольнасці, новыя сістэмы выхавання і адукацыі, арыентаваныя перш за ўсё на духоўную прыроду чалавека.

Усю нязменную сілу Дабра, сапраўдны гераізм самаадданага супрацоўніцтва павінны мы рашуча супрацьпаставіць разбуральным сілам, крайнім праявам фанатызму, экстрэмізму і тэрарызму.

Узаемапаразуменне і надканфесійная талерантнасць павінны стаць – і некалі абавязкова стануць! – асновай ненасільніцкага і гарманічнага свету: у душы кожнага, у сям'і і ў дзяржаўным жыцці» [13, с. 4].

Блізкая па сваёй ідэйнай скіраванасці да артыкулаў Т. Бондар навукова-філасофская публіцыстыка Уладзіміра Вялічкі. Ён разам з В. Шырко і У. Глушаковым з'яўляецца лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі за кнігу публіцыстыкі «Беларусь маладая» (1998), працягнутую ў 2001 г. зборнікам «Новая Беларусь». Аўтар у сваіх творах разглядае шматлікія тэмы, звязаныя з пытаннямі дзяржаўнага кіраўніцтва, шматвектарнай знешняй палітыкі Беларусі, эканамічнага курсу, абранага краінай пасля набыцця суверэнітэту і пасляперабудовачнага крызісу, фарміравання дзяржаўнай ідэалогіі, тэхналагічных і навуковых інавацый апошніх гадоў. Аднак вядучай у творчасці У. Вялічкі з'яўляецца праблематыка, прысвечаная маральнаму аздараўленню грамадства, патрыятычнаму выхаванню, вяртанню да духоўных традыцый мінулага.

Асэнсоўваючы падзеі канца 1980 – пачатку 1990-х гг., аўтар называе распад СССР трагедыяй, разглядаючы сітуацыю пасля перабудовы як вынік раздзялення эканамічнай прасторы і перарванасці сувязей паміж былымі савецкімі рэспублікамі, улічваючы парушэнне,

падзенне норм маралі і права. Найбольшыя страты, на яго думку, краіна панесла ў сферы духоўнасці. Нельга, заклікае У. Вялічка, каб рыначныя пераўтварэнні размылі і знішчылі высокія ідэалы, векавы маральны ўклад, сфарміраваны шматлікімі пакаленнямі [19, с. 27]. Недапушчэнню гэтага і павінна служыць патрыятычнае выхаванне грамадзян, фарміраванне паважлівага стаўлення да гісторыі, сучаснасці і будучыні роднай краіны.

«Патрыятызм, спалучаны з думкамі пра Радзіму, – абавязковая ўмова здаровага розуму і сэрца. Бо для чалавека натуральна любіць сваю сям'ю, сваю вёску і горад, сваю краіну і яе народ.

У патрыятызме рэльефна выяўляецца сацыяльны складнік: знайсці найбольш разумнае ўладкаванне нацыянальнага быцця як у матэрыяльнай, так і ў духоўна-культурнай сферы» [17, с. 7].

Асаблівую ўвагу аўтар звяртае на неабходнасць актыўнай работы з дзецьмі і моладдзю перш за ўсё такіх сацыяльных інстытутаў, як школа і маладзёжныя арганізацыі. Эфектыўнасць дзяржаўнай палітыкі ў гэтай сферы публіцыст паказвае на прыкладзе дзейнасці ўстаноў адукацыі і культуры Брэсцкай вобласці (дарэчы, для творчасці У. Вялічкі ўвогуле характэрна ўвага да паўсядзённага жыцця рэгіёнаў – Міншчыны, Віцебшчыны). Эмацыянальна аўтар апісвае гісторыю гераічнай абароны Брэсцкай крэпасці, барацьбу партызанскага руху на Піншчыне. Памяць пра мінулае – галоўны элемент у фарміраванні сучасных патрыятычных ідэй (артыкул «Это счастье – любить Отчизну»).

У. Вялічка, аналізуючы нядаўняе мінулае і робячы спрыяльныя прагнозы наконт будучага развіцця дзяржавы, вытокі стабільнасці сацыяльнай палітыкі, маральных арыенціраў грамадства бачыць перш за ўсё ў захаванні тыповых рыс беларускага менталітэту: «...перажыўшы за стагоддзі шматлікія апусташальныя войны, наша нацыя "вытачыла" свой характар: цярпімасць, дабрыню, чалавечнасць, спачуванне, высакароднасць. Гэтыя цудоўныя якасці ...дазволілі Беларусі пазбегнуць фашысцкіх партый, нацысцкіх выданняў, расісцкіх груп, "скінхэдаў" і не мець сур'ёзных праблем са злачыннасцю і наркаманіяй. Адмовіўшыся ад бліскучага фасада паспешных сацыяльных эксперыментаў, беларусы адмовіліся і ад негатыўных наступстваў усяго, што звязана з крадзяжом грамадскага набытку. Беларусы аддалі перавагу нацыянальнай годнасці і сціпламу дабрабыту для ўсіх перад рэзкім сацыяльным кантрастам і гуманітарнымі трагедыямі» [17, с. 11].

Менавіта менталітэт, звычаі і традыцыі, культуру, мову беларусаў і павінна, па словах У. Вялічкі, імкнуцца захоўваць нацыянальная

ідэалогія. Магчыма гэта пры ўмове пастаяннага самаўдасканалення як чалавека, так і грамадства ў цэлым. Станоўчы вопыт канкрэтных прадпрыемстваў, гаспадарак, органаў улады шмат у чым залежыць ад чалавечага фактару. Публіцыст часта падае развагі і меркаванні праз думкі герояў сваіх публікацый.

Публіцыстыка Васіля Шырко – арганічны працяг вясковай нарысістыкі 1970–1980-х гг. В. Шырко стварае вобраз часу ў традыцыях развіцця беларускай публіцыстыкі, нарысы і артыкулы гэтага аўтара шмат у чым пераклікаюцца з кнігамі І. Дуброўскага і В. Палтаран, ідэйна-тэматычна працягваюць творы «старшынёўскага цыкла». Раздзел кнігі «Беларусь маладая», напісаны В. Шырко, пазначаны загалоўкам «Кіраўнікі новай фармацыі». Сучаснае жыццё Беларусі аўтар асэнсоўвае праз пазіцыю людзей, адказных за развіццё і будучыню гаспадарак і прадпрыемстваў краіны. «Геаграфія артыкулаў, нарысаў – амаль уся наша рэспубліка: ад азёрнай Віцебшчыны да слыннай Брэстчыны, а герой, трэба меркаваць, – наш працалюбівы і сціплы беларускі народ з яго традыцыямі, культурай і светлым жаданнем выхаваць сабе дастойную змену» [19, с. 107].

Для В. Шырко характэрна вельмі ўдумлівае стаўленне да складанасцей і дасягненняў сучаснай эканомікі. Аўтар імкнецца разглядаць праблемы не паасобку, а ў комплексе, ён рэдка калі піша пра асобную ўстанову або прадпрыемства, імкнучыся даследаваць рэгіён у цэлым, даючы параўнальны аналіз. В. Шырко не толькі гутарыць з кіраўнікамі прэзідэнцкай вертыкалі на месцах, але і папярэдне вывучае сітуацыю – па публікацыях у друку, статыстычных даведках, абавязкова цікавіцца біяграфіяй сваіх герояў, шукаючы вытокі поспеху не толькі ў сучаснасці, але і ў закладзеных жыццём традыцыях, звяртаецца па дапамогу ў рэдакцыі мясцовых газет, дае ў творах даведкі пра аб'ект сваёй цікавасці, раён у цэлым ці канкрэтнага чалавека, які яго ўзначальвае. Публіцыст вывучае становішча на месцах, амаль усе яго творы напісаны ў выніку паездак па рэгіёнах рэспублікі (Капыльшчына, Светлагорск, Карэліцкі раён, пухавіцкія гаспадаркі, Ліда, Глыбокае, Навагрудак, Полацк, Докшыцы).

Тэматычны абсяг твораў В. Шырко вельмі разнастайны. Хоць ён і падае матэрыял з пункту погляду ўласнага і герояў сваіх тэкстаў – старшынь выканкамаў, дырэктараў прадпрыемстваў, кіраўнікоў сельскіх гаспадарак, – яго цікавяць розныя аспекты існавання сучаснай Беларусі. У сваіх творах ён разглядае сённяшнія праблемы ўрбанізацыі (паказваючы на прыкладзе светлагорскага вытворчага аграпрамысловага аб'яднання «Беларусьнафта» магчымасць станоў-

чага іх вырашэння праз парадненне вёскі і горада, прадпрыемства і саўгаса), жыллёва-камунальныя пытанні, рэнтабельнасць прадпрыемстваў розных галін, перавагі і недахопы фермерства, пытанні канфесійнай палітыкі і патрыятычнага выхавання.

Публіцыстыка В. Шырко, з аднаго боку, насычана фактамі, лічбамі, спасылкамі на думкі і меркаванні спецыялістаў, з другога – лірычная і эмацыянальная. Журналіст часта звяртаецца да вершаваных радкоў, выкарыстоўвае прыём успамінаў, узгадваючы падзеі свайго дзяцінства. В. Шырко засяроджваецца не толькі на эканамічных паказчыках і дасягненнях гаспадарак рэспублікі, але і адлюстроўвае культурнае жыццё, гісторыю мясцін. Нарыс «Капыльскія дудары» – расповед пра духоўнае багацце краю, вядомых людзей, якія родам з гэтага куточка Беларусі: паэтаў А. Астрэйку і А. Русака, пісьменніка Ц. Гартнага, адзіны ў рэспубліцы мясцовы народны ансамбль дудароў.

У нарысе «Без працы не пабудуеш палацы» галоўную ідэю твора аўтар паказвае праз вобраз адзінокай кабеты, да якой зрэдку наведваюцца дзеці, дапамагаючы па гаспадарцы: «Нельга не пагадзіцца з маці. Для яе сэнс жыцця – праца, найвышэйшая каштоўнасць – праца, і самая высокая ўзнагарода – добра зробленая справа. Як нам, гараджанам у першым пакаленні, не хапае такой веры. Маці не разумее, як можна падчас уборкі ўраджаю збіраць нейкія мітынгі, наладжваць гаману. Добра пакрычаць, пагаварыць, калі поўны амбар збожжа, варыўня бульбы. Гаманіць – галава не баліць» [19, с. 264].

Гэтыя ж думкі складаюць аснову інтэрв'ю В. Шырко са старшынёй Беларускага саюза жанчын Тамарай Дудко («Жанчына ўратуе свет»). Распытваючы гераіню пра яе біяграфію, кірункі дзейнасці жаночай арганізацыі рэспублікі, сацыяльныя праблемы Беларусі напрыканцы 1990-х гг., аўтар выводзіць прынцыпы, якіх Т. Дудко прытрымліваецца ў жыцці: «Памагаючы чалавеку, не толькі штосьці аддаеш, але і сам атрымліваеш задавальненне. Людзі памятаюць дабро... Чалавек, хоць і таленавіты, толькі тады дабіваецца поспеху, калі працуе і працуе...» [19, с. 171].

Асоба аўтара прадвызначае такія рысы публіцыстыкі В. Шырко, як лірызм, эмацыянальнасць, набліжанасць да праблем, якія асвятляюцца ў творах, цікавасць да розных сфер жыцця. Вобраз часу, які паўстае ў яго нарысах, супярэчлівы, складаны і разам з тым цікавы чытачу сваёй неадназначнасцю, суб'ектыўным аўтарскім асэнсаваннем падзей рэчаіснасці. У публіцыстыцы В. Шырко праз вобразы кіраўнікоў паказваецца беларуская вёска, яе жыццё і

будучыня. Творы гэтага аўтара – прыклад таго, як у сённяшніх умовах можа развівацца айчынны нарыс, захоўваючы традыцыі і адпавядаючы патрабаванням эпохі.

Дакументальна-мастацкія выданні «Мы – беларусы» (2003, 2005) скіраваны перш за ўсё да моладзі, абуджаюць цікавасць маладога пакалення да гісторыі роднай краіны з тым, каб пабудаваць яе годную будучыню. «Гонар за родную зямлю. Ён нараджаецца яшчэ ў маленстве і, як першы вясновы парастак, набірае сілу, крэпне на працягу ўсяго жыцця. Гонар за родную зямлю – ён не можа пачацца па волі кагосьці іншага або прышчапляцца спецыяльнымі законамі. Ён бярэ свой выток з сэрца, душы чалавека разам з любоўю да роднага дому, квяцістага лугу, блакітнага льнянога палетку і пошуму дуброў. Ён, гэты гонар, – у любові да песень, музыкі, паданняў і абрадаў свайго народа. А любіць – гэта значыць ведаць, што любіць, адчуваць гэта ў паўсядзённым жыцці, спазнаваць самому і перадаваць свае веды і вопыт іншым, асабліва – дзецям. Каб не забывацца, што ты – часцінка свайго народа, яго зямлі, якая завецца Бацькаўшчынай» [43, с. 123].

Для Беларусі, перад якой паўстала задача фарміравання дзяржаўнай ідэалогіі і акрэслівання нацыянальнай ідэі, асабліва важным становіцца абуджэнне цікавасці простых грамадзян і навукоўцаў да гісторыі, каранёў, мінулага. «Духоўнае аздараўленне краіны мяркуе адраджэнне традыцый народа, іх укладанне ў свядомасць і звычаі людзей, таму надзвычай важным уяўляецца зварот да гістарычнай, духоўна-маральнай спадчыны» [44, с. 78].

У другой палове 1990 – пачатку 2000-х гг. аўтары не толькі пішуць творы пра беларускую нацыянальную гісторыю, але актыўна звяртаюцца да сямейных паданняў, генеалагічных даследаванняў уласнага роду. Кнігі У. Ліпскага («Мы»), У. Глушакова (сямейная хроніка «Чарнобыльскі шлях, або Развітанне на пачатку вясны», цыкл «Гарадчукі») уяўляюць сінтэз публіцыстыкі і мемуарна-дакументальных жанраў. Праз гісторыю асобнай сям'і ў творах вымалёўваецца супярэчлівы вобраз эпохі. Зборнікі гістарычных эсэ і нарысаў лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі А. Марціновіча «Хто мы, адкуль мы...» (1996, 1998), «У часе прасветленыя твары» (1999), «Элегіі забытых дарог» (2001), «Свечка на золкім ветры» (2006) скіроўваюць чытача не толькі на адкрыццё невядомых момантаў гісторыі, веданне нацыянальных герояў, але і на спасціжэнне саміх сябе.

Згаданыя кнігі сведчаць пра тое, што паступова негатыўныя тэндэнцыі ў развіцці беларускай нарысістыкі змяняюцца жаданнем удумлівага і карпатлівага аналізу рэчаіснасці, увасобленага ў

высокамастацкай форме таленавітымі аўтарамі, вядомымі з савецкіх часоў. На пачатку XXI ст. журналістыка пакрысе пачынае пазбаўляцца стэрэатыпу пагоні за навінамі, у перыёдыцы з’яўляюцца аналітычныя матэрыялы, артыкулы па праблемах пераадолення эканамічнага крызісу, выбару духоўна-культурных прыярытэтаў у развіцці краіны, паступова ў навуковым асяроддзі і, як вынік, у СМІ і грамадскай свядомасці асэнсоўваецца неабходнасць акрэслівання нацыянальнай ідэі як фактару кансалідацыі беларускага грамадства і фарміравання ўплывовай дзяржаўнай ідэалогіі.

На падставе аналізу матэрыялаў часопіснай журналістыкі пачатку XXI ст., публіцыстычных зборнікаў апошніх гадоў, новых кніг асобных аўтараў можна зрабіць наступныя высновы. Для сучаснай публіцыстыкі характэрна:

1) жанравая трансфармацыя, адыход ад класічнага мастацкага нарыса, узмацненне эсэістычнага пачатку;

2) перавага маральна-этычнай і гістарычнай тэматыкі ў сучасных публіцыстычных творах;

3) асэнсаванне праблем чалавека праз прызму сацыяльна скіраванай дзяржаўнай палітыкі;

4) пошук складнікаў нацыянальнай ідэі, фарміраванне дзяржаўнай ідэалогіі.

# ВОБРАЗ ЧАСУ
# Ў АЎТАРСКАЙ ІНТЭРПРЭТАЦЫІ

Беларускія пісьменнікі ўнеслі значны ўклад у развіццё айчыннай публіцыстыкі. Гэта тэндэнцыя, характэрная для пачатковага перыяду развіцця афіцыйнай беларускай літаратуры (пачатак XX ст.), захоўвалася і далей. У другой палове XX ст., калі наспела неабходнасць асэнсавання такіх маштабных падзей у грамадскім жыцці, як Вялікая Айчынная вайна і Перамога, эканамічных і псіхалагічных змен у жыцці народа на працягу 1960–1980-х гг., адлюстравання складаных працэсаў у развіцці грамадства, сацыяльных праблем і г. д., публіцыстычнай дзейнасцю займаліся і пісьменнікі, чые творы нярэдка прадвызначалі тэматычныя кірункі развіцця журналісцкай думкі.

Пісьменнік, выступаючы ў ролі публіцыста, не проста адлюстроўвае ў сваёй творчасці галоўныя праблемы эпохі, але часта акрэслівае іх у грамадскай свядомасці, апераджаючы сваім мысленнем агульныя тэндэнцыі развіцця публіцыстыкі. Для публіцыстыкі пісьменнікаў у большай ступені характэрна адначасова мастацкае, эмацыянальнае, вобразнае светаўспрыманне і філасофскае асэнсаванне падзей сучаснасці, што дазваляе вылучаць яе як асобны пласт журналісцкіх твораў.

Асоба публіцыста як аўтара, вядомага аўдыторыі па сваёй літаратурнай творчасці, з'яўляецца тым дадатковым фактарам, які здольны прыцягнуць увагу чытача да публіцыстычнага твора. Вядомы пісьменнік мае большыя магчымасці ўплыву на грамадскую свядомасць за кошт папулярнасці свайго імя. Нярэдка аўтары мастацкай літаратуры самі выступалі ў ролі карэспандэнтаў (напрыклад, М. Матукоўскі – сабкор газеты «Известия» ў Беларусі, І. Новікаў – сабкор газеты «Правда»). Пры выступленнях у перыядычным друку пісьменнік здольны атрымаць непасрэдную, прамую і больш аператыўную рэакцыю на свае ідэі, чым у творах мастацкай

прозы. Такім чынам, эфектыўнасць уздзеяння публіцыстычнай думкі павышаецца.

Неад'емнай характарыстыкай публіцыстыкі, акрамя яе эфектыўнасці (што праяўляецца ў фарміраванні грамадскай думкі), з'яўляецца дзейснасць, якая мае на ўвазе дасягненне канкрэтных вынікаў пасля публіцыстычнага выступлення. У гэтым плане публіцыстыка пісьменнікаў у многіх выпадках таксама з'яўляецца больш плённай дзякуючы сацыяльнаму статусу аўтара. Так, А. Адамовіч, І. Шамякін, з'яўляючыся дэпутатамі, многае здолелі зрабіць для прыцягнення ўвагі да чарнобыльскай трагедыі, Н. Гілевіч, які ўзначальваў Таварыства беларускай мовы, актыўна выступаў у друку з артыкуламі па падтрымцы, захаванні беларускай мовы і наданні ёй статусу дзяржаўнай.

Пранікненне ў публіцыстыку стылёва-кампазіцыйных элементаў мастацкай прозы, дакументалістыкі і навуковай літаратуры, іх узаемадзеянне, характэрнае менавіта для пісьменніцкіх тэкстаў, таксама ўзбагачае якасць публіцыстычнага твора. Гэту тэндэнцыю можна разглядаць і ў адваротным парадку. Так, у сярэдзіне 1980-х гг. крытыкі актыўна даследавалі такую тэндэнцыю ў развіцці літаратуры, як узмацненне публіцыстычнасці мастацкай прозы і дакументалістыкі, чым, у прыватнасці, вызначаюцца аповесці В. Быкава і творы А. Адамовіча, С. Алексіевіч.

Публіцыстыцы кожнага з пісьменнікаў, чыя творчасць абраная для даследавання, уласцівы характэрныя спецыфічныя рысы, што прадвызначана індывідуальнасцю аўтара як грамадскай фігуры і творчай асобы. Пісьменнікі фактычна асэнсоўваюць адзін і той жа перыяд у развіцці грамадства, але праз выбар розных тэм і з улікам асабістага вопыту і творчай індывідуальнасці. Апераджальнасць мыслення У. Караткевіча, тэматычная разнапланавасць публіцыстыкі Я. Сіпакова, маштабнасць аналізу і прагнозаў А. Адамовіча з'яўляюцца паказальнымі ў адлюстраванні ролі публіцыстыкі пісьменнікаў у агульным журналісцкім і літаратурным працэсе.

На прыкладзе эсэістыкі У. Караткевіча можна прасачыць галоўныя ідэі нацыянальна-адраджэнцкай праблематыкі, актыўнае абмеркаванне якой пачалося падчас перабудовы. Яго творчасць шмат у чым прадвызначыла і акрэсліла арыенціры ў асвятленні пытанняў фарміравання дзяржаўнай незалежнасці, захавання культурнай спадчыны, пераемнасці гісторыі і будучыні беларускага народа ў 1990-я гг. Рамантычны пачатак, моцна выражаны ў паэзіі і прозе У. Караткевіча, паўплываў і на кампазіцыйна-стылёвыя асаблівасці яго мастацкай публіцыстыкі. У творах гэтага аўтара сінтэзуюцца

прыкметы розных жанраў, у прыватнасці, ён, як, бадай, ніводны іншы публіцыст, актыўна выкарыстоўвае эсэістычныя элементы.

Тэматыка публіцыстычных твораў А. Адамовіча першапачаткова звязана з праблемамі недапушчэння новай сусветнай вайны ў выніку гонкі ядзернага ўзбраення. Паступова аўтар пераключаецца на адлюстраванне экалагічных праблем, звязаных з выкарыстаннем «мірнага атама». А. Адамовіч першым з пісьменнікаў краіны прыцягнуў увагу шырокай грамадскасці да чарнобыльскай трагедыі, выступаючы не толькі ў айчынным, але ва ўсесаюзным і замежным друку з артыкуламі, прысвечанымі пошуку шляхоў выйсця з нацыянальнай экалагічнай катастрофы. Тэматычная насычанасць, узважанасць публіцыстыкі А. Адамовіча абумоўлена яго біяграфічным вопытам і ў сваю чаргу прадвызначае жанравую спецыфіку яго творчасці, прадстаўленай уласна публіцыстычным артыкулам і ўпершыню ў савецкай літаратуры глыбока распрацаванай гэтым аўтарам дакументальна-публіцыстычнай аповесці.

Творчасць Я. Сіпакова арганічна сумяшчае ў сабе ўвагу да праблем беларускай вёскі з лірыка-псіхалагічным светаадчуваннем аўтара. Сацыяльныя нарысы Я. Сіпакова, прысвечаныя роднаму краю, і яго сучасная эсэістыка – яскравы прыклад узважанай грамадзянскай пазіцыі аўтара, адзінства яго стылёвай і творчай манеры на працягу ўсяго перыяду літаратурнай дзейнасці. У творчасці гэтага аўтара адлюстраваны не толькі сацыяльны кантэкст некалькіх этапаў развіцця беларускага грамадства, але і ідэйныя падыходы да яго ацэнкі, ад узвышэння асобы У. І. Леніна ў савецкі час да ўсведамлення сучаснікамі неабходнасці будаўніцтва моцнай, незалежнай і квітнеючай дзяржавы намаганнямі кожнага з яе грамадзян. Разам з тым ён імкнецца асэнсоўваць сённяшнія рэаліі без ідэалагічнай зацятасці, з улікам сталага чалавечага і пісьменніцкага вопыту. Я. Сіпакоў – адзін з нешматлікіх прадстаўнікоў сучаснай мастацкай публіцыстыкі, які захоўвае ў сваіх тэкстах лепшыя традыцыі нарысістыкі 1970–1980-х гг.

Публіцыстыка фарміруе грамадзянскае аблічча сучасніка ў творах і самім жыцці. У сённяшнім грамадстве, дзе рэзка ўзрастае ўзровень забяспечанасці аўдыторыі самай разнастайнай інфармацыяй, разам з тым назіраецца трансфармацыя маральных ідэалаў, духоўны вакуум індывідуальнасці ў сістэме прагматычных каштоўнасцей. Менавіта пісьменнік як грамадска значная, вядомая асоба ў такой сітуацыі здольны стаць у пэўнай ступені віртуальным суразмоўцам зацікаўленага чытача, арыенцірам аўдыторыі ў цэлым. Актыўны ўдзел пісьменніка ў грамадскім жыцці краіны, аўтарскія

рубрыкі, якія ён можа рэгулярна весці ў перыядычных выданнях, ці праграмы на радыё і тэлебачанні забяспечваюць вяртанне цікавасці да айчыннай культуры, літаратуры на агульнанацыянальным узроўні, павышэнне рэйтынгу сродкаў масавай інфармацыі, фарміраванне гуманістычных і сацыяльна скіраваных каштоўнасцей у грамадскай свядомасці.

## Дыялектыка мінулага і будучыні ў публіцыстыцы Уладзіміра Караткевіча

Публіцыстычная спадчына Уладзіміра Караткевіча значна менш даследавалася айчыннымі крытыкамі і літаратуразнаўцамі ў параўнанні з яго мастацкімі творамі (манаграфіі А. Вераб'я, А. Русецкага, В. Шынкарэнкі). Разам з тым нарысы і эсэ У. Караткевіча ўяўляюць пласт яго журналісцкай дзейнасці, яскрава раскрываюць асобу аўтара ў публіцыстыцы і працягваюць галоўныя тэмы яго мастацкай творчасці.

Развіццё публіцыстычнай творчасці У. Караткевіча шмат у чым адлюстроўвала агульныя тэндэнцыі тагачаснай мастацкай публіцыстыкі. Так, з'яўленне яго камбінаваных твораў, якія даследчыкі часта адносяць да жанру падарожнага нарыса («Казкі Янтарнай краіны», «Званы ў прадоннях азёр») прыпадае на 1960-я гг., калі жанр падарожных твораў актыўна выкарыстоўваецца ў беларускай публіцыстыцы («Зямля маіх продкаў» Б. Сачанкі, «Паэма дарог» Я. Сіпакова і А. Клышкі, «Недыпламатычныя нататкі» М. Танка і інш.). У лірыка-філасофскую плынь беларускай публіцыстыкі, акрамя творчасці У. Караткевіча, уваходзілі таксама творы В. Палтаран, М. Стральцова, Я. Сіпакова.

Наватарства У. Караткевіча ў публіцыстыцы, дарэчы, як і ў мастацкай прозе, звязана перш за ўсё з гістарычнай тэматыкай твораў. Увага да тагачасных актуальных праблем, аднак, яскрава прасочваецца ў яго артыкулах, прысвечаных развіццю беларускай мовы, з'яўленню музея беларускай культуры і побыту, у нарысе «Званы ў прадоннях азёр» і іншых творах. Публіцыста хвалююць тэмы ўрбанізацыі і некранутасці прыроды, праблема меліярацыі і пагроза атамнай катастрофы – галоўныя прыкметы тэхнагеннай цывілізацыі XX ст. Асэнсоўвае гэтыя з'явы аўтар праз уласную канцэпцыю светаўспрымання, скіраваную перш за ўсё на захаванне сувязі паміж мінулым і будучыняй праз сучаснасць. Галоўная ідэя творчасці пісьменніка акрэсліваецца як адзінства з усім жывым на зямлі, «усё ва мне, і я ва ўсім».

Так, заклікаючы ў эсэ «Абдуванчык на кромцы вады» да гармоніі ў адносінах з прыродай, захавання тых багаццяў і рэсурсаў, якія засталіся нам ад папярэдніх пакаленняў, ад пытанняў «паратунку прыроды» У. Караткевіч арганічна пераходзіць да паратунку культуры і гісторыі, звязваючы іх у адно: «Таму што ўся гісторыя кожнага народа ёсць гісторыя паступовага зведання ім сваёй Радзімы, асваенне і ўпрыгожванне яе, асэнсаванне самога сябе як чалавека на гэтай зямлі» [32, с. 279].

Такім чынам, публіцыст усведамляе асабістую адказнасць кожнага за тое, што адбываецца ў грамадстве. Гэта не марны заклік у дачыненні да дзяржаўных устаноў, грамадскіх аб'яднанняў і арганізацый, абавязкаў абстрактных чыноўнікаў, а мэтанакіраваны зварот да кожнага чытача з канкрэтнымі прапановамі: пасадзіць дрэва (хаця б адно), спыніць паляванні, карміць птушак зімой, з асцярогай выкарыстоўваць хімікаліі на ўласным гародзе. І толькі ў выпадку, калі кожны зразумее ісціну пра тое, што не толькі чалавек у свеце, але і ўвесь сусвет у ім, магчымы мір на нашай агульнай планеце. Актуальнасць праблем рэчаіснасці, адлюстраваных У. Караткевічам, для сённяшняй публіцыстыкі звязана з экалогіяй як паслячарнобыльскай Беларусі, так і агульначалавечай цывілізацыі.

Пра неабыякавасць публіцыста да праблем сучаснасці сведчыць і яго артыкул «Родная мова», які быў напісаны па заказе рэдакцыі «Настаўніцкай газеты» яшчэ ў 1969 г., але не быў апублікаваны. Твор з'явіўся ў друку толькі ў чэрвені 1989 г., калі ў Беларусі актыўна адбываліся адраджэнскія працэсы.

Спецыфіка выяўлення вобраза часу ў публіцыстыцы У. Караткевіча выявілася ў апераджальнасці мыслення аўтара. Ідэі, якія У. Караткевіч прапагандуе ў нарысах, эсэ, артыкулах на гістарычныя тэмы, знаходзяць шырокі рэзананс у грамадстве і, зразумела, у перыядычным друку пазней, ужо на хвалі перабудовы. Слушным уяўляецца сцвярджэнне А. Мальдзіса пра тое, што У. Караткевіч правакаваў падзеі 1990-х гг. сваімі творамі на гістарычную тэматыку, у тым ліку і публіцыстыкай [42, с. 6].

Менавіта словы У. Караткевіча пра галоўную мэту сваёй творчасці з інтэрв'ю, дадзенага Т. Шамякінай, можна ў пэўным сэнсе лічыць лейтматывам падзей перабудовы, накіраваных на нацыянальнае адраджэнне Беларусі: «Выхоўваць любоў да нацыянальнай культуры можна адным толькі спосабам: выхаваннем у чалавеку гордасці за свой народ і яго дзеянні ў гісторыі. І – у сучасным – працай, часам непасільнай, па абуджэнні ў ёй глыбокіх ведаў аб сваіх людзях

і сваім краі. Калі ўсе будуць працаваць над гэтым на грані сваіх магчымасцей – грамадства здолее ўсё» [32, с. 427].

Увага аўтара да тэмы адраджэння нацыянальнай свядомасці, адлюстраванне гістарычных падзей мінулага і асэнсаванне іх актуальнасці для разумення праблем сучаснасці прадвызначылі спецыфіку вобраза часу ў публіцыстычных творах У. Караткевіча. Праз хуткаплыннае аўтар адначасова хоча зразумець экзістэнцыяльныя праблемы дабра і зла, смерці і бяссмерця, шчасця і прызначэння чалавека на зямлі. Згадваючы ў эсэ «Твой зорны шлях» узаемапранікненне і сувязь розных часавых планаў, У. Караткевіч сцвярджае неабходнасць і наяўнасць філасофскіх твораў, аднолькава актуальных у любую эпоху. У эсэ і нарысах, як і ў апавяданнях, ён развівае ідэю аб тым, што чалавек не можа жыць толькі ў рамках вызначанага яму прыродай часу, абмежаванага датамі яго нараджэння і смерці. Чалавек жыве і тым, што засталося яму ад продкаў, і тым, чым прасякнута яго свядомасць, і тым, што прыйдзе пасля яго і здзейсніць яго мары.

Асоба аўтара як адна з вызначальных катэгорый публіцыстычнага твора яскрава выяўляецца ўжо ў ранніх нарысах У. Караткевіча, на пачатку 1960-х гг. У 1963 г. у «Полымі» надрукаваны «Казкі Янтарнай краіны». Нягледзячы на тое што большасць літаратуразнаўцаў пагаджаецца з вызначэннем «Казак...» як падарожнага нарыса, у гэтым творы відавочна прасочваецца эсэістычны пачатак, часам можна сустрэць рысы іншых, уласна празаічных жанраў. Так, сама назва, як і казачны зачын напачатку, і легенды-паданні, што нясуць у сабе вялікую алегарычную нагрузку, сапраўды нагадваюць чытачу казку. Філасофскія абагульненні і аўтарскія разважанні набліжаюць гэты твор да эсэ, а эмацыянальна-экспрэсіўная афарбоўка дае магчымасць заўважыць, што «Казкі...» увабралі і элементы мемуарных твораў. Такім чынам, можна сцвярджаць, што гэты твор з’яўляецца ў пэўнай ступені сінтэтычным, спалучае прыкметы розных жанраў і стыляў, што служыць на карысць чытацкаму ўспрыманню.

Рамантызм, уласцівы творчасці пісьменніка, яскрава выяўляецца ў казках-устаўках, у якіх ён увасабляе ўласнае бачанне філасофскіх ідэй жыцця і смерці, кахання, чалавечай годнасці і абавязку перад іншымі. У казках, як і ў творы ў цэлым, гучыць антываенны пафас У. Караткевіча. Аўтар малюе вобраз вайны, у алегарычнай форме сцвярджаючы непазбежную перамогу гуманізму, веры ў лепшае, надзеі на будучыню: «Ляўдона здалёк нагадвае цукатны торт, такая яна чысценькая і прывабная... Часам цукаты будынкаў быццам пашчыкалі дзіцячыя пальцы... І толькі потым здагадваешся, што не

дзіцячыя, ліпкія ад ласункаў, пальцы зрабілі гэта, а кашчавая рука вайны.

...Я ж вам кажу, я не помслівы і зусім не крыважэрны чалавек. Я не люблю кулявых шрамаў на такіх мурах. І ўсё ж мне хацелася б, каб сцены аднаго вось такога дома, у якім я буду жыць у апошнія свае гады, былі спаласаваны і знявечаны шрамамі і выбоінамі, бо я хацеў бы, каб усіх каралёў вайны, усіх, хто робіць барабаны, а не скрыпкі, прывялі ў адзін добры дзень да муроў майго дома і тут расстралялі ўсім наяўным запасам патронаў. Гэтыя залпы я слухаў бы як бахаўскія “Страсці”, з тым прыемным хваляваннем, што памагае пісаць вялікія вершы» [32, с. 38].

Закранаючы ваенную тэму, У. Караткевіч, безумоўна, адлюстроўвае ідэі, якія хвалююць яго пакаленне. Прыкметы часу, разам з тым, прасочваюцца і ў антырэлігійнай скіраванасці «Казак Янтарнай краіны». Аўтар сцвярджае, што адзіная яго вера – Чалавек на Зямлі, а спрадвечная і нязменная праўда на свеце заключаецца ў наступных радках: «Справа Адама – араць, справа Евы – прасці, справа іхніх сыноў – дапамагаць бацькам, быць сябрамі і разам спяваць песні на гэтай добрай зямлі.

Іншай праўды няма. Іншая праўда – ад лукавага» [12, с. 490].

На гэтую рысу характару публіцыста, дарэчы, звяртае ўвагу ў сваёй публікацыі «Быў. Ёсць. Буду» крытык С. Андраюк: «У характары Караткевіча, у самой ягонай чалавечай натуры было штосьці ад людзей эпохі Рэнесанса – энцыклапедычнасць ведаў, няўтольная прага дзейнасці і падарожжаў, шыриня і featuresabaкoвасць таленту, вышыня ягоных духоўных парыванняў» [10, с. 6].

У. Караткевіч міжвольна параўноўвае намаганні латышоў захаваць гістарычную і культурную спадчыну, якая засталася ад продкаў, з абыякавасцю беларусаў, часам гаворачы пра апошніх нават з сарказмам. Так, узбіраючыся па мурах Турайдскага замка, ён іранічна заўважае: «Потым я яшчэ гадзіну лаяў руплівых да старажытнасці латышоў, якія дбайна рэстаўрыравалі турайдскую вежу і зараз аднаўляюць палац ля яе. Што б ім было павучыцца ў нас і даць гэтым паршывым помнікам спакойна разбурацца, як Мірскаму замку і віцебскаму Благавешчанню, што за апошнія дзесяць гадоў разбурылася больш чым за ўсе астатнія восем вякоў свайго існавання?» [12, с. 491].

Разам з тым аўтар разумее, што беларусы – не горшы, не бесталанны, беспамятны народ, які не мае ні цягі да прыгажосці, ні сваіх каранёў і спадчыны. Патрэбна толькі, на яго думку, абудзіць, адрадзіць гэтую прагу да нацыянальнай гісторыі і культуры. І адказнасць за гэта – перш за ўсё на кіраўніцтве і інтэлігенцыі.

Разважаючы над роляй мастака, пісьменніка, увогуле творцы, У. Караткевіч заключае свае думкі ў сімвалічную метафару. Так, «Казка аб срэбным пеўніку» распавядае пра гісторыю стварэння нацыянальнага сімвала Латвіі – пеўніка, што красуецца амаль на кожным рыжскім будынку. У першага з іх было ўкладзена сэрца яго майстра, таму што аўтар не можа не аддаць часцінкі душы свайму твору. Працягваючы развагі над метафарай, можна адзначыць, што і любы пісьменнік, у тым ліку ў публіцыстычнай дзейнасці, надае свайму твору тыя ідэі, якія пануюць у яго ўласным светапоглядзе.

Прапагандай айчыннай гісторыі, культуры, роднай мовы, сапраўднай энцыклапедыяй звестак пра побыт, традыцыі і жыццё беларусаў можа служыць і гісторыка-краязнаўчы нарыс «Зямля пад белымі крыламі», напісаны ў 1977 г. Аўтар выкарыстоўвае шмат тэрмінаў і лічбаў, звестак са слоўнікаў, энцыклапедычных даных і г. д., што набліжае гэты твор да навукова-папулярнай літаратуры. Структурна нарыс падзелены на пяць тэматычных раздзелаў. Першы з іх, «Зямля мая», падае агульныя звесткі пра геаграфію, этнаграфію, гісторыю і псіхалогію беларусаў. Другі, названы «Камяніцы, і гмахі, і вежы», – гэта аповед пра ўзнікненне, развіццё і сённяшняе жыццё нашых гарадоў і мястэчак, невялікіх, але праслаўленых у мінулых стагоддзях, такіх як Полацк, Навагрудак, Нясвіж, і абласных цэнтраў, і сталіцы. У раздзеле «Праз дым стагоддзяў» У. Караткевіч прасочвае падзеі, што адбываліся на тэрыторыі сучаснай Беларусі, ад першых пасяленняў тут чалавека да рэвалюцыйнага ўздыму пачатку 1905 г. Паслярэвалюцыйны перыяд, аб'яднанне Заходняй Беларусі з усходняй савецкай часткай, удзел беларусаў у Вялікай Айчыннай вайне разглядаецца ў чацвёртым раздзеле «Беларусь на куце ў хаце сваёй села». Апошні раздзел «Будоўлі, будоўлі, будоўлі» прысвечаны беларускаму грамадству, прамысловасці і культуры 1960–1970-х гг. Менавіта ў «Зямлі пад белымі крыламі» створаны абагульнены вобраз беларускага грамадства на працягу ўсёй гісторыі яго існавання.

Галоўныя тэмы нарыса сугучныя публіцыстыцы У. Караткевіча ў цэлым: гэта захаванне культурнай спадчыны і экалагічнай раўнавагі ў грамадстве. Як адну з галоўных праблем сучаснасці аўтар вылучае знікненне ўнікальнай беларускай культуры. Апісваючы знешні выгляд беларускіх вёсак і ўнутранае ўбранства хат, ежу і пітво нашых продкаў, старадаўнія вясельныя і пахавальныя абрады, флору і фаўну Беларусі, У. Караткевіч разважае аб тым, што змены ў любым грамадстве непазбежныя, аднак прагрэс павінен ажыццяўляцца на аснове традыцый, з іх улікам і асэнсаваннем неабходнасці захоўваць нацыянальную спадчыну. Публіцыст звяртаецца да легенд і паданняў

народа, выкарыстоўвае лічбы і прозвішчы, «сутыкае» на старонках нарыса ўчарашнюю вайну і войны, якія папярэднічалі ёй даўным-даўно, напрыклад паўстанне К. Каліноўскага ці хваля сялянскіх выступленняў XVII ст. Ствараючы партрэты грамадскіх дзеячаў мінулых стагоддзяў, аўтар разам з тым абыходзіць пэўныя балючыя кропкі, не закранаючы падзеі 1930-х гг., якія адмоўна паўплывалі на развіццё беларускай культуры.

У. Караткевіч, аднак, у гэтым творы ў большай ступені звяртае ўвагу чытача на сучасныя дасягненні беларускай рэспублікі. Аўтарская цікаўнасць да падзей сучаснасці выяўляецца ў наватарскіх для тагачаснай публіцыстыкі тэмах: няўдалая меліярацыя палескіх балот, знікненне ў Беларусі рачнога суднаходства, захаванне і абарона лесу і яго жыхароў.

Падобным да гэтага творам можна лічыць і эсэ «Дыяментавы горад» (1984), напісанае У. Караткевічам да 850-годдзя Мсціслава, дзе аўтар выкарыстоўвае шмат археалагічных звестак ад старажытных часоў да сучаснасці, падрабязна распавядае пра кожнае стагоддзе ў гісторыі горада. Шматлікія старонкі прысвечаны славутым людзям рэгіёна, сярод якіх – П. Мсціславец, браты Гарэцкія, І. Насовіч і інш. Пра тое, што У. Караткевіч неаднойчы закранаў у творы недазволеныя тады тэмы і імёны, сведчыць такі факт, што эсэ было значна скарочана і адрэдагавана падчас выдання асобнай кнігай у 1985 г.

Біяграфічны вопыт асобы аўтара (шматразовыя камандзіроўкі, сувязь з гісторыяй сям'і) абумоўлівае такі тэматычны кірунак у публіцыстыцы У. Караткевіча, як падарожныя творы пра Палескі рэгіён, якому прысвечаны эсэ «Сцюдзёная вясна…», нарыс «Званы ў прадоннях азёр».

«Сцюдзёная вясна…» была напісана з нагоды 1000-годдзя Турава, і ў гэтым творы таксама можна вылучыць тэмы, што хвалююць У. Караткевіча. Мінулае і сучаснае суіснуюць у адной плоскасці, і аўтар прапагандуе ў творы ідэю аб адказнасці асобнага чалавека за кожнае дзеянне перад грамадствам, нашчадкамі і ў дадзеным выпадку перад прыродай таксама: «Падумайце над кожнай былкай, падумайце над дубам, які церпіць паводку… Падумайце, каб Палессю не засталося, як на апошнюю літасць, спадзявацца на дождж» [32, с. 198].

Увага да пытанняў захавання навакольнага асяроддзя, уласцівая публіцысту, набліжае яго творы да нарысаў І. Дуброўскага, Б. Сачанкі, артыкулаў А. Адамовіча на актуальную экалагічную праблематыку.

«Званы ў прадоннях азёр» (1969) – яскравы прыклад сінтэтычнага спалучэння тэмы мінулага і праблем сучаснасці ў мастацкай

публіцыстыцы У. Караткевіча. Як слушна заўважае В. Шынкарэнка, «у “Званах...” узаемадзейнічаюць, нараджаючы адметную паэтычную форму, дакументальны, навуковы, філасофскі, публіцыстычны, фальклорна-міфалагічны, чыста літаратурны падыходы ў асэнсаванні канкрэтнага матэрыялу... Змацоўвае ж твор, нітуе ў адно розныя планы адлюстравання асоба самога аўтара, сузіральніка і дзеючага персанажа адначасова» [68, с. 58].

Асоба аўтара як цэнтральны, стрыжнявы элемент публіцыстычнага твора ўплывае як на тэматычна-ідэйную скіраванасць тэксту, так і на яго мастацка-стылёвыя адметнасці. Рамантызм і лірычнасць светаўспрымання У. Караткевіча абумовілі метафарычнасць, алегарычнасць яго публіцыстыкі.

Умяшанне чалавека ў прыроду, на думку У. Караткевіча, непазбежна прыводзіць да парушэння агульнаэкалагічнага балансу, і некаторыя радкі сёння, пасля чарнобыльскай трагедыі, успрымаюцца як прарочае папярэджанне суайчыннікам. Так, паданне пра караля буслоў з крыламі размахам на паўнеба, які стаіць у палескіх балотах, у зарасцях тысячагадовых беларускіх дубоў, гучыць як адно з прадчуванняў У. Караткевіча наконт атамнай катастрофы, магчымай для Беларусі: «Птушкі баяцца парушаць ягоны пакой. Калі ж набярэцца бясчынстваў, браканьерства, выгаляння над жывым – уздыме галаву, пракінецца і махам крылаў уздыме ўраган і змяце тых, што рабілі такое з яго братамі і гвалцілі натуру ды крыўдзілі меншых братоў» [32, с. 65].

У раздзеле нарыса, прысвечаным вандраванню ў Пінск, аўтар разважае над магчымасцю захавання культурна-гістарычных помнікаў, неабходнасцю экспедыцый, якія б занатоўвалі народныя песні, адраджэння даўніх рамёстваў (напрыклад, ганчарнага), якія знаходзяцца ў заняпадзе. Нарыс У. Караткевіча «Званы ў прадоннях азёр», як і іншыя творы яго публіцыстыкі, сацыяльна абвостраны, балючы, крытычны.

Такім чынам, на выяўленне вобраза часу ў публіцыстычных творах У. Караткевіча ўплываюць як адметнасці яго светапогляду, творчай аўтарскай індывідуальнасці, так і грамадскія падзеі і агульныя тэндэнцыі развіцця публіцыстыкі. Разам з тым тэматычная навізна, арыгінальнасць яго тэкстаў дазваляюць сцвярджаць, што асоба У. Караткевіча – адна з вызначальных у беларускай пісьменніцкай публіцыстыцы другой паловы XX ст.

Калі ў падарожных творах і эсэ на гістарычныя тэмы варта адзначыць спецыфіку стварэння вобраза часу ў публіцыстыцы У. Караткевіча, то шэраг партрэтных нарысаў паказвае асаблівасці выяўлення асобы аўтара ў яго творчасці. Шматлікія рысы, якімі ён

надзяляе герояў, аўтабіяграфічныя. У эсэ «Подзвіг Францыска Скарыны» У. Караткевіч выкарыстоўвае незвычайную форму аўтарскіх разважанняў, выступаючы на пачатку твора ад імя чалавека Сярэднявечча – сучасніка беларускага першадрукара. Ён вылучае некалькі тэм, якімі мог цікавіцца прагны да ведаў асветнік (космас, чалавек, навука) і спрабуе перанесціся на стагоддзі назад, адчуць, якія ўяўленні панавалі ў тагачасным грамадстве, якімі забаронамі, у тым ліку царкоўнымі, былі абмежаваны веды перадавых людзей таго часу. Прагу Ф. Скарыны і яго духоўных паплечнікаў да святла, нязгаснае імкненне да ведаў У. Караткевіч лічыць фундаментам, з дапамогай якога тыя не толькі неслі асвету да простага народу, але і засталіся ў яго памяці як лепшыя сыны Адраджэння. Ідэя адзінства кожнага адукаванага чалавека з усім жывым на зямлі як у мінулым, так і ў будучыні пранізвае амаль усе публіцыстычныя творы У. Караткевіча, асабліва прысвечаныя яркім постацям у гісторыі. Менавіта таму для яго амаль аднолькава роўныя і дарагія Ф. Скарына і Т. Шаўчэнка, Л. Украінка і М. Багдановіч, Я. Купала і М. Чурлёніс, А. Пушкін, Дж. Байран, К. Каліноўскі, М. Агінскі. Іх справы, творы, урэшце, грамадзянскія і асабістыя подзвігі, на думку публіцыста, узбагачаюць не толькі нацыянальную культуру, але і сусветную гісторыю.

Абараняючы ад маральнага знішчэння культуру і гісторыю беларусаў, У. Караткевіч здольны захапляцца дасягненнямі і паважаць мінулае іншых краін. Такім чынам, ён імкнецца да гуманізму ў найвышэйшым яго праяўленні, калі ўсё каштоўнае, што было нажыта цывілізацыяй, належыць чалавеку сучаснага, становіцца яго паўнавартаснай спадчынай. І галоўная мэта самога У. Караткевіча – данесці гэтыя скарбы да нашчадкаў, звязаць мінулае і будучыню. Пра гэта аўтар разважае ў эсэ «І будуць людзі на зямлі», узгадваючы жыццё Тараса Шаўчэнкі. Метафарычна параўноўваючы вядомага ўкраінскага паэта з маленькім жолудам ад вялікага дрэва, У. Караткевіч упэўнены: «Жолуду, які ўпаў са зрынутага, вялікага калісьці дрэва, заўсёды здаецца, што гэта канец. Ён не ведае, што ён, самотны і малы для самога сябе, ёсць эстафета будучыні, што ў ім – карані, галіны і лісці вялікага дрэва лютасці, якое будзе весці спрэчку са стагоддзямі, зберагаць сабою чыстыя крыніцы і даваць цень усім добрым людзям.

Жолуд не ведае. А між тым ён – прыклад для кожнага змагара. Нішто не знікае ў свеце. ...І адно жыццё можа назаўсёды пераважыць шалі вагаў, калі яно – для людзей, калі яно – высакароднае» [32, с. 132].

Першадрукару ўсходнеславянскіх зямель Ф. Скарыне прысвечана эсэ «Вера ў сілу дабрыні, або Сын Беларусі, сын Прагі», якое можна

лічыць класічным прыкладам гэтага жанру на пачатку яго развіцця ў беларускай літаратуры, таму што менавіта для яго характэрны аўтарскія разважанні публіцыста ў спалучэнні з выкарыстаннем агульна- і малавядомых біяграфічных звестак, адсутнасць строгай сюжэтнай кампазіцыі і разам з тым шматлікія філасофскія абагульненні. Звычайныя для эсэістычных твораў спасылкі і рэмінісцэнцыі таксама ўласцівы творам У. Караткевіча. Эсэ як жанр мастацкай публіцыстыкі дае найбольш шырокія магчымасці для адлюстравання не толькі непасрэдна падзей рэчаіснасці, але іх узаемасувязі ў часава-прасторавым кантэксце з праблемамі і ідэямі мінулага ці прагнозамі на будучыню. Такім чынам, вобраз часу, які стварае аўтар эсэ, вызначаецца сваёй аб'ёмнасцю, гіпатэтычнасцю сітуацыі, якая адлюстроўваецца ў творы.

Разам з тым на адлюстраванне вобраза часу ў творчасці У. Караткевіча таксама ўплываюць сацыяльна-палітычныя падзеі рэчаіснасці, партыйна-ідэалагічныя ўстаноўкі. Верагодна, немагчымасць адкрыта разважаць аб праблемах нацыянальнага вызначэння ў 1960–1970-я гг. абумоўлівала зварот аўтара да даўняй гісторыі. Дарэчы, пра гэта ён сам кажа ў эсэ «Saxifraga». Радкі прысвечаны Лесі Украінцы, але за імі, безумоўна, можна пазнаць самога аўтара: «Сучасная ёй – і не толькі сучасная – крытыка часта рабіла паэтэсе закіды і папрокі ў "экзатычнасці". Я аніяк не згодзен з ёю. Тут не "экзатычнасць", а ўсё тая самая праблема адхілення творчай думкі, што, ва ўмовах нецярпімасці і самавольства, блукае па чужых краінах, па краінах гісторыі, па краінах казкі» [32, с. 167].

У. Караткевіч шукаў выйсця ў звароце да мінулага, таму што не бачыў у сучаснасці сапраўдных герояў. Магчыма, гэта звязана з агульным рамантычным успрыняццем рэчаіснасці, самім характарам пісьменніка, які не прызнаваў крывадушнасці і здрады не толькі ў творчых пазіцыях, але і ва ўласных жыццёвых прынцыпах (па ўспамінах сяброў – А. Мальдзіса, Р. Барадуліна і інш.).

Пра гэта піша ў артыкуле «Радаводам і талентам... Слова пра Уладзіміра Караткевіча» крытык У. Калеснік: «Прыросшы да гісторыі Беларусі сваім радаводам і сваім талентам, пісьменнік стварыў усё новыя гістарычныя творы. І што характэрна: у іх не знайшоў адлюстравання перыяд залатога веку, эпоха Адраджэння... Надта ўраўнаважанай, разумнай была гэтая эпоха, а яго цягнула да больш бурных, канфліктных перыядаў гісторыі. Што ён знаходзіў там? Выбухі волі. Асабліва на фоне сваёй сучаснасці, дзе свабода чалавека была моцна рэгламентавана і дзе ва ўмовах гэтай рэгламентацыі было цяжка тварыць» [31, с. 15].

Публіцыст быў вымушаны падладкоўвацца пад патрабаванні свайго часу, прынамсі, у форме, сродках выражэння аўтарскай думкі. І часам падаецца, што публіцыстыка У. Караткевіча занадта лагодная, прыгладжаная, не заўсёды ўздымае вострыя сацыяльныя пытанні, у некаторых творах адчуваецца славутая «лакіроўка рэчаіснасці», і такое ўражанне часам узмацняецца за кошт лірызму аўтарскага стылю. Так, пішучы пра Я. Купалу ў эсэ «Зліццё з душой народнай», У. Караткевіч вымушаны пазбягаць упамінання пра падзеі 1930-х гг., абвінавачванні пісьменніка ў сувязі з «нацдэмаўскімі элементамі», спробу самагубства. Нават прыгадваючы пра смерць паэта, што адбылася ў вельмі загадкавых абставінах, У. Караткевіч піша пра гэта невыразнымі сказамі, пазбягаючы сваёй заўсёднай эмацыянальнай адназначнасці ў ацэнках: «...ён (лёс) яшчэ азмрочыў апошні год яго жыцця ценем самай страшнай вайны, якую давялося перажыць за ўсю сваю гісторыю яго Радзіме... Да перамогі на Волзе заставалася некалькі месяцаў, калі ён памёр. Ён верыў у тое, што ніякая сіла не можа знішчыць ці паставіць на калені яго народ. Аднак гэта была вера, азмрочаная пакутай за яго.

Пакласці ўсё сэрца на тое, каб ён, родны народ, быў шчаслівы і вольны, і бачыць яго змаганне, пакуты і гібель – якое сэрца можа гэта вытрымаць?» [32, с. 317].

Асоба аўтара ў публіцыстыцы У. Караткевіча выяўляецца ў скіраванасці яго творчасці на гісторыка-патрыятычную тэму нацыянальнага і культурнага адраджэння Беларусі. Вобраз часу акрэслены праз ідэю сінтэзу мінулага і будучыні ў сувязі з сучаснасцю. Менавіта ён актыўна ўкараняў у беларускую публіцыстыку жанр эсэ, тым самым набліжаючы яе да заходнееўрапейскай, дзе гэта традыцыя існавала яшчэ з часоў М. Мантэня. Для публіцыстыкі У. Караткевіча характэрны сінтэз гістарычнай, экалагічнай і маральнай праблематыкі праз асацыятыўны, лірычны стыль аўтарскага развіцця ідэй твора.

Асвятленне гістарычнай тэматыкі, уведзенай У. Караткевічам у беларускую публіцыстыку, не магло не спрыяць абуджэнню нацыянальнай свядомасці беларусаў, пачуцця іх гонару за радзіму, яе традыцыі, спадчыну. Яго, несумненна, можна лічыць адным з пісьменнікаў-публіцыстаў, які сваёй творчасцю набліжаў адраджэнскія працэсы перыяду перабудовы. Як слушна заўважае даследчык Г. Кісялёў, гэты аўтар садзейнічаў інтэлектуалізацыі беларускай літаратуры [35, с. 239].

Менавіта мастацкія і публіцыстычныя творы У. Караткевіча ў пэўным сэнсе выконвалі ў беларускім грамадстве 1960–1980-х гг. тую ролю, якую на пачатку XXI ст. навукоўцы-філосафы сталі адводзіць нацыянальнай ідэі (увасабленню гістарычнага імкнення нашага на-

рода да свабоды, самастойнасці, захавання і развіцця беларускай мовы, культуры, дзяржавы): «Моцная хваля нацыянальнага адраджэння раскрывае сакрэты ...аб гістарычных падзеях і асобах, “белых” плямах нацыянальнага самасцвярджэння і самаідэнтыфікацыі, сцвярджае веліч нашага мінулага і абгрунтоўвае веру ў будучыню беларускага народа як унікальнага суб’екта гісторыі і арганічнага кампанента еўрапейскай і сусветнай цывілізацыі. Нацыянальная ідэя з’яўляецца крыніцай духоўнага ўзбагачэння, фарміравання гуманістычнага светапогляду, высокіх грамадзянскіх якасцей, адраджэння гістарычнай памяці і нацыянальнай самасвядомасці, пачуцця грамадзянскага гонару і патрыятызму, нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі» [71, с. 49].

Тэматычна большасць публіцыстычных твораў У. Караткевіча звязана з пытаннямі нацыянальнай беларускай культуры, праблемай захавання гістарычнай спадчыны. Пісьменнік таксама асэнсоўвае ў сваіх нарысах і эсэ такія складнікі падмурку нацыянальнай ідэі, вылучаныя пазней у працы А. Слукі, як нацыя, мова, дзяржава [62, с. 415], аналізуючы іх у сувязі з традыцыямі мінулага і дасягненнямі будучыні. А. Мальдзіс у артыкуле «Быў. Ёсць. І будзе!» вылучае пяць умоўных «запаветаў» У. Караткевіча, якія праходзяць праз усе яго творы, вызначаюць ідэал беларуса як асобы і яго краіны як незалежнай, моцнай дзяржавы, здольнай заняць пачэснае месца сярод іншых. Гэта Зямля, Чалавек, Вера, Мова і Спадчына. Адзначаныя паняцці відавочна пераклікаюцца.

Асноўная мэта існавання нацыянальнай ідэі – высокія матэрыяльныя, духоўныя і культурныя здабыткі кожнага чалавека і ўсяго народа. Бясспрэчна, на ажыццяўленне гэтай задачы была скіравана публіцыстычная і ўвогуле творчая дзейнасць У. Караткевіча. Ён актыўна распрацоўваў у айчыннай літаратуры такі жанр, як эсэ, дзе магчыма было найбольш поўнае выяўленне не толькі тэматычных адметнасцей творчасці пісьменніка, але і самой асобы аўтара, індывідуальнасці яго стылю, для якога ўласціва ўзаемадзеянне рэалістычнага і рамантычнага пачаткаў, выкарыстанне лірыка-філасофскіх адступленняў. Экалагічная праблематыка яго артыкулаў, падарожныя нарысы публіцыста сведчаць пра ўвагу аўтара да асноўных падзей эпохі, выяўленне ў творчасці У. Караткевіча тэндэнцый, характэрных для тагачаснай публіцыстыкі ўвогуле. Разам з тым тэма захавання культурнай спадчыны, адраджэння гонару за беларускую гісторыю – гэта, безумоўна, наватарскі падыход для айчыннай нарысістыкі 1960 – пачатку 1980-х гг. Ідэі У. Караткевіча актыўна ўплывалі на асэнсаванне грамадствам пытанняў адраджэння нацыянальнай свядомасці падчас перабудовы, выкарыстоўваліся ў публіцыстыцы

1990-х гг. Вобраз часу ў публіцыстыцы У. Караткевіча абумоўлены рамантызмам яго светаўспрыняцця, гісторыка-патрыятычнай тэматыкай твораў, сінтэзам мінулага і будучыні ў філасофскіх поглядах аўтара на рэчаіснасць, схільнасцю да свабодных аўтарскіх разважанняў, што прадвызначыла жанравую спецыфіку яго творчасці.

## Сацыяльная праблематыка ў творчасці Янкі Сіпакова

Творчасць пісьменніка Янкі Сіпакова з самага пачатку і на працягу яго актыўнага літаратурнага жыцця звязана з журналістыкай. Не паступіўшы адразу ў ВНУ, ён амаль год працаваў літсупрацоўнікам у шклоўскай раённай газеце «Чырвоны барацьбіт». Падчас вучобы на журфаку БДУ (у канцы 1950-х гг.) актыўна супрацоўнічаў з рэдакцыяй часопіса «Вожык», разам з Р. Барадуліным і Б. Сачанкам яны нават спрабавалі стварыць «беларускага Казьму Пруткова» пад калектыўным псеўданімам І. Сібарсач. Дарэчы, менавіта ў «Вожык» малады журналіст Я. Сіпакоў быў накіраваны пасля атрымання дыплома і працаваў у рэдакцыі больш за дзесяць гадоў. Творчая дыпломная работа паэта-пачаткоўца была зноў жа звязана з публіцыстыкай: Я. Сіпакоў пісаў серыю нарысаў пра сучаснікаў, абапіраючыся на ўласны вопыт (дзеля гэтага яму прыйшлося некалькі месяцаў працаваць на салігорскіх шахтах і ў будаўнічай брыгадзе муляроў Наваполацка).

І пазней, нягледзячы на тое што Я. Сіпакоў больш вядомы чытачу як паэт і празаік, ён заўсёды працаваў у літаратурна-мастацкіх часопісах («Маладосць», «Беларусь»), актыўна выступаў у перыёдыцы з нарысамі і эсэ. Адной з першых яго кніг, стаў зборнік нарысаў «Па зялёную маланку» (1971), пазней публіцыстычныя творы аўтара ўвайшлі ў кнігі «Крыло цішыні» (1976), «Спадзяванне на радасць» (1983), «Вецер на даху вагона» (2003). У 2006 г. Я. Сіпаковым выдадзена кніга эсэ «Зялёны лісток на планеце Зямля. Партрэт Беларусі», над якой ён працаваў каля пяці гадоў. Гэта аб'яднаныя агульнай ідэяй расповеды пра розныя аспекты існавання беларусаў у свеце і сусвеце.

Публіцыстыка Я. Сіпакова вельмі разнастайная і тэматычна, і жанрава, тут можна знайсці і падарожныя нарысы, і замалёўкі, і эсэ, і творы мемуарнага плана, і афарыстычныя мініяцюры. Асабліва актыўна аўтар працуе ў публіцыстыцы ў апошняе дзесяцігоддзе. Разам з тым даследчыцкі аналіз творчага набытку пісьменніка часцей закранае дзейнасць савецкага перыяду (артыкулы У. Юрэвіча, С. Ан-

драюка, М. Лобана і інш., манаграфія А. Лысенка «Лінія гарызонта: нарыс творчасці Янкі Сіпакова», выдадзеная ў 1986 г.). Такім чынам, вялікі пласт творчасці пісьменніка застаўся нібы па-за ўвагай крытыкаў. Між тым, Я. Сіпакоў імкнецца не толькі па-філасофску падагульніць пераджытае, але і паспявае адлюстроўваць новыя, характэрныя для постсавецкай Беларусі падзеі і прыкметы часу, даючы ім сваю ацэнку мудрага чалавека і сталага журналіста.

Адметнасці творчай манеры пісьменніка амаль не змяняюцца на працягу дзесяцігоддзяў. Асаблівасці светаўспрымання асобы аўтара, якія выяўляюцца ў тэматычнай скіраванасці публіцыстычнага твора, жанрава-стылёвыя адметнасці, мастацкія сродкі, з дапамогай якіх аўтар выяўляе ідэйныя, эстэтычныя, маральныя погляды, вызначаюць такія рысы публіцыстыкі Я. Сіпакова, як лірызм стылю, псіхалагічная заглыбленасць вобразаў герояў, тактоўнасць і далікатнасць у ацэнках, інтэлігентнасць, якую ён засвоіў ад вясковых продкаў, сялянская мудрасць, што ідзе ад ведання зямлі і яе сакрэтаў.

Ужо першым сваім падарожным нарысам «Паэма дарог», напісаным у 1962 г. разам з А. Клышкам, Я. Сіпакоў заявіў пра сябе як пра ўдумлівага і лірычнага аўтара, здольнага за звычайнымі фактамі і падзеямі ўбачыць адметнае, данесці яго да чытача ў цікавай форме. Дарэчы, тут праявіліся і пэўныя элементы, якія пазней стануць характэрнымі і амаль абавязковымі для яго твораў: аўтарскія адступленні ў выглядзе лірыка-філасофскіх разваг, кампазіцыйная арыгінальнасць тэксту, наяўнасць устаўных канструкцый, часцей за ўсё маналогаў (напрыклад, «Аўтабіяграфія Прыпяці» або «Ліст да сябра»), актыўнае выкарыстанне моўных рэсурсаў – метафар, увасабленняў, іроніі, парцэляцый і інш.

Нарыс быў прыхільна сустрэты крытыкай, пра яго папулярнасць сведчыць і той факт, што «Паэма дарог» у 1977 г. была ўключана ў двухтомную анталогію «Беларускі савецкі нарыс» (дарэчы, у зборнік увайшоў і яшчэ адзін твор Я. Сіпакова – урыўкі з нарыса «Там, дзе Сібір»). Думаецца, такое пазітыўнае стаўленне да першых твораў маладога аўтара абумоўлена развіццём падарожнага нарыса ў сярэдзіне 1960-х гг. у літаратуры ў цэлым. У. Юрэвіч у артыкуле «Ад факта да вобраза» называе «Паэму дарог» першым прыкладам ажыўлення гэтага жанру ў беларускай публіцыстыцы [69, с. 140].

Вобраз часу ў творах Я. Сіпакова – шматаблічны, часам супярэчлівы і неадназначны, што асабліва яскрава выявілася ў публіцыстыцы пачатку 1990-х гг. На пачатку ж сваёй публіцыстычнай дзейнасці ён вельмі ўдала здолеў раскрыць сябе менавіта як аўтар лірыка-псіхалагічнай плыні. Пачатак нарыса «Паэма дарог» адразу

настройвае чытача на ўзнёслы лад: «Чалавек павінен падарожнічаць, ведаць тую зямлю, на якой нарадзіўся, – яе легенды, мовы, дарогі. І ты абавязкова адчуеш гэта на нейкім годзе свайго жыцця і выберашся ў дарогу, каб уразумець, чый ты сын, і глянуць, якая вялікая зямля твая, дзе ёсць прастор і кіламетрам, і думкам, і тваёй душы. Табе праз усё жыццё будзе нешта карцець, нечага неставаць, калі ты не ўбачыў яе. Перш чым чужыя краі – хай у сэрцы тваім будзе Бацькаўшчына» [12, с. 78].

Мусіць, менавіта гэтыя словы і сталі лейтматывам усёй публіцыстыкі Я. Сіпакова, прасякнутай жаданнем зведаць сваю Айчыну і яе людзей.

Галоўнымі ідэямі нарыс скіраваны ў будучыню: аўтары з захапленнем і радасцю пішуць пра заводы Пінска і мазырскія новабудоўлі, палескія буравыя вышкі, якія хутка забяспечаць рэспубліку ўласнай нафтай, і тураўскія археалагічныя раскопкі, меліярацыйныя работы і рачны сплаў руды: «У клопатах, працы, марах праплывае пад крылом яшчэ адзін дзень сямігодкі Надпрыпяцця...» [12, с. 132].

Як адзначае А. Лысенка ў даследаванні беларускага падарожнага нарыса, «ні адзін з пісьменнікаў, відаць, і не ставіў перад сабой мэту спецыяльнага грунтоўнага даследавання адной канкрэтнай праблемы. Па сваёй форме іх нарысы – свабодная гутарка-паведамленне пра ўбачанае і пачутае, аднак паведамленне, пазбаўленае пасіўнай сузіральнасці і абыякавасці. ...Уся складанасць і шматгалоссе жыцця прыцягваюць аўтара і выклікаюць роздум» [39, с. 148].

Гэтымі словамі можна ахарактарызаваць не толькі «Паэму дарог», але і іншыя творы Я. Сіпакова, у якіх заўсёды аўтар разглядае не адзінкавую праблему, але канфліктную сітуацыю, як у «Даверлівай зямлі», або проста сукупнасць з'яў і падзей сучаснасці, аб'яднаных назіраннямі і высновамі аўтара. Як пазначае У. Юрэвіч, «Янка Сіпакоў умее пазнаваць жыццё – пазнаваць, думаючы, і думаць, пазнаючы. Гэта адзнака пісьменніцкай сталасці...» [69, с. 207].

Асоба аўтара ў творах Я. Сіпакова выяўляецца праз аўтабіяграфічнасць, што часта надае яго мастацкай публіцыстыцы рэпартажныя рысы, ён звяртаецца да ўспамінаў. У публіцыстыцы, як і ў паэзіі, прозе, ён смела (асабліва яскрава гэта бачна ў ранніх творах) выкарыстоўвае нехарактэрныя для жанру нарыса элементы. Напрыклад, «Ціхая Акіянія» (1964) разбіта ім на «Дзесяць далёкаўсходніх навел», у якіх аўтар паспеў падлічыць, што «кожны чалавек за сваё жыццё дорыць вечнасці хоць адно кругасветнае падарожжа» (толькі большасць праходзіць яго ў сваім звычайным жыцці, на радзіме); пачуць, як размаўляюць помнікі (маналог сэрца Віталія Банівура) і тужыць па радзіме крэйсер «Вараг», што ляжыць за-

раз на марскіх могілках; пагутарыць з цеплаходам «Орша», які сумуе па далёкай Беларусі, і шмат чаго яшчэ. Галоўная ідэя твора, нягледзячы на яго стылёва-кампазіцыйную складанасць і незвычайнасць, заключаецца ў тым, што менавіта родных мясцін нестае вандроўніку ў падарожжах, і вядомая прадмова Скарыны да кнігі «Юдзіф» пра людзей, што маюць любоў да Радзімы, падагульняе развагі аўтара.

У дачыненні да іншых твораў таксама можна адзначыць, што асаблівасці індывідуальнага мастацкага стылю публіцыста ўзмацняюць ідэйна-зместавую спецыфіку творчасці Я. Сіпакова, у якой увасоблены адметнасці нацыянальнага светаўспрымання і менталітэту – каштоўнасць чалавечай працы, неабходнасць захавання традыцый, павага да мінулага і любоў да продкаў, замілаванне радзімай.

Твор «Зямля перад кветам», напісаны ў 1971 г., – гэта аповед аўтара пра зімовае падарожжа ў Грузію, якую ён таксама параўноўвае з Беларуссю. Невыпадкова ён выбірае такі неспрыяльны для падарожжа час, бо хоча ўбачыць не лубочную краіну, знаёмую па ўражаннях іншых, а рабочую, будзённую, стомленую зямлю, якая напрацавалася за лета і зараз адпачывае: «Не грыміце тады калёсамі і ботамі, пераходзьце на санкі і валёнкі, цішэй ступайце, людзі, зімою – наша з вамі зямля спіць…» [61, с. 223].

Пашана, павага да зямлі, якія прысутнічаюць і ў мастацкай прозе Я. Сіпакова, пранізваюць увесь твор, абвастраючыся ў далечыні ад радзімы пачуццём любові да самой Беларусі, гонарам за яе.

Аўтар апісвае зямлю ў розныя сезоны: яна паўстае перад намі і стомленай, з жаданнем адпачынку ўвосень, і сцішанай, ухутанай снегам, заснуўшай узімку, і ў чаканні вясенняга свята адраджэння жыцця, і буйна квітнеючай, налітай спелым жытам летам. Філасофскія развагі пра чалавека арганічна пераклікаюцца ў творы з цудоўнымі пейзажнымі замалёўкамі.

Сувязь зямлі і чалавека – гэта, бадай, адна з галоўных тэм у творчасці Я. Сіпакова. Можа, таму часта ў нарысах аўтар апісвае працу селяніна-хлебароба, дзякуючы якой гэтая сувязь падтрымліваецца і паглыбляецца. Я. Сіпакоў звяртае ўвагу на такія элементы псіхалогіі і быту вясковага жыцця, як калектывізм працы сялян, іх здольнасць адухаўляць зямлю, адчуваць яе жывой істотай. Дзякуючы тонкім назіранням ён умее зазначыць не толькі прозу будняў, але і адчуць свята, паэзію працы, імкнецца выявіць лепшыя маральныя традыцыі і асновы вёскі, якасці народнага характару, якія ўвабралі вопыт і мудрасць стагоддзяў. Павага да зямлі амаль заўсёды пераклікаецца ў яго з глыбокім шанаваннем продкаў, увагай да іх памяці. На

першым плане ў яго творах не выкарыстанне дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу, а маральнае ўдасканаленне чалавека.

На падставе асабістых назіранняў за знаёмымі з дзяцінства мясцінамі і сваякамі аўтар умее рабіць грунтоўныя абагульненні. Праз асабістыя ўспаміны публіцыста ў яго творах вымалёўваецца лёс цэлага пакалення людзей, дзяцінства і юнацтва якіх былі перарваны вайною, панарама эканамічна і сацыяльна складанага жыцця вёскі 1950–1960-х гг., што засталася амаль без мужчын і на плячах жанчын і рана пасталеўшых падлеткаў вынесла ўвесь цяжар, галечу і голад першых пасляваенных пяцігодак.

Часта Я. Сіпакоў звяртаецца да тэмы Вялікай Айчыннай вайны: вандруючы па розных кутках родных Зубрэвіч, размаўляючы з удовамі-калгасніцамі, што працуюць лепш за іншых у агульнай гаспадарцы, узгадваючы з уласнага ваеннага дзяцінства вобразы забітых за сувязь з партызанамі бацькоў. Разам з тым, не абмяжоўваючыся мінулым, Я. Сіпакоў адзначае і сучасныя станоўчыя змены ў вёсцы, прыкметы новага часу і іх суіснаванне з традыцыямі.

Нарыс «Акно, расчыненае ў зіму» – гэта перш за ўсё аўтарскае разуменне сучаснай вёскі, за якой ён назірае ўжо толькі як гарадскі жыхар, што зрэдку наведвае родны бацькоўскі кут. У «Даверлівай зямлі» публіцыст асэнсоўвае большасць фактаў ад імя старшыні аршанскага калгаса «Бальшавік» Генадзя Шведава. Разам з ім Я. Сіпакоў прасочвае жыццё вясковай гаспадаркі на працягу «чатырох часін года». Твор напісаны ў форме звароту да кіраўніка, якога аўтар даўно і добра ведае, што становіцца зразумелым падчас чытання лірычных адступленняў – успамінаў пра складанае сталенне падлеткаў, калі аўтар і герой нарыса разам вучыліся і працавалі, дапамагаючы родным падымаць разрабаваную фашыстамі зямлю. Нарыс блізкі да аповесцей так званага «старшынёўскага цыкла», гэта не толькі партрэт беларускай вёскі, але і яскравы, дэталёвы вобраз яе кіраўніка, тыповага ў адданасці справе.

Параўноўваючы ліхалецце другой паловы 1940-х і 1970-я гг., аўтар з радасцю заўважае, як карэнным чынам змяніліся стасункі калгаснікаў і кіраўніцтва, умовы аплаты працы. Але такі факт наводзіць Я. Сіпакова і на іншыя, глабальныя вывады пра тое, што грошы мяняюць мікраклімат, псіхалогію вясковага жыцця, якое ўсё больш імкнецца параўнацца з гарадскімі ўмовамі быту. Пытанні, якія ставіць у сваім творы Я. Сіпакоў, сугучныя тым праблемам, пра якія пішуць іншыя публіцысты 1960–1970-х гг., што займаюцца праблемамі вёскі: І. Дуброўскі, А. Сілянкоў, В. Якавенка, В. Палтаран.

У нарысе публіцыст актыўна выкарыстоўвае свой любімы аўтарскі прыём, уплятаючы ў сюжэтную канву твора маналогі самix калгаснікаў («Паўгадзіны з Садковічам», «Некалькі гадзін з заслужанай калгасніцай – цёткай Ганнай», «Дзень з былым старшынёй калгаса»). Такім чынам, героі з розных бакоў асэнсоўваюць праблемы: бюракратызм, п'янства, ад'езд моладзі ў горад, нежаданне працягваць справу бацькоў – і адначасова раскрываюць свае характары, што спрыяе актыўнаму ўспрыняццю твора чытачамі. Лёс вёскі малюецца і асэнсоўваецца Я. Сіпаковым праз лёс яе канкрэтных жыхароў.

Увага аўтара да тэмы Вялікай Айчыннай вайны як адной з галоўных у беларускай публіцыстыцы другой паловы XX ст., прыярытэтнасць вясковай тэматыкі ў яго творах, акцэнт на этычных праблемах грамадства абумоўліваюць шматграннасць вобраза часу, створанага Я. Сіпаковым.

Паэтычнасць светаадчування Я. Сіпакова яскрава праяўляецца амаль ва ўсіх яго творах, асабліва эсэ, якімі ён захапляецца ў другой палове 1980-х гг. Прытчавасць, характэрная для яго мастацкай творчасці, таксама ўплывае на стыль публіцыстыкі Я. Сіпакова («Багатыя і бедныя: дыялог з самім сабою»). Аднак калі нарысы ён часцей ствараў менавіта ў савецкі перыяд творчасці, то выкарыстоўваць іншыя жанравыя формы Я. Сіпакоў актыўна пачынае менавіта падчас перабудовы і на пачатку XXI ст. Аўтар не жадае адставаць ад падзей і перамен, якія адбываюцца ў грамадстве, ён імкнецца дапамагчы асэнсаваць іх шырокай аўдыторыі праз пропаведзь вечных маральных каштоўнасцей і высокіх ідэалаў, праз зварот да народнай спадчыны і пошук адказаў на набалелыя пытанні сучаснасці ў мудрасці мінулых стагоддзяў, праз узвышэнне сапраўднага мастацтва і высокай літаратуры. Гэтаму прысвечаны рубрыкі Я. Сіпакова ў часопісе «Беларусь», якія ён вёў на працягу некалькіх гадоў: «Кніга на роздум» (1997–2004, пад ініцыяламі Я. С.) і «XX стагоддзе ў творах беларускіх мастакоў» (2000–2002).

Рубрыка «XX стагоддзе ў творах беларускіх мастакоў» з'явілася ў часопісе «Беларусь» у 2000 г. Галоўнай мэтай яе стварэння была думка, неаднаразова выказаная Я. Сіпаковым падчас размоў пра знакамітыя постаці беларускай культуры, якія ўвайшлі ў шэраг лепшых творцаў свету: паказаць, як таленавіта і стылёва разнастайна яны адлюстроўвалі, асэнсоўвалі ў сваіх творах неспакойнае, узбуджанае, узрушанае кардынальнымі зменамі ў чалавечым жыцці і яго асэнсаванні, незвычайнае XX ст.

Сярод мастакоў, на чыю творчасць звяртае ўвагу Я. Сіпакоў, як класікі М. Шагал, В. Бялыніцкі-Біруля, Я. Драздовіч і Ф. Рушчыц,

так і нашы сучаснікі – М. Савіцкі, Л. Шчамялёў, М. Купава, Н. Шчасная, В. Шаранговіч. Нягледзячы на тое што вядучы рубрыкі не прафесійны мастацтвазнаўца, ён здолеў паказаць адметнасці аўтарскай творчасці мастакоў праз прызму ўласнага лірычнага ўспрыняцця.

Асэнсаванню падзей сучаснасці ў літаратурных творах служыць рубрыка «Кніга на роздум», мэта якой – скіраваць чытача да лепшых прыкладаў мастацкай прозы, паэзіі і дакументалістыкі, што выдаваліся ў Беларусі на працягу другой паловы 1990 – пачатку 2000-х гг. За ініцыяламі Я. С., якімі пазначаны рэцэнзіі, без асаблівых цяжкасцей угадваецца ўдумлівы і далікатны стыль Сіпакова-крытыка. Аб'ектам яго даследаванняў становяцца вельмі розныя па тэматыцы і жанравай разнастайнасці творы. Гэта і дакументальная аповесць У. Міхнюка «Арыштавацъ у высылцы», прысвечаная А. Дудару; і манаграфія мастацтвазнаўцы М. Кацара «Беларускі арнамент. Ткацтва. Вышыўка»; і рэпрынтнае выданне ў гонар стагоддзя выхаду нарыса А. Багдановіча «Перажыткі старажытнага светаўспрымання ў беларусаў»; і зборнікі дзіцячых твораў «Параненыя душы» (аповеды школьнікаў з чарнобыльскай зоны) і «Казкі дзяцей Беларусі»; і сямнаццаты том «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы»; і рускамоўны «Букварь» А. Клышкі. Я. Сіпакоў умее вылучыць на кніжных паліцах не толькі новыя творы вядомых пісьменнікаў (Я. Брыль «Запаветнае», І. Шамякін «Роздум на апошнім перагоне», С. Алексіевіч «Чарнобыльская малітва»), але і навуковыя манаграфічныя працы, гісторыка-дакументальныя зборнікі («Памяць. Орша. Аршанскі раён»), новыя кнігі публіцыстыкі («Письма к живым. Дайджест газеты "Набат"»).

Я. Сіпакоў заўсёды выбірае актуальныя, праблемныя тэмы: чарнобыльская тэма, захаванне народнай культуры і спадчыны, вяртанне ў літаратуру імён рэпрэсіраваных у савецкі час пісьменнікаў – тэматычны абсяг яго рэцэнзій дастаткова разнапланавы.

Праз рэцэнзіі Я. Сіпакова (а іх выйшла ў часопісе «Беларусь» больш за сем дзясяткаў) можна ўбачыць не толькі лёс асобных айчынных кніг, але і прасачыць лёс самога грамадства, яго гісторыю і культуру, страты і здабыткі беларускага народа, яго душу і прыгажосць.

Паказальным у адлюстраванні падзей і стварэнні вобраза часу перыяду перабудовы можна назваць эсэ «Багатыя і бедныя: дыялог з самім сабою». Твор напісаны ў форме размовы-спрэчкі дзвюх асоб. Абедзве яны прадстаўляюць пазіцыю аўтара, які не заўсёды можа вызначыць арыенціры ў складанасці сучаснага жыцця. Такім чынам, Я. Сіпакоў хоча сам для сябе вызначыць прычыны рэзкай дыферэнцыяцыі грамадства. На яго погляд, мэтай перабудовы было

зусім іншае. Твор з'яўляецца характэрным прыкладам публіцыстыкі пасляперабудовачнага перыяду, калі амаль усе аўтары апанаваны разгубленасцю, адсутнасцю арыенціраў на будучыню, каштоўнасцей, дзякуючы існаванню якіх і можна пераажыць складаны этап фарміравання якасна новага беларускага грамадства. Прыкладам пошуку такіх прынцыпаў і ідэалаў, на нашу думку, можа служыць і цыкл эсэ Я. Сіпакова, над якім ён пачынае працаваць на пачатку 2000-х гг.

Рубрыка «Партрэт Беларусі» з'явілася на першай старонцы – традыцыйным для рэдактарскай калонкі месцы – у часопісе «Беларусь» на пачатку 2002 г. Аўтар рубрыкі Я. Сіпакоў так патлумачыў мэту яе з'яўлення: «Мы мяркуем напісаць партрэт Беларусі. Найперш – для саміх сябе. А таксама для тых, хто мала ведае пра нашу краіну і, магчыма, нават не ўяўляе, у якім месцы зямнога шара мы знаходзімся, жывём, працуем.

Мы хочам, каб кожны, хто будзе сачыць за рубрыкаю "Партрэт Беларусі", нават не пабываўшы ў нас, мог усклікнуць: "Якая ж гэта прыгожая і жыццядайная зямля і якія цудоўныя і мудрыя людзі жывуць на ёй!"».

Кожны з нас мае радасць ганарыцца, што належыць менавіта да такога народа і да такой зямлі» [55, с. 1].

Большасць эсэ мае лаканічныя, сціслыя загалоўкі, якія выяўляюць галоўны сэнс твораў: «Наша мова», «Нашы грошы», «Наша ежа», «Нашы песні», «Нашы замкі» і г. д. Я. Сіпакоў закранае самыя розныя бакі жыцця беларусаў, і яго творы нагадваюць па сваёй змястоўнасці і інфарматыўнасці энцыклапедычныя разгорнутыя артыкулы. Разам з тым ад навуковых твораў іх адрознівае жывая, эмацыянальная, экспрэсіўная мова.

У эсэ Я. Сіпакоў выступае не толькі як таленавіты пісьменнік, але і як выдатны знаўца беларускай культуры, фальклору. Ён выкарыстоўвае народную памяць, выклікаючы з нябыту страчаныя ў стагоддзях словы і з'явы. Работа над гэтымі творамі, безумоўна, патрабавала набыцця вузкаспецыяльных ведаў, працы з архіўнымі дакументамі ў бібліятэках, таму яго эсэ выступаюць як найбольш сканцэнтраваныя, абагульненыя звесткі па тых ці іншых агульназначных для існавання нацыі аспектах.

Між тым большасць твораў пабудавана не толькі на аснове агульнавядомых ісцін, аўтар заўсёды імкнецца ўбачыць новы ракурс у раскрыцці пэўнай тэмы. Так, вада для яго – гэта не толькі рэкі, азёры, балоты, снег, дождж і лёд, але і калодзежы беларусаў, святыя крыніцы (прошчы), каля якіх у даўніну будавалі храмы.

У эсэ «Нашы камяні» аўтар спалучае звесткі пра матэрыяльную і духоўную культуру, таму што для беларуса аднолькава важныя

і скандынаўскія валуны, што прыйшлі з апошнім ледніком і сталі неад'емнай часткай навакольнага пейзажу, і камяні-сімвалы, святыні, такія як Барысавы валуны або талеркі Вітаўта. Тут жа прыгадваюцца і адносна малады музей камянёў, што існуе ў Мінску з 1985 г., і прыказкі, прымаўкі пра камяні. Такім чынам, аўтар стварае абагульненую карціну пра з'яву, вынесеную ў загаловак, і яе існаванне ў беларускай гісторыі і сучаснасці.

У эсэ, прысвечаных Беларусі, Я. Сіпакоў завострывае ўвагу перш за ўсё на тым, што характэрна менавіта для нашага грамадства, прыроды, людзей. Апісваючы кліматычныя асаблівасці ў творы «Нашы вятры, дажджы, маразы», аўтар прыводзіць шматлікія прыклады з так званай «народнай метэаралогіі» – прыкметы, звязаныя з надвор'ем, узгадвае напалову забытыя азначэнні прыродных з'яў: дажджы-каплюны, церабуны, грыбасеі; вераб'іныя, або рабінавыя, ночы; вясновыя чаромхавыя халады, піша пра адметнасці стылю беларускіх мастакоў-пейзажыстаў Л. Шчамялёва, В. Бялыніцкага-Бірулі. У гэтым эсэ Я. Сіпакоў выступае як уважлівы назіральнік за сучаснасцю, аналізуе прыродныя стыхіі (ураганы) апошніх гадоў і тыя пашкоджанні, што яны нанеслі народнай гаспадарцы рэспублікі.

Сухія навуковыя даныя ён умее ператварыць у метафару дзякуючы паэтычнасці свайго светаадчування, інтрыгуючы чытача першымі словамі фразы: «Нашы рэкі часцей за ўсё бяруць пачатак не на зямлі, а ў небе». Тлумачэнне такога арыгінальнага факта дастаткова простае, як зразумела далей: «Іх нараджаюць хмары. Ападкі ў выглядзе дажджу і снегу, калі ён растае, становяцца вытокамі нашых рэк і рэчак» [56, с. 1] – але аўтарскі, арыгінальны падыход у асэнсаванні нават такіх, здавалася б, простых рэчаў відавочны.

Эсэ, прысвечаныя духоўнаму жыццю, культуры, больш скіраваны на адлюстраванне мінулага, аднак ёсць нямала твораў, дзе фактычнай асновай для публіцыста служыць перш за ўсё рэчаіснасць. Так, «Нашы дарогі» – гэта эсэ, у якім узгадваюцца ўсе трасы і магістралі Беларусі, цэнтральнаеўрапейскай краіны, якая звязвае Расію і Захад з дапамогай аўтамабільных, чыгуначных, паветраных шляхаў, газа- і нафтаправодаў, шматлікіх мастоў і рачных артэрый. Не забывае аўтар і пра іншыя важныя дарогі Беларусі, напрыклад метро ў Мінску або падземныя дарогі ў салігорскіх шахтах. Заканчвае Я. Сіпакоў эсэ словамі, якія вельмі выразна адлюстроўваюць як галоўныя рысы менталітэту беларускай нацыі (адкрытасць, шчырасць, добразычлівасць), так і асноўную скіраванасць міжнароднай палітыкі краіны: «Беларусь, якая знаходзіцца ў самым цэнтры Еўропы, асуджана быць краінай гасцінных

дарог. Каб людзі з чыстай душою і светлым сумленнем маглі вольна ісці і ехаць па іх, куды ім захочацца» [58, с. 1].

Сучаснасць і мінулае цесна пераплецены і ў эсэ «Нашы гарады і мястэчкі». Пачынаючы з даўняй легенды пра паходжанне назвы горада Браслава, аўтар разам з краінай праходзіць усю гісторыю існавання беларускіх гарадоў, ад старажытных Полацка і Віцебска да маладых Салігорска, Новалукомля, Белаазерска, што з'явіліся на нашай карце ўжо ў савецкі час.

Не менш значнымі з'яўляюцца эсэ з цыкла «Партрэт Беларусі», якія распавядаюць пра духоўнае жыццё нашай нацыі, яе гісторыю і культуру на працягу двух апошніх тысячагоддзяў. Адным з першых сярод іх быў надрукаваны твор «Наша мова», што, несумненна, сведчыць пра павагу аўтара да роднага слова, пра агульнаграмадскую значнасць існавання і развіцця беларускай мовы. Я. Сіпакоў выказвае даволі арыгінальную і вартую навуковага даследавання гіпотэзу пра тое, што менавіта шматвяковая забарона ўжывання беларускай мовы спрыяла развіццю фальклору, які лічыцца, па яго словах, найбагацейшым у свеце.

Блізкія, сугучныя гэтаму твору эсэ «Нашы песні», «Нашы святы», а таксама «Нашы святыні і сімвалы», у якіх Я. Сіпакоў расказвае пра «жніўныя, касецкія, праполачныя, дажынкавыя, талочныя, веснавыя і іншыя працоўныя песні гаспадарчага календара», пра калыханкі і народных спевакоў (спявух, пеюноў, пяюлляў), Дзяржаўную акадэмічную харавую капэлу пад кіраўніцтвам Р. Шырмы і ансамбль «Песняры», суіснаванне ў беларускай культуры язычніцтва і хрысціянства, старажытнае свята Пахаванне стралы, прысвечанае першай веснавой маланцы, аналагаў якому няма ў свеце, і галоўныя сімвалы Беларусі, сярод якіх не толькі дзяржаўныя – герб, гімн, сцяг, але і спрадвечныя народныя – Зямля, мова, Сафійскі сабор, Няміга, зубр, бусел, васілёк, міфалагічны сімвал папараць-кветка. Тут, як і раней, Я. Сіпакоў здзіўляе чытача парадаксальным вывадам: «...то ж добра, што ўкралі наш Жыватворны Крыж (маецца на ўвазе крыж св. Ефрасінні Полацкай. – *Аўтар*)!

Згублены крыж – гэта наша надзея.
Знойдзены – гэта наша святыня.
Будзем жа шукаць, каб знайсці яе!

Бо наша краіна, наша Беларусь будзе жыць, пакуль ёй ёсць што шукаць і ёсць што знаходзіць!» [59, с. 46].

Аўтар верыць у будучыню беларускай дзяржавы і народа. Пра гэта сведчаць, напрыклад, яго развагі ў эсэ «Наша адзенне», дзе

ён прасочвае гісторыю развіцця айчыннай моды ад першых узораў жаночага адзення да сённяшніх поспехаў беларускіх прадпрыемстваў «Элема» і «Мілавіца», мадэльнага агенцтва С. Варламава і штогадовага конкурсу «Млын моды». Перш за ўсё яго творы скіраваны на абуджэнне пачуцця гонару за нашу краіну, цікавасці да яе гісторыі і жадання ўдзельнічаць у яе сучасных справах, прыўносіць свой уклад у яе годнае існаванне ў свеце. Аднак нельга сцвярджаць, што Я. Сіпакоў не заўважае праблем і хібаў сучаснага грамадства, дэманструючы толькі яго дасягненні, не звяртаецца да балючых падзей у гісторыі нашай дзяржавы. Так, распавядаючы пра беларускія замкі, ён з горыччу канстатуе, што большасць з іх не захавалася да нашых дзён, і «жывуць яны і тады, калі ад іх нічога не засталося, толькі ў нашай памяці» [57, с. 1]. Апісваючы гісторыю войн на беларускай зямлі, звяртае ўвагу на, здавалася б, дробную дэталь, за якой паўстае гора тысяч беларускіх сем'яў, страціўшых родных падчас Вялікай Айчыннай вайны: калі б можна было аддаць па хвіліне маўчання за кожнага загінуўшага беларуса, нам прыйшлося б маўчаць 38 гадоў. Я. Сіпакоў узгадвае і чарнобыльскую трагедыю, якая прымусіла закопваць у зямлю свае хаты многіх жыхароў Беларусі. Апошнія абзацы эсэ «Нашы хаты», напісаныя ў характэрнай для яго лірычнай манеры, прасякнуты тугой і болем за страчанае: «Хата, хатачка, свяцёлка, хаціначка, святліца, хатанятка. Шырокія вокны, сасновыя бёрны – яшчэ пахнуць смалою. Дыхтоўны ганак. Маці на ім – яшчэ маладая і прыгожая. На двары бацька запрагае каня... Сонца, неба і птушкі – яны спяваюць.

І ты перад хатаю – маленькі, але ўжо крыху вышэй за траву. І цялятка, нагрэтым ад сонца лобікам – лёгенька так бадзецца ў твой жывоцік – нібыта запрашае пагуляць з ім...

Колькі пакаленняў беларусаў менавіта такою бачылі праз стагоддзі сваю хату!

Бачылі толькі жывою...» [60, с. 175].

Мастацкая публіцыстыка Я. Сіпакова ўключае афарыстычныя замалёўкі, мініяцюры. Аўтар нярэдка выступае як эксперыментатар, актыўна выкарыстоўваючы жанры, якія не вельмі часта сустракаюцца ў беларускай журналістыцы.

Падагульняючы аналіз творчасці Я. Сіпакова, можна сцвярджаць, што асоба аўтара ў яго мастацкай публіцыстыцы вымалёўваецца як постаць патрыёта. Усе творы гэтага пісьменніка – гэта прыклад лірычнага адлюстравання прыгажосці Беларусі. У яго публіцыстычнай дзейнасці знайшлі адлюстраванне галоўныя тэндэнцыі развіцця мастацкай публіцыстыкі на працягу другой паловы XX ст. Ён актыўна выкарыстоўваў падарожны нарыс, паг-

лыбляючы лірыка-псіхалагічную плынь у беларускай публіцыстыцы. Вясковая тэматыка – адна з галоўных у творах Я. Сіпакова, яна базіруецца на аўтабіяграфічным вопыце, і разам з тым у нарысах аўтар падае агульную карціну пасляваеннага калгаснага жыцця. Вобраз часу, створаны пісьменнікам у нарысах і эсэ, сканцэнтраваны перш за ўсё на асэнсаванні жыцця беларускай вёскі, яе праблем і дасягненняў. Я. Сіпакоў у сваёй публіцыстыцы, як і ў мастацкай творчасці ўвогуле, найбольш яскрава выяўляе рысы, характэрныя беларускай ментальнасці, стварае тыповыя вобразы беларускага селяніна, працягвае традыцыі беларускай літаратуры, закладзеныя Я. Коласам, К. Чорным, І. Мележам. Асэнсоўвае ён і падзеі, праблемы сучаснага грамадства, з'яўляючыся вядучым пастаянных рубрык у часопісе «Беларусь» на мяжы XX–XXI стст.

Значным укладам у мастацкую публіцыстыку апошніх гадоў з'яўляецца эсэістычны цыкл «Партрэт Беларусі» – мастацкая энцыклапедыя сучаснага жыцця краіны. Гэта спроба ўсебаковага асэнсавання гісторыі і культуры, сучаснасці беларускай дзяржавы і нацыі, энцыклапедычны па змесце і высокамастацкі па форме цыкл твораў, які смела можна параўнаць з «Зямлёй пад белымі крыламі» У. Караткевіча па значнасці ў беларускай літаратуры. Разам з тым творы Я. Сіпакова адрозніваюцца большай свабодай у выяўленні аўтарскай думкі, якая стала магчымай дзякуючы змене саміх рэалій рэчаіснасці, што адбыліся ў Беларусі за апошнія дзесяцігоддзі. З'яўленне такога цыкла эсэ, безумоўна, выклікана актуальнасцю тэм, якія раскрываюцца ў творах, асабліва на фоне сучаснага актыўнага пошуку і вызначэння беларускім грамадствам нацыянальнай ідэі нашай краіны. Важнасць з'яўлення твораў такога плана менавіта на пачатку новага тысячагоддзя тлумачыцца і тым, што галоўнай іх ідэяй з'яўляецца скіраванасць на захаванне нацыянальных беларускіх адметнасцей, што ў кантэксце імкнення сусветнага грамадства да глабалізацыі і інтэграцыі ў палітычным, эканамічным, ваенным аспектах толькі падкрэслівае ўнікальнасць культуры кожнай дзяржавы, яе лепшыя гістарычныя набыткі і магчымасць укладу ў скарбніцу агульначалавечай цывілізацыі.

Публіцыстыка Я. Сіпакова храналагічна ахоплівае некалькі дзесяцігоддзяў. У яго творах у розныя перыяды на першы план выходзяць такія вызначальныя тэмы беларускай публіцыстыкі, як антываенная, вясковая, нацыянальна-адраджэнская. Менавіта на прыкладзе гэтага аўтара можна прасачыць эвалюцыю вобраза часу ў публіцыстычных творах другой паловы XX ст. У публіцыстычнай творчасці Я. Сіпакова спалучаюцца моцны журналісцкі пачатак і

мастацкая вобразнасць. Яго нарысы – узор трансфармацыі аўтабіяграфічных успамінаў у самастойныя публіцыстычныя творы, для якіх уласціва дасканалае выкарыстанне фактычнага матэрыялу, аператыўнае рэагаванне на грамадскія падзеі, чалавеказнаўчы пачатак, што праяўляецца ў аўтарскай неабыякавасці да героя. Гуманістычная напоўненасць, псіхалагічны пачатак у асэнсаванні не толькі канкрэтных лёсаў, але і праблем грамадства, лірызм стылю Я. Сіпакова працягваюць традыцыі, закладзеныя савецкай і беларускай школай нарысістыкі.

## Гуманістычны змест публіцыстыкі Алеся Адамовіча

Уплыў светапогляду асобы аўтара на стварэнне вобраза часу ў публіцыстычным творы паказальна выяўляецца ў артыкулах Алеся Адамовіча. У адрозненне ад Я. Сіпакова, У. Караткевіча і, напэўна, большасці беларускіх пісьменнікаў увогуле, ён прыйшоў у публіцыстыку не з журналістыкі або мастацкай прозы (хоць як пісьменнік ён выступіў у друку раней, чым публіцыст, – з дылогіяй «Вайна пад стрэхамі»), а з літаратурнай крытыкі. Першапачатковая засяроджанасць А. Адамовіча менавіта на праблемным асэнсаванні працэсаў беларускай літаратуры (ён стаў самым маладым доктарам навук у СССР тагачаснага перыяду) абумовіла такія характэрныя рысы яго публіцыстыкі, як яе навуковая аснова, часты зварот да спецыяльнай літаратуры, выкарыстанне меркаванняў кампетэнтных спецыялістаў, глыбокі аналіз, у выніку чаго праблема даследавалася ўсебакова і даваліся канкрэтныя прапановы па яе вырашэнні.

Публіцыстычныя творы (як і мастацкую прозу) А. Адамовіч пісаў пераважна на рускай мове, у адрозненне ад беларускамоўнай крытыкі. Таму большасць яго артыкулаў можна сустрэць у айчынным друку толькі ў перакладах, нават не заўсёды аўтарызаваных. Сам ён тлумачыў такую пазіцыю (у прыватнасці, у дачыненні да сваіх аповесцей і раманаў) тым, што недасканала валодаў глыбіннымі рэсурсамі беларускай мовы (бо рос будучы пісьменнік пераважна ў рускамоўным асяроддзі). Гэта неаднаразова выклікала абвінавачанні з боку некаторых прадстаўнікоў літаратурнага і калялітаратурнага асяроддзя ў адрас пісьменніка і ставілася яму ў папрок. Прынамсі, асоба А. Адамовіча ў гэтым сэнсе вельмі блізкая сучаснаму грамадству Беларусі з яго білінгвістычнай сітуацыяй.

Аднак у публіцыстыцы А. Адамовіч выкарыстоўваў менавіта рускую мову не толькі па гэтай прычыне. Дзякуючы трывалым су-

вязям з Масквой, дзе ён працаваў і вучыўся, і цэнтральным выданням – «Новому миру», «Знамени», «Литературной газете» і інш., ён меў выхад на ўсесаюзную аўдыторыю і нярэдка пісаў артыкулы менавіта ў надзеі на іх публікацыю ў савецкай сталіцы. Так, напрыклад, першае слова ў абарону пацярпелых ад чарнобыльскай аварыі рэгіёнаў сказаў менавіта А. Адамовіч у артыкуле «Честное слово, больше не взорвется...» у «Новом мире», № 9, 1988 г. (пазней ён быў перакладзены на беларускую мову і надрукаваны пад назвай «Далібог, больш не выбухне...» у зборніку «Зона бяды», выдадзеным у 1990 г. у Мінску). А. Адамовіча можна з упэўненасцю назваць пісьменнікам не толькі Беларусі, але і Савецкага Саюза, шырока вядомым за мяжой. Такога рэзанансу на свае творы не меў, бадай, ніхто з беларускіх літаратараў 1970–1990-х гг. Увогуле, літаратурная і грамадская дзейнасць А. Адамовіча адбывалася ў роўнай ступені ў Беларусі, дзе ён абараніў доктарскую дысертацыю (1962), атрымаў званне прафесара і члена-карэспандэнта АН БССР (1980), працаваў у Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы АН БССР (1954–1962 і 1967–1987), і ў Маскве, дзе ён скончыў Вышэйшыя сцэнарныя курсы (1964), узначальваў Усесаюзны навукова-даследчы інстытут кінематаграфіі (1987–1994), з'яўляўся членам Саюза пісьменнікаў (1957), Саюза журналістаў (1967) і Саюза кінематаграфістаў (1977) СССР (менавіта ад апошняга А. Адамовіч выбіраўся народным дэпутатам Вярхоўнага Савета Савецкага Саюза ў 1989–1992 гг.), удзельнічаў у рабоце гісторыка-асветніцкага таварыства «Мемориал» (з 1989) і выдаў большасць сваіх кніг.

Не ў апошнюю чаргу падтрымка А. Адамовіча сталічнымі пісьменнікамі і выдаўцамі (у асобе А. Твардоўскага, які ўзначальваў «Новый мир», і інш.) абумоўлена была тэматычным абсягам публіцыстыкі гэтага пісьменніка. Галоўнай ідэяй яго твораў было недапушчэнне новай вайны на планеце. Гэта, безумоўна, не ў апошнюю чаргу было звязана з уласным жыццёвым вопытам. Вайна, якую пісьменнік пабачыў падлеткам-партызанам, стала галоўным арыенцірам як яго ўнутранага жыцця, асэнсавання сябе і іншых у свеце, так і яго літаратурнай дзейнасці. У рэчышчы антываеннай публіцыстыкі працавалі такія пісьменнікі, як В. Быкаў, І. Мележ, Б. Сачанка, А. Васілевіч і інш. Аднак менавіта А. Адамовіч у сваёй творчасці мэтанакіравана распрацоўваў гэту тэму, прычым нават не ў нацыянальным, але сусветным маштабе.

У асобных артыкулах філасофска-сацыяльная праблема вайны і міру разглядалася А. Адамовічам у канкрэтных гістарычных, эканамічных, экалагічных аспектах. Так, адным з кірункаў, які ён даследаваў у сваіх творах, было супрацьстаянне двух полюсаў

халоднай вайны. Вывады, зробленыя аўтарам аб немагчымасці працягвання адкрытага канфлікту і неабходнасці кансэнсусу дзеля захавання чалавечай цывілізацыі ўвогуле, асабліва актуальныя ў сённяшнім свеце.

Не менш важнай тэмай для А. Адамовіча з'яўляецца ядзерная праблема. Прынамсі, яна лагічна дапаўняе сказанае вышэй. У тым выпадку, калі хоць адна дзяржава валодае ядзернай зброяй і не выключае верагоднасці яе выкарыстання супраць знешняга ворага, пад пытаннем застаецца далейшае існаванне чалавецтва.

Калі на пачатку 1980-х гг. А. Адамовіча хвалюе выкарыстанне ядзернай энергіі ў ваенных мэтах, то пасля выбуху на ЧАЭС у 1986 г. акцэнт пераносіцца на небяспечнасць выкарыстання магчымасцей атама ў мірным жыцці.

Адрозненне публіцыстычнай дзейнасці А. Адамовіча ад іншых беларускіх пісьменнікаў яшчэ і ў яе эфектыўнасці, выніковасці. Яму мала было толькі выступіць у друку (нават усесаюзным), агучыць праблему, прыцягнуць да яе ўвагу грамадскасці. Гэту рысу асобы аўтара, адметнасць яго таленту слушна заўважыў В. Каваленка: «Яго, бадай што, можна назваць як публічна мяцежны ці публічна стваральны... Беларускай літаратуры заўсёды не хапала трыбуннасці, закліку, але закліку не агульнага, а канкрэтна ўсвядомленага, арыентаванага на вырашэнне зусім пэўных грамадскіх задач» [29, с. 289].

Патрэбны былі канкрэтныя дзеянні па вырашэнні найважнейшых праблем – і ён пісаў у ЦК КПСС, М. Гарбачову, дамагаўся сустрэчы, патрабаваў неадкладнай, у тым ліку матэрыяльнай, дапамогі (у выпадку з чарнобыльскай трагедыяй), ездзіў з дакладамі і выступленнямі ў Японію і ЗША, удзельнічаў у рабоце Камітэта савецкіх вучоных у абарону міру і супраць ядзернай пагрозы.

Сам ён так ацэньваў сваю публіцыстыку: «Пісаў іх (артыкулы, выступленні, крытычныя эсэ) з тым жа напружаннем і бясконцым перапісваннем, як і прозу. Не, ніколі, здаецца, не пускаў артыкулы, выступленні, як нешта «буфернае», паперадзе прозы, каб ёй затым прайсці, пражыць больш бяспечна» [3, с. 200].

Грамадзянская пазіцыя публіцыста вызначаецца А. Адамовічам перш за ўсё ва ўсведамленні адказнасці асобы аўтара за лёс чалавецтва і актыўным удзеле ў вырашэнні агульнацывілізацыйных, глабальных, як сталі называць іх ужо пазней, праблем вайны і міру і экалагічнай сітуацыі. Ён прапагандаваў ідэю аб тым, што кожны можа пазнаць праўду пра магчымасць знікнення, самагенацыду чалавецтва і тады зразумее, што павінен асабіста дзейнічаць, каб не дапусціць ядзернай вайны. Невыпадкова Літаратурная прэмія ў галіне публіцыстыкі, заснаваная Беларускім ПЭН-цэнтрам у

1994 г., атрымала менавіта імя Алеся Адамовіча. Як пісаў Д. Гранін, «…у Адамовіча талент пісьменніка злучаўся з талентам трыбуна, публіцыста, палітыка рэальнай справы. У яго гэта таксама грунтавалася на высокай маральнай аснове, паводле яе і дапушчальна параўноўваць яго з такой выключнай з'явай, як А. Сахараў» [22, с. 17].

Пры знаёмстве з асобай А. Адамовіча праз яго літаратурную і грамадскую дзейнасць, пры імкненні ўсебакова прааналізаваць яго творчасць, магчыма сутыкненне з праблемай жанравага і нават шырэй – тыпалагічнага азначэння яго кніг. «Я з вогненнай вёскі…», «Блакадную кнігу», «Карнікаў», «VIXI», «Хатынскую аповесць» нельга, безумоўна, аднесці да ўласна публіцыстыкі. Аднак публіцыстычны элемент у гэтых творах настолькі моцны, што, магчыма, ён пераўзыходзіць іх мастацкую вартасць. Пранікненне публіцыстычных элементаў у прозу было ўвогуле характэрна для савецкай літаратуры 1980-х гг. (творы В. Распуціна, В. Астаф'ева, Ч. Айтматава, В. Быкава і інш.). У А. Адамовіча публіцыстычны пачатак яшчэ больш моцны, яго кнігі, заснаваныя на ўспамінах рэальных людзей і статыстычных дакументах, цытаванні твораў ідэолагаў нацысцкай Германіі, знаходзяцца на сумежжы дакументалістыкі, мемуарыстыкі, публіцыстыкі, мастацкай літаратуры і, безумоўна, з'яўляюцца новым тыпам літаратурнай творчасці, што ўжо адзначалі некаторыя даследчыкі.

Менавіта ў творчасці А. Адамовіча, бадай, як ніякага іншага беларускага пісьменніка другой паловы XX ст., вобраз часу адлюстраваны ва ўсёй складанасці і супярэчлівасці, якімі характарызавалася грамадскае жыццё 1960–1990-х гг. Асэнсаванне сацыяльных, палітычных, маральных і агульнафіласофскіх ідэй сучаснасці вызначала грамадзянскія ўчынкі А. Адамовіча і кірункі яго публіцыстычнай творчасці. Так, ён адмовіўся падпісаць ліст з асуджэннем А. Сіняўскага і Ю. Даніэля, што каштавала яму месца ў МДУ, дзе ён чытаў курс беларускай літаратуры ў 1962–1964 гг.; падтрымліваў «апальнага» рэжысёра Э. Клімава, з якім яны сумесна працавалі над фільмам «Ідзі і глядзі» па матывах «Хатынскай аповесці» і «Карнікаў»; удзельнічаў у абароне Белага дома ў Маскве падчас жнівеньскага путчу 1991 г., і інш. «Ён быў не толькі сумленнем нацыі, а – сумленнем часу. І хто ведае, калі б не сышлі заўчасна ад нас Алесь Адамовіч і Андрэй Сахараў, як бы мы сёння жылі. Ва ўсякім выпадку, такой катэгорыі, як «сумленне», у нас было б болей…» [33, с. 7].

Першыя публіцыстычныя артыкулы А. Адамовіча ў перыёдыцы адносяцца да пачатку 1970-х гг. і прысвечаны тэме Вялікай Айчын-

най вайны. Як прызнаваўся пісьменнік у аўтабіяграфіі «Дадумваць да канца. Аўтабіяграфія-85», «кожны, хто піша, ведае той галоўны штуршок у жыцці, які зрабіў яго літаратарам... Для мяне і многіх маіх аднагодкаў – Айчынная вайна і XX з'езд. Два штуршкі – два "эпіцэнтры"» [3, с. 201].

У 1968 г. А. Адамовіч напісаў сцэнарый дакументальнага фільма «Хатынь, 5 километров», з якога пазней і пачалася так званая «магнітафонная літаратура» гэтага аўтара. У 1970 г. была выдадзена публіцыстычна-філасофская «Хатынская аповесць», твор шмат у чым аўтабіяграфічны: у думках і маналогах сляпога ветэрана вайны Фларыяна Гайшуна пазнаецца асоба і пазіцыя самога аўтара. Сюжэт аповесці канцэнтруецца вакол успамінаў галоўнага героя пра партызанскае мінулае, філасофскай палемікі з прадстаўніком наступнага пакалення, аспірантам Бокіем. Нягледзячы на атрыманыя станоўчыя водгукі і рэцэнзіі, А. Адамовіч адчуваў патрэбу ў далейшым паглыбленні ў ваенную тэму, звяртаючы ўвагу на тое, што цэлы пласт народнай памяці застаецца нячутным і нябачным для свету.

У «Маладосці» з'яўляюцца ўрыўкі з «Я з вогненнай вёскі...» (1973–1974) і «Блакаднай кнігі» (1977). Як адзначалася пазней у прадмове да першага выдання, «Я з вогненнай вёскі...» – «дакументальная трагедыя, кніга-памяць, жывы голас людзей, што былі спалены, забіты разам з сям'ёй, разам са сваёй вёскай, і якія – жывуць» [8, с. 5]. Каштоўнасць твораў не толькі ў запісах саміх сведкаў трагедыі беларускіх вёсак і Ленінграда, але і ў асэнсаванні аўтарам іх успамінаў. А. Адамовіч саўдзельнічае ў размове, выступае не толькі як назіральнік, бо сам быў сведкам ваенных падзей. Асэнсоўваючы вынікі дзеянняў акупантаў, пісьменнік робіць вывады пра жахлівасць вайны на беларускай тэрыторыі: «У нямецкага фашызму былі свае маскі. Часовыя. Адна – для Францыі. Другая – для Нарвегіі, трэцяя – для бельгійцаў ці чэхаў... Сапраўдны, без маскі выскал нямецкага фашызму бачылі ў Хатынях... у Хатынях не проста забівалі, як і ў тых дзевяці тысячах вёсак, што фашысты спалілі ў Беларусі. У Хатынях яшчэ і "эксперыментавалі". І пісалі справаздачы "наверх", каб там маглі "абагульніць вопыт", як спакойней і зручней расстрэльваць вёскі, як паводзяць сябе ахвяры ў тых альбо іншых зададзеных умовах» [6, с. 177].

Але такімі ахвярамі беларускі народ дапамог Еўропе пазбегнуць канчатковага заняволення Гітлерам, гэтак жа, як дзесяцігоддзямі пазней, прыняўшы на сябе радыеактыўныя аблокі, ён выратаваў астатнія дзяржавы ад чарнобыльскай трагедыі. Галоўную ж сваю задачу аўтар на той момант бачыў у тым, каб не дапусціць знікнення народнай памяці пра гэта, каб захаваць «невыносную тэмпературу

чалавечага болю». Беларускія Хатыні ён параўноўвае з гарадамі Японіі, што пацярпелі ад атамнай бомбы: «...больш за восемдзесят тры тысячы чалавек забіта, згарэла ў беларускіх Хатынях.

Наша беларуская Хірасіма!

Які ж гэта быў выкід у неба болю чалавечага, да якіх сфер касмічных ён дастаў!» [3, с. 211].

Новы тып дакументальна-публіцыстычных твораў даследчык А. Лысенка называе «рэпартажам падвойнага зроку», у якім «узнаўленне факта адбываецца на перакрыжаванні сучаснага і мінулага ўспрыняцця яго сведкамі, удзельнікамі падзей» [40, с. 177]. На гэтую ж асаблівасць творчасці А. Адамовіча звяртае ўвагу ў зборніку матэрыялаў «Алесь Адамовіч і час» доктар філалогіі з Германіі Д. Шпрынгман, вылучаючы сярод творчых прынцыпаў пісьменніка двухбаковы падыход у адлюстраванні рэчаіснасці, бінакулярнасць у вырашэнні мастацкіх задач, дваістасць часавай катэгорыі (выкарыстанне двух часавых пластоў, дзе сучаснае выглядае як мінулае, якое працягваецца) [9, с. 33]. Такім чынам, вобраз часу ў публіцыстыцы А. Адамовіча ствараецца з улікам філасофскага асэнсавання асобай аўтара не толькі канкрэтных фактаў рэчаіснасці, але іх сувязі з падзеямі іншых перыядаў гісторыі.

Кніга «Я з вогненнай вёскі...» (выйшла ў 1975 г.) стала падагульненнем, вынікам трохгадовай работы А. Адамовіча сумесна з У. Калеснікам і Я. Брылём, падчас якой яны ездзілі з магнітафонамі і фотаапаратамі па ўсіх кутках Беларусі (пабывалі ў 147 вёсках 35 раёнаў рэспублікі). Ужо напрыканцы 1970-х гг. ён пачынае працаваць разам з Д. Граніным над будучай «Блакаднай кнігай».

Падагульненнем літаратурна-крытычнай дзейнасці А. Адамовіча на працягу дзесяцігоддзя стала яго манаграфія «Літаратура, мы і час» (1979), дзе ў артыкуле «Здалёк і зблізку» пісьменнік, аналізуючы развіццё беларускай літаратуры ў кантэксце сусветнай, адзначыў: «Тое, што Беларусь ведае пра вайну і можа расказаць чалавецтву, – тое ведаць страшна. Але забыць гэтага не мае права ніхто, забыць гэта – небяспечна. Асабліва ў век “атамных магчымасцей”, якія спакушаюць і будуць спакушаць патэнцыяльных “фюрэраў”» [4, с. 213].

Так паступова вызначаўся новы кірунак у літаратуры і публіцыстыцы, які пачаў распрацоўваць і асэнсоўваць беларускі пісьменнік А. Адамовіч, – атамнае ўзбраенне, галоўным чынам дзвюх дзяржаў – сусветных лідараў, СССР і ЗША: «У 80-я выявіла сябе, заявіла пра сябе, закруціла, пацягнула за сабою (па невядомых законах грамадска-духоўнай гравітацыі) новая магутная крыніца энергіі, яшчэ адзін “эпіцэнтр”... нанава, з неспазнанымі раней яснасцю і

жорсткасцю выяўленая праўда ядзернай эры – край бездані, які адкрыўся перад вачамі».

Першыя выбухі ядзернай бомбы ў Хірасіме і Нагасакі сталі не толькі крыніцай пакутаў, хвароб і смерці соцень людзей, яны абвясцілі пачатак новай эры ў гісторыі чалавецтва, паказаўшы верагоднасць яго самазнікнення. Калі ў папярэдніх, нават сусветных войнах грамадства асэнсоўвала магчымасць гібелі дзясяткаў мільёнаў асобных людзей або планамернага знішчэння пэўнай нацыі (напрыклад, яўрэяў), то зараз паступова прыйшло ўсведамленне таго, што воляю аднаго або двух чалавек, якія трымаюць руку на чырвонай кнопцы, можа знікнуць насельніцтва Зямлі ў планетарным маштабе. У публіцыстыцы А. Адамовіча з'яўляецца паняцце «самагенацыд чалавецтва».

Існуе і іншы аспект праблемы, які заключаецца не толькі ў адзіным каласальным па сваёй энергіі і моцы ядзерным выбуху, што прывядзе да гібелі чалавецтва, але і ў накапленні радыеактыўных, атрутных рэчываў у атмасферы ў выніку шматразовых эксперыментаў з асваеннем новага віду зброі.

Такім чынам, праблема далейшага выжывання чалавецтва цесна звязана не толькі з палітычнай мудрасцю і дальнабачнасцю лідараў ядзерных дзяржаў, але і з кардынальным пагаршэннем экалагічнай сітуацыі ў свеце. Галоўную мэту аўтара ў такім выпадку А. Адамовіч бачыць у неабходнасці стварэння «звышлітаратуры», якая б найбольш моцна напружвала свядомасць чытача, раскрываючы яму ўсю праўду, прымушаючы яго ўспрыняць гэтую праўду да канца, не ўхіляючыся ад яе. «Звышлітаратура – гэта ўсяго толькі звышнамаганне таленту (калі ён ёсць), звышнапружанне сумлення (калі ёсць), звышадказнасць твая асабістая за лёс роду чалавечага, чалавецтва» [2, с. 37].

Задачай жа агульначалавечай значнасці, умовай выжывання цывілізацыі публіцыст называе планетарнае вета на войны, катэгарычны адказ ад думкі, што вырашэнне спрэчных палітычных пытанняў можа адбывацца шляхам вайны. «Лепш быць рознымі ў жыцці, чым аднолькавымі ў смерці!» – сцвярджае і заклікае А. Адамовіч [3, с. 202].

На думку публіцыста, галоўныя трагедыі чалавецтва ў XX ст. з'явіліся ланцуговай рэакцыяй. Вобраз часу, які стварае ў сваёй публіцыстыцы А. Адамовіч, базіруецца на асэнсаванні Вялікай Айчыннай вайны як адной з вызначальных падзей XX ст., якая ўплывала на далейшае развіццё еўрапейскай цывілізацыі. Менавіта зло фашызму, жах перад ім парадзіў зло атамнай бомбы, якая ў сваю чаргу стала крыніцай Чарнобыльскай катастрофы, зноў падзяліўшай

гісторыю чалавецтва на два этапы – «да» і «пасля». «Міжволі падумаеш, скажаш: ён, пракляты атам! I не толькі ваенны, але і “мірны”. Як бы пракляцце над ім. Ці не таму, што зброя атамная (а следам і атамная энергетыка) нарадзілася пад знакам фашызму. Усім вядома, што бомба рабілася са страху перад Гітлерам, карычневым монстрам фашызму. Спрабавалі абараніцца ад яго з дапамогай атамнай бомбы і не заўважылі, што ён, гэты монстр, схаваўся ў гэтую ж бомбу. Шмыгнуў у яе, схаваўся і выскаляецца здзекліваю шкілетнаю ўхмылкаю з бомбы» [1, с. 139].

Наступствы Чарнобыльскай катастрофы, як у свой час страты рэспублікі ў Вялікай Айчыннай вайне, немагчыма ліквідаваць нават за некалькі дзесяцігоддзяў. Калі А. Адамовіч пісаў пра абыякавасць кіраўніцтва ў пытаннях перасялення людзей з паўднёвых раёнаў Гомельскай вобласці, узгадваліся такія лічбы: падчас вайны Віцебшчына страціла кожнага другога жыхара, і нават праз 40 гадоў пасля Перамогі шчыльнасць насельніцтва і колькасць працаздольных мужчын тут заставалася значна меншай, чым па Беларусі ў цэлым. Гэтак жа і з Чарнобылем. Інертны партапарат не хацеў разумець, адмаўляючыся ад дапамогі Масквы, што «Чарнобыль – не ззаду, ён наперадзе. На дзесяткі і нават сотні гадоў наперадзе. У сацыяльным, медыцынскім, псіхалагічным плане. Гэта катастрофа глабальная, без перабольшання, найвялікшая ў XX ст. “Ліквідаваць вынікі” Чарнобыля проста немагчыма. Пытанне стаіць так, як хаця б адаптавацца да тых умоў, якія створаны на велізарных тэрыторыях “мірным атамам”...» [1, с. 52].

Літаральна з першых дзён А. Адамовіч прыкладаў намаганні для рассакрэчвання інфармацыі пра наступствы выбуху, імкнуўся далучыць да катастрофы ўвагу найвышэйшага кіраўніцтва рэспублікі і Савецкага Саюза. Ён не толькі дамогся сустрэчы з Сакратаром ЦК КПБ М. Слюньковым, але даслаў ліст М. Гарбачову, вынікам якога стала сустрэча кіраўніка СССР з пісьменнікам і накіраваная ў Беларусь дэлегацыя аўтарытэтных вучоных. Як пазней пісаў А. Адамовіч у артыкуле «Чарнобыль і ўлада» (1990), мэтай звароту да М. Гарбачова было «перш за ўсё праламаць сцяну маўчання вакол самай вялікай трагедыі Чарнобыля – трагедыі Беларусі» [1, с. 4].

А. Адамовіч адкрыта казаў пра замоўчванне маштабаў выбуху, пра неабходнасць канкрэтных дзеянняў – па адсяленні людзей з пацярпелай зоны (куды большай за агульнапрынятый 30-кіламетровы радыус), па стварэнні цэнтра кантролю за доўгатэрміновымі наступствамі аварыі і медыцынскім абслугоўваннем насельніцтва, па запатрабаванні матэрыяльнай дапамогі ад міжнародных фондаў і грамадскіх арганізацый, па аздараўленні дзяцей з забруджа-

ных тэрыторый за межамі рэспублікі, па недапушчальнасці «размазвання» радыяцыі на тэрыторыю ўсёй Беларусі за кошт выкарыстання забруджаных прадуктаў у другіх рэгіёнах. Але толькі праз амаль тры гады пасля аварыі рашэнне аб высяленні і стварэнні радыяцыйных карт было прынята (адбылося гэта пасля з'яўлення ў друку інтэрв'ю А. Адамовіча з А. Сахаравым). Прычынай такой замаруджанасці было перш за ўсё нежаданне партыйнага кіраўніцтва, дзяржаўных ведамстваў прызнаваць глабальнасць праблемы і неабходнасць адказу вінаватых і пераразмяркоўваць сродкі саюзнага бюджэту з мэтай пераадолення наступстваў чарнобыльскага выбуху.

«Наводзячы густы цень на ўсё, што адбываецца ў гэтых (пацярпелых) раёнах – атамнае ведамства дабіваецца галоўнай мэты: зменшыць маштабы бедства» [1, с. 37].

У 1989 г. А. Адамовіч звяртаецца з запытам пад назвай «Дык хто ж заплаціць?» да намесніка Старшыні Саўміна СССР Б. Шчарбіны і міністра атамнай энергетыкі М. Луконіна, дзе ўздымае пытанні, безумоўна, цікавыя большасці беларусаў, у прыватнасці, пра тое, ці праўда, што аддаленыя ад Чарнобыля раёны Магілёўскай вобласці атрымалі такую пагражальную дозу радыяцыі таму, што на іх адагналі радыеактыўныя аблокі з маскоўскага напрамку; ці згодна Мінатамэнерга кампенсаваць хаця б часткова страты беларускай эканомікі ў выніку аварыі на ЧАЭС; хто персанальна адказвае за няўважлівасць да здароўя тысяч людзей на забруджаных тэрыторыях на працягу трох гадоў з моманту катастрофы.

Называючы канкрэтныя прозвішчы і пасады вінаватых у трагедыі, ён адначасова заклікаў да праверкі іншых АЭС на еўрапейскай тэрыторыі Савецкага Саюза з мэтай непаўтарэння падобнай трагедыі. Гэта былі не пустыя разважанні недасведчанага, некампетэнтнага чалавека: А. Адамовіч вывучаў працы вядучых вучоных-фізікаў (у тым ліку П. Капіцы), сустракаўся з А. Сахаравым і адным з кіраўнікоў праекту ЧАЭС акадэмікам В. Лягасавым, які неўзабаве пасля трагедыі скончыў жыццё самагубствам, адчуваючы цяжар асабістай віны. Прыводзіў у сваіх выступленнях і параўнальныя факты з практыкі заходніх краін, кажучы пра тое, што ў ЗША з 1979 г. (пасля аварыі, куды меншай па маштабах за чарнобыльскую), а ў Еўропе з 1981 г. ніводнай АЭС не ўведзена ў карыстанне.

Апошнія гады жыцця А. Адамовіч правёў у Маскве. Літаратурныя выданні Беларусі вельмі павольна пачыналі асвятленне чарнобыльскай бяды, і большасць артыкулаў А. Адамовіча друкавалася ў цэнтральных літаратурна-мастацкіх выданнях («Новый мир», «Литературная газета»), што мела шырэйшы грамадскі рэзананс і верагоднасць водгуку з-за мяжы на ўласна нацыянальную трагедыю.

Як пісаў пазней сам публіцыст, «да пары да часу гэта быў наш выключна вусны жанр – чарнобыльская бяда: з выступленнямі на гэтую тэму не пускалі ні ў друк, ні на тэлебачанне» [1, с. 21].

Па выніках уздзеяння на далейшае паўнавартаснае існаванне беларускага насельніцтва А. Адамовіч параўноўваў чарнобыльскую аварыю з Вялікай Айчыннай вайной: большая частка тэрыторыі рэспублікі была засыпана радыяцыяй, пісаў аўтар. «Першыя тыдні, месяцы Чарнобыля ў нас, на Беларусі, як нідзе, магчыма, нагадвалі 1941-ы. Перш за ўсё – гора і разгубленасць маці і дзяцей, сарваных у бежанства, якія ў адначассе страцілі свой звыклы свет. Колькі разоў гэта адбывалася ў нашай гісторыі!» [1, с. 39]. Цяжка ў гэтым выпадку абвінаваціць аўтара ў мастацкім перабольшанні, асабліва ўлічваючы ўласны партызанскі вопыт А. Адамовіча.

У дыялогу-інтэрв'ю публіцыста з акадэмікам А. Сахаравым «Жыць на зямлі, і жыць доўга» савецкі вучоны – стваральнік вадароднай бомбы таксама разважае пра існаванне дзвюх галоўных небяспек у супрацьстаянні заходняй і савецкай сістэм – экалагічную і ваенную. Зразумела, што яны цесна звязаны паміж сабой.

Публіцыст А. Адамовіч прыцягваў увагу міжнароднай грамадскасці да чарнобыльскай бяды сваімі выступленнямі ў Японіі і ЗША, дзе асэнсаванне нацыянальных катастроф (Хірасіма і Нагасакі, Чарнобыль) ён прыводзіць да разумення неабходнасці стварэння і развіцця новага тыпу высокай, маральнай, гуманістычнай культуры і цывілізацыі, якая б здолела самаабмежаваць матэрыяльныя запатрабаванні за кошт росту духоўных, аб'яднала лепшыя дасягненні рэлігій Усходу і Захаду і дапамагла кожнаму прадстаўніку чалавецтва зразумець: «...табе цяпер дрэнна? Ну, дык вось так бывае і другому, калі дрэнна яму! І чужой бяды не бывае: асабліва пасля Хірасімы, пасля Нагасакі, пасля Хатыні і Катыні. Пасля Чарнобыля» [1, с. 141].

Шырокае абмеркаванне ў друку комплексу чарнобыльскіх праблем паступова станавілася магчымым дзякуючы дэмакратычным пераменам у палітычным жыцці Савецкага Саюза. А. Адамовіч актыўна ўключыўся ў падзеі 1990-х гг. і як грамадскі дзеяч, і як публіцыст. Публіцыстычнай хронікай перабудовы, яе найважнейшых ідэй і змен грамадскага настрою і светапогляду стаў зборнік эсэ і артыкулаў з сімвалічнай назвай «Мы – шестидесятники», апошняя прыжыццёвая кніга пісьменніка. Менавіта перабудову, адной з галоўных мэт якой было дасягненне калі не партнёрскіх адносін, то хаця б кансэнсусу з Захадам, А. Адамовіч бачыў умовай бяспекі сусветнай грамадскасці: «...калі перабудова і раззбраенне, перабудова і мір, выжыванне чалавецтва звязаны напрасткі, значыць:

1. Калі пісаць пра вайну, мір, выжыванне, трэба мець на ўвазе і нашы справы ўнутраныя, перабудову.

2. Кажучы, пішучы пра перабудову, помніць: з ёю надта многае звязана, не проста ўмовы жыцця нашага матэрыяльныя, духоўныя, але і лёс чалавецтва» [2, с. 64].

На думку публіцыста, выбух на ЧАЭС стаў заканамерным вынікам безадказнасці, недысцыплінаванасці, бюракратызму савецкіх чыноўнікаў. Асабліва балючымі вехамі гісторыі Беларусі ён называў Курапаты – «генацыд па-сталінску», Хатынь і «экалагічныя Курапаты» – Чарнобыль. І дзеля таго, каб падобныя трагедыі не паўтараліся ў розных варыяцыях, доўгачасовай задачай публіцыстыкі павінна стаць не толькі раскрыццё праўды пра мінулае, але і скіраваная на будучыню гуманізацыя грамадскага жыцця і ўзаемаадносін людзей на ўсіх узроўнях.

А. Адамовіч вылучаў новы тып чалавека ў яго эвалюцыйным развіцці. Толькі пры такім магчыма далейшае існаванне чалавечага роду: «Чалавек умелы і чалавек разумны – яны свой адрэзак шляху зрабілі. Далей ісці – калі нам гэта будзе дадзена, калі зможам, утрымаемся на краі – чалавеку гуманнаму. Толькі такі і магчымы ў будучым. Іншаму туды не прарвацца, не выйсці» [5, с. 45]. І галоўным у чалавеку гуманным пісьменнік бачыў выхаванне маральнага ўсведамлення недапушчальнасці забойства, якое не можа быць апраўдана ніякімі звышвысокімі ідэямі: «...і, можа, самае важнае ў наш час – выхоўваць у людзей абсалютную павагу да другога жыцця. Выхоўваць разуменне, што мы не маем права адабраць у чалавека жыццё – тое, што ты яму не даваў, і не мог даць, і не можаш вярнуць» [38, с. 7].

Апошнія творы А. Адамовіча малавядомы шырокай аўдыторыі. Мастацка-публіцыстычныя аповесці «Венера» і «Нямко» – гэта філасофскі погляд на савецкую гісторыю, падзеі сталінскіх часоў, жыццёвае і творчае падагульненне аўтарам асэнсавання вядучых для беларускай літаратуры вясковай і ваеннай тэм. Мемуары «VIXI» («Пражытае») – гэта перш за ўсё ўспаміны пра дзяцінства, вайну, маці пісьменніка. Над гэтым творам А. Адамовіч працаваў на бальнічным ложку, пасля перанесенага інфаркту. Калі галоўнай ідэяй ранейшых твораў з'яўляецца недапушчэнне агульнага самагенацыду цывілізацыі, то ў аповесці «VIXI» пісьменнік задумваецца над тэмай смерці асобнага чалавека, асэнсоўваючы яе праз верагоднасць, непазбежнасць уласнага знікнення – і непрыманне гэтага ўсведамлення да апошняга моманту: «У сярэдзіне свайго веку чалавек звычайна растрачвае, разменьвае на іншыя радасці і мэты падараванае дзяцінствам чаканне-веданне, што кожны наступны дзень – зноў шча-

сце, бо жыццё само па сабе – шчасце. Але перад канцом жыцця ўсё можа вярнуцца, не, не пачуццё дзіцячай неўміручасці, а толькі арыфметыка, але якая! Нават калі няма ўжо ўпэўненага ліку на гады, тады – на месяцы, дні. Няхай толькі гадзіны, хвіліны, секунды, але затое – колькі, палічы!» [7, с. 102].

Такім чынам, галоўныя тэмы публіцыстыкі А. Адамовіча, якія акрэслілі асаблівасці адлюстравання вобраза часу ў яго творчасці, – недапушчальнасць трэцяй, і апошняй, сусветнай вайны і прыстасаванне эканамічнай і сацыяльнай палітыкі краін да постчарнобыльскай экалагічнай сітуацыі. Сам жа публіцыст, па словах В. Быкава, – «палітык, навукоўца, творца ўніверсальнай, а то і сусветнай культуры, з аднолькавым правам належыць да немалага ліку лепшых яе дзеячаў як усходнеславянскага, так і заходнелацінскага свету, што першымі выразна зразумелі сутнасць сучаснага зла і актыўна выступілі супраць яго» [15, с. 12].

А. Адамовіч у сваіх творах уздымаў глабальныя праблемы і заклікаў да агульнацывілізацыйнага пошуку іх вырашэння. Гэтым яго публіцыстыка вылучалася на фоне творчасці не толькі беларускіх, але і ўсесаюзна вядомых аўтараў. Нельга не ўлічваць і своеасаблівую цесную тэматычна-ідэйную сувязь мастацкай і філасофска-дакументальнай прозы А. Адамовіча з уласна дакументалістыкай, дакументалістыкі – з публіцыстыкай, узаемны ўплыў розных відаў літаратуры на яго творчасць, актыўную дзейнасць у якасці крытыка. Пісьменнік заўсёды прыўносіць у свае журналісцкія тэксты стылёвыя, кампазіцыйныя і іншыя асаблівасці мастацкіх твораў. Але калі ён адначасова з'яўляецца і таленавітым крытыкам, гэта спрыяе дадатковаму аналітычнаму ўзбагачэнню яго публіцыстычных матэрыялаў, іх канкрэтыцы, скіраванасці да пэўнай аўдыторыі. А. Адамовіч вельмі актыўна выкарыстоўваў у сваёй публіцыстыцы менавіта факты (напомнім, што гэта – аснова асноў любога журналіцкага твора), спасылкі на крыніцы інфармацыі, меркаванні аўтарытэтных у галіне даследаванняў спецыялістаў.

Публіцыстыка А. Адамовіча – яскравы прыклад спалучэння ў асобе аўтара актыўнай грамадзянскай пазіцыі, якая нярэдка вымагала асабістай мужнасці, і таленту аналітыка, што ўмее не толькі даследаваць з'яву ў яе сутыкненні з іншымі феноменамі сацыяльнага жыцця, але і выкарыстаць уласны прафесійны, культурна-філасофскі вопыт у творчасці. Гэта асоба не толькі ўсесаюзнага, але агульнаеўрапейскага маштабу, пісьменнік, які ў сваіх творах, у тым ліку публіцыстычных, шукаў адказу на пытанні, актуальныя для агульнапланетарнага развіцця. Тэмы ядзернага ўзбраення, экалагічнай, эканамічнай, дэмаграфічнай палітыкі Беларусі ва

ўмовах постчарнобыльскага грамадства, пошук сусветнай раўнавагі ва ўмовах абвастрэння глабальных праблем чалавецтва (тэрарызм, канфесійнае супрацьстаянне), якія аналізаваў, даследаваў А. Адамовіч, актуальныя і на пачатку XXI ст. для большасці краін як СНД, так і Заходняй Еўропы, дэмакратычна-хрысціянскай цывілізацыі ў цэлым. Публіцыстыка А. Адамовіча ў многім абапіраецца на яго біяграфічны вопыт, тэма мінулай, апошняй у Беларусі вайны з фашызмам з'яўляецца магістральнай у яго прозе. Публіцыстычныя ж творы пісьменніка скіраваны перш за ўсё на асэнсаванне агульначалавечай будучыні, у тым выпадку, калі яна не знікне пасля чарговага ядзернага выбуху

Публіцыстыка А. Адамовіча, разлічаная на ўспрыняцце шматлікай аўдыторыяй, сведчыць аб дзейснасці і выніковасці грамадзянскай ініцыятывы аўтара. Галоўным яе дасягненнем варта адзначыць перш за ўсё прыняцце канкрэтных рашэнняў па актуальных праблемах тагачаснага грамадства, што з'яўляецца характэрнай прыкметай высакаякаснага публіцыстычнага твора. А. Адамовіч быў адным з аўтараў, які сваёй дзейнасцю спрыяў дэмакратызацыі грамадства ў канцы 1980-х гг., вітаў падзеі перабудовы, выкарыстоўваў публіцыстычнае слова як сродак уплыву на грамадскую свядомасць. Адметнасць вобраза часу, створанага ў публіцыстыцы А. Адамовіча, – у засяроджанасці публіцыста на глабальных праблемах рэчаіснасці, маштабнасці вывадаў і абагульненняў, гіпатэтычнасці аўтарскага мыслення (прагнозы наконт ядзернай будучыні планеты). Творчасць А. Адамовіча заўсёды была скіравана не толькі на адлюстраванне сучасных пісьменніку рэалій, але і ў будучыню.

# БІБЛІЯГРАФІЧНЫЯ СПАСЫЛКІ

1. *Адамовіч А.* Апакаліпсіс па графіку / аўтарыз. пер. з рус. М. Тычыны. – Мінск : Беларусь, 1992. – 159 с.

2. *Адамовіч А.* З «зялёнага сшытка» // Крыніца. – 2000. – № 1. – С. 28–81.

3. *Адамовіч А.* Дадумваць да канца. Аўтабіяграфія-85 // Хатынская аповесць. Публіцыстыка. – Мінск, 1989. – С. 200–224.

4. *Адамовіч А.* Літаратура, мы і час : літ.-крыт. арт. – Мінск : Маст. літ., 1979. – 384 с.

5. *Адамович А.* Мы – шестидесятники: эссе, публицистика. – М. : Сов. писатель, 1991. – 480 с.

6. *Адамовіч А.* Хатынь // Полымя. – 1970. – № 8. – С. 176–180.

7. *Адамовіч А.* VIXI // Полымя. – 1993. – № 11. – С. 3–107.

8. *Адамовіч А., Брыль Я., Калеснік У.* Я з вогненнай вёскі... – Мінск : Маст. літ., 1975. – 448 с.

9. Алесь Адамовіч і час : матэрыялы Адамовічаўскіх чытанняў, 5 вер. 1997 г.: тэмат. зб. / Ін-т літ. імя Янкі Купалы; рэдкал. : Л. Ф. Яўменаў [і інш.]. – Мінск : Міжнар. фонд «Белкнігазбор», 1998. – 103 с.

10. *Андраюк С.* «Быў. Ёсць. Буду» // ЛіМ. – 2000. – 24 ліст. – С. 6.

11. Беларуская савецкая проза : апавяданне і нарыс. – Мінск : Навука і тэхніка, 1971. – 328 с.

12. Беларускі савецкі нарыс : у 2 т. – Мінск : Маст. літ., 1977. – Т. 2 / уклад. і камент. В. Ц. Якавенкі. – 592 с.

13. *Бондар Т.* Будучыня залежыць і ад нас // Полымя. – 2004. – № 1. – С. 3–6.

14. *Быкаў В.* Збор твораў : у 6 т. – Мінск : Маст. літ., 1994. – Т. 6. : Аповесць, апавяданні, драма, публіцыстыка. – 543 с.

15. *Быкаў В.* Алесь Адамовіч – палітык, навукоўца, творца // Крыніца. – 2000. – № 1. – С. 12.

16. *Вайцяшонак М.* Сярод блізкіх людзей : нарысы. – Мінск : Маст. літ., 1988. – 215 с.

17. *Величко В.* К тебе, Отчизна, припадаем, как припадал к земле Антей // Беларус. думка. – 2004. – № 5. – С. 3–16.

18. *Вішнеўскі М.* Заўтрашні дзень // Беларусь. – 1950. – № 6. – С. 22–23.

19. *Вялічка У. П., Шырко В. А., Глушакоў У. С.* Беларусь маладая. – Мінск : Беларусь, 1998. – 638 с.

20. *Гілевіч Н.* Патрыятычнае выхаванне – наша важнейшая задача // У гэта веру : літ. крытыка і публіцыстыка. – Мінск, 1978. – С. 177–182.

21. *Глушакоў У.* Чарнобыльскі шлях // Маладосць. – 2000. – № 9. – С. 91–180.

22. *Гранін Д.* Талент пісьменніка // Крыніца. – 2000. – № 1. – С. 17.

23. *Дамашэвіч У.* Першыя крокі ў незалежнасць // Полымя. – 1994. – № 5. – С. 142–147.

24. *Дубавец С.* Апошняе слова Алеся Адамовіча // ARCHE. – 2001. – № 3. – С. 19–30.

25. *Дубовік С.* Прызванне і абавязак журналіста // Маладосць. – 2000. – № 6. – С. 213–225.

26. *Дуброўскі І.* Не толькі разведка, але і бой // ЛіМ. – 1977. – 18 ліст. – С. 5.

27. *Дуброўскі І.* Такая ў мяне мара // ЛіМ. – 1989. – 6 кастр. – С. 6.

28. Зона бяды : Пісьменнікі, вучоныя, публіцысты пра экалогію / уклад. Т. Чабан. – Мінск : Маст. літ., 1990. – 366 с.

29. *Каваленка В.* Я ведаў яго зблізку // Полымя. – 1997. – № 1. – С. 282–290.

30. *Казько В.* Паміж цюленем і акрабатам, альбо Энергія надзеі // ЛіМ. – 1994. – 1 ліп. – С. 5, 12.

31. *Калеснік У.* Радаводам і талентам… Слова пра Уладзіміра Караткевіча // ЛіМ. – 1998. – 4 снеж. – С. 15.

32. *Караткевіч У.* Збор. твораў : у 8 т. – Мінск : Маст. літ., 1991. – Т. 8, кн. 2 : З жыццяпісу, нарысы, эсэ, публіцыстыка, пастаці, крытычныя творы, інтэрв'ю, летапіс жыцця і творчасці. – 495 с.

33. *Карповіч А.* Пражытае дзеля будучыні. Да 75-годдзя з дня нараджэння Алеся Адамовіча // ЛіМ. – 2002. – 27 верас. – С. 7.

34. *Ким М. Н.* Жанры современной журналистики. – СПб. : Изд-во Михайлова В. А., 2004. – 336 с.

35. *Кісялёў Г. В.* Пісьменнік і яго героі // Героі і музы : гіст.-літ. нарысы. – Мінск, 1982. – С. 236–243.

36. *Клябанаў Д. Ф.* Публіцыстыка канца 1980-х – 1990-х гадоў : эвалюцыя грамадскай свядомасці : дыс. ... канд. філал. навук : 10.01.01. – Мінск, 2005. – 111 с.
37. *Кононова Н. А., Керного Н. З., Сафроненко А. В.* Рабочий : социальный портрет. – Минск : Беларусь, 1974. – 128 с.
38. *Корань Л.* Ёсць абсалюты. З даўняй гутаркі з Алесем Адамовічам // ЛіМ. – 1995. – 20 студз. – С. 6–7.
39. *Лысенка А.* Жанр шматпланавы, аб'ёмны // Маладосць. – 1965. – № 1. – С. 146–152.
40. *Лысенка А.* З трывогай і надзеяй : беларуская публіцыстыка 80-х гадоў. – Мінск : Навука і тэхніка, 1991. – 205 с.
41. *Лысенка А.* На шляху абнаўлення // ЛіМ. – 1989. – 21 крас. – С. 7.
42. *Мальдзіс А.* Быў. Ёсць. І будзе! // Беларусь. – 2000. – № 11. – 12. – С. 5–9.
43. Мы – беларусы / уклад. Т. М. Бондар. – Мінск : ЛіМ, 2003. – 232 с.
44. *Падаляк Т. У.* Маральна-этычныя прыярытэты беларускага. – Мінск : БДУ, 2001. – 83 с.
45. *Палтаран В.* Дзівасіл : нарысы. – Мінск : Маст. літ., 1974. – 192 с.
46. *Паўлаў У.* Сёння і літаратура // ЛіМ. – 1994. – 13 мая. – С. 7.
47. *Праскураў В.* Святая сівізна. – Мінск : Беларусь, 1966. – 36 с.
48. *Праскураў В. Ф.* Чорны хлеб. – Мінск : Ураджай, 1984. – 208 с.
49. Публицистика и информация в современном обществе / под общ. ред. проф. Г. Я. Солганика. – Москва : МГУ, 1999. – 233 с.
50. Публицисты / сост. Л. С. Екель [и др.]. – Минск : Белорус. союз журналистов, 2000. – 495 с.
51. *Сачанка Б.* Родны кут : аповесці, апавяданні, нарыс, эсэ. – Мінск : Маст. літ., 1989. – 381 с.
52. *Саянкова Л.* Журналісты і аўтары // ЛіМ. – 2007. – 9 лют. – С. 12.
53. *Семянчук Г.* Рэцэнзія на кнігу М. Ткачова «Паходня» // ЛіМ. – 1995. – 24 лют. – С. 6.
54. *Сілянкоў А.* Яблыня пад акном : нарысы. – Мінск : Маст. літ., 1983. – 176 с.
55. *Сіпакоў Я.* Дзе мы знаходзімся // Беларусь. – 2002. – № 1. – С. 1.
56. *Сіпакоў Я.* Наша вада // Беларусь. – 2002. – № 9. – С. 1.
57. *Сіпакоў Я.* Нашы замкі // Беларусь. – 2004. – № 1. – С. 1.

58. *Сіпакоў Я.* Нашы дарогі // Беларусь. – 2003. – № 6. – С. 1.
59. *Сіпакоў Я.* Нашы святыні і сімвалы // Полымя. – 2006. – № 2. – С. 41–46.
60. *Сіпакоў Я.* Нашы хаты // Полымя. – 2005. – № 4. – С. 170–175.
61. *Сіпакоў Я.* Спадзяванне на радасць : апавяданні, эсэ. – Мінск : Маст. літ., 1983. – 247 с.
62. *Слука А. Г.* Нацыянальная ідэя народа (генезіс праблемы). – Мінск : РІВШ, 2005. – 428 с.
63. Сучаснік : нарысы / уклад. В. Ц. Мыслівец. – Мінск : Маст. літ., 1977. – 288 с.
64. Сучаснік-80 : нарысы, публіцыстыка, хроніка / уклад. А. Казловіч. – Мінск : Маст. літ., 1980. – 223 с.
65. Сучаснік-86 : нарысы, публіцыстыка, хроніка / уклад. В. Супрунчук. – Мінск : Маст. літ., 1986. – 302 с.
66. Сучаснік-88 : нарысы, публіцыстыка / уклад. В. Супрунчук. – Мінск : Маст. літ., 1988. – 342 с.
67. *Шчарбатаў Г.* Беларуская літаратура і задачы ўздыму сельскай гаспадаркі // Полымя. – 1953. – № 12. – С. 109–118.
68. *Шынкарэнка В.* Пад ветразем дабра і прыгажосці : жанравастылявыя асаблівасці прозы Уладзіміра Караткевіча. – Мінск : Навука і тэхніка, 1995. – 177 с.
69. *Юрэвіч У.* Абрысы : выбр. літ.-крыт. арт. – Мінск : Маст. літ., 1976. – 434 с.
70. *Якавенка В.* Твар у твар з рэчаіснасцю. – ЛіМ. – 1977. – 15 крас. – С. 6.
71. *Яскевич Я. С.* Основы идеологии белорусского государства : вопросы и ответы. – Минск : ТетраСистемс, 2004. – 303 с.

# ЗМЕСТ



Навуковае выданне

**Туміловіч** Наталля Вячаславаўна

**ВЫПРАБАВАННЕ ЧАСАМ: ПУБЛІЦЫСТЫЧНАЕ АСЭНСАВАННЕ РЭЧАІСНАСЦІ**

У аўтарскай рэдакцыі

Адказны за выпуск *А. А. Федасеева*
Мастак вокладкі *Т. Ю. Таран*
Тэхнічны рэдактар *Т. К. Рамановіч*
Камп'ютарная вёрстка *Л. Л. Мацюшонак*
Карэктар *В. І. Багдановіч*

Падпісана да друку 27.12.2011.
Фармат 60×84/16.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 6,04.
Ул.-выд. арк. 6,81.
Тыраж 100 экз. Заказ 127.

Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.
ЛВ № 02330/0494425 ад 08.04.2009.
Пр. Незалежнасці, 4, 220030, Мінск.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецкі цэнтр Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта».
ЛП № 02330/0494178 ад 03.04.2009.
Вул. Чырвонаармейская, 6, 220030, Мінск.